*Аўтары-ўкладальнікі кнігі выказваюць удзячнасць*
*спадарам Любаміру Рэгаку,*
*Аляксандру Мілінкевічу, Іне Кулей*
*за падтрымку гэтага выдання*

**Пушкін :** мастацтвазнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі і нарысы, інтэрв'ю з мастакамі, рэпартажы з выстаў жывапісу. — Віцебск : Misericordia, 2013. — 248 с.

Зборнік артыкулаў журналістаў і мастацтвазнаўцаў прадстаўляе шырокаму колу чытачоў і аматараў жывапісу living rознабаковую творчасць Аляксандра Пушкіна.

Кніга прысвечана багаццю беларускіх мастацкіх талентаў, у ёй адлюстравана глыбокая плынь духоўнага супрацоўніцтва, выяўлена прыгажосць і напоўненасць унутранага свету гістарычных персанажаў і нашых сучаснікаў.

# Уступ

Алесь Пушкін — адзін з шэрагу сучасных беларускіх мастакоў нон-канфармістаў, якія паслядоўна і непахісна адстойваюць у мастацтве ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, ствараюць гістарычныя рэканструкцыі, вяртаюць да жыцця партрэты выбітных дзеячаў культуры, ваяроў, герояў Полацкага княства, ВКЛ і Рэчы Паспалітай, дзеячаў БНР — насельнікаў старажытнай і сучаснай беларускай дзяржавы.

Яго творчасць працягвае традыцыі беларускіх жывапісцаў XIX стагоддзя — В. Ваньковіча, А. Гараўскага, Ф. Рушчыца, М. Сільвановіча, якія, атрымаўшы фундаментальную адукацыю ў сценах Акадэміі мастацтваў у Пецярбурзе, станавіліся акадэмікамі жывапісу, развівалі традыцыі лірычнага пейзажу, пісалі выдатныя партрэты, стваралі праўдзівыя вобразы герояў свайго часу.

Па велічы задумаў і маштабу дзейнасці праца Пушкіна сугучная ідэям майстроў эпохі Высокага Адраджэння. Роспіс і аздабленне вялікіх паверхняў грамадскіх і культавых памяшканняў, стварэнне вобразу гарманічнага, духоўна і фізічна дасканалага чалавека, спалучэнне натуральнасці выявы з ідэалістычнасцю задумы — гэтыя рысы ўласцівы і нашаму сучасніку Аляксандру Мікалаевічу Пушкіну.

Пушкін — мастак, якому па сілах любыя тэмы і новыя задачы. Ён раскрыўся як адораная асоба, што

жывіцца неўміручым духам нацыянальнай культуры. Ён спалучае ў сваёй творчасці рысы высокага прафесіяналізму, духоўнай шчырасці і няўтольнай прагі наватарства. Яго партрэтная галерэя славутых сыноў Бацькаўшчыны адзначана псіхалагізмам і раскрыццём унутранай велічы і моцы. Такімі паўстаюць Францішак Скарына, Сафія Слуцкая, Багуслаў Радзівіл, Вінцэнт Гадлеўскі і іншыя выбітныя асобы.

Творам Алеся Пушкіна ўласціва філасофскае і алегарычнае асэнсаванне мінулага і сучаснага Радзімы, аптымістычны позірк у будучыню. З тонкім пачуццём у творчасці ўвасоблены ўзнёслы ідэал жаноцкасці і прыгажосці.

У той жа час Алесь Пушкін, як хрысціянін па перакананні, працягвае адну з асноўных творчых ліній па рэканструкцыі і аднаўленні хрысціянскіх святыняў.

Творы мастака дэманстраваліся ў Літве, Нямеччыне, Польшчы, Швецыі, Украіне, знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, у музеях іншых краін, прыватных зборах і калекцыях. У 2009 годзе Алесь Пушкін быў узнагароджаны прэміяй «За свабоду думкі».

Некаторыя з нарысаў кнігі апавядаюць пра калегаў, сяброў і паплечнікаў А. Пушкіна па суполцы «Пагоня» Саюза беларускіх мастакоў — А. Марачкіна, Г. Драздова, М. Купаву, пра яго творчы асяродак.

Выданне носіць культурна-асветніцкі, мастацтвазнаўчы, праваабарончы і катэхізічны характар. Кніга паказвае пераемнасць духоўных традыцыяў вернікаў і мастакоў, апавядае пра няпросты сацыяльны асяродак, у якім даводзіцца працаваць сучасным творцам.



*На пленэры ў Сухэй, 2010 г.*

# Алесь Пушкін

## Малюнкі дзяцінства

— На Божы свет я з'явіўся 6 жніўня 1965 года, а літаральна праз некалькі дзён, калі мяне збіраліся ў першы раз купаць, здарыўся вельмі цікавы і містычны выпадак. Да нас прыйшоў міліцыянер. Побач з мястэчкам здарылася нейкая аварыя, і ён высвятляў усе абставіны. Я даволі часта думаю пра гэты Знак. Шмат хто перакананы: пры першым купанні трэба ўважліва сачыць за ўсім, што адбываецца, бо нешта можа сведчыць пра далейшы лёс немаўляці.

Невыпадкова беларусы лічаць, што купанне трэба праводзіць у прысутнасці дзеда і бабы. Класці залатую манетку ў ванначку. Альбо пакласці пад яе кніжку, каб дзіця расло разумным і цягнулася да ведаў. Гэта вельмі важная рэч.

Мабыць, той выпадак паказвае, што ўсё жыццё будзе супрацьстаянне дзяржаўнага чалавека і мяне.

Тата, Мікалай Іванавіч Пушкін, меў тады сорак адзін год. Ён нарадзіўся ў мястэчку Бобр (Крупскі раён Мінскай вобласці) у 1924 годзе, а памёр у 2007-м. Пражыў тут усё жыццё. Дарэчы, адсюль усе нашы



*Мікалай і Ганна Пушкіны і іх дзеці*

продкі па яго лініі. Дзед Іван Дамэнтавіч Пушкін жыў з 1898 па 1978 год, прадзед Дамэнта Канстанцінавіч Пушкін таксама нарадзіўся і памёр у Бабры. Тут са сваімі дзецьмі цяпер жыву і я. Так што як мінімум пяць пакаленняў Пушкіных паходзяць з мястэчка Бобр.

Вельмі каштоўна, што, нягледзячы на дзве сусветныя вайны, калектывізацыю, часы «чорных варанкоў», Курапатаў, паездак на цаліну і г. д., наш род жыве на адным месцы на працягу пяці пакаленняў. Ганаруся гэтым і цаню. Мне прыемна, што я хаджу па зямлі, па якой хадзіў мой прадзед, збіраю грыбы ў тым лесе, дзе мой дзед вязаў мётлы, гляджу на рэчку, дзе тата некалі лавіў рыбу.

Тата працаваў электрыкам на Бобраўскім лесапільным заводзе, што вырабляў дэталі для піяніна «Беларусь». Гэта быў філіял вядомага барысаўскага завода, а дрэвы для распілоўкі туды прывозілі з Усходняй Сібіры — цудоўныя елачкі, якія вытрымалі вельмі моцныя маразы. Вагонамі — у Беларусь, каб тут працягваліся «прыродныя спевы».

Маці звалася Ганнай Іпалітаўнай Пушкінай (дзявочае прозвішча — Сільмановіч). Яна з вёскі Ухвала, што ў 30-ці кіламетрах ад Бабра ў бок Бялыніч. Калі я нарадзіўся, яна ўжо не працавала. Інвалід другой групы.

Чаму? Адразу пасля вайны яна працавала на падсочцы і збірала смалу. У вялікія снежныя пасляваенныя зімы хадзіла ў гумовых ботах. Яе бацькоў нават «да начальства» выклікалі за тое, што яна прыдумала і спявала ў школе частушку: «Слава Сталину-грузину, что он выдумал резину»...

Гумовыя боты, што яна надзявала на ногі, каб збіраць смалу, з якой потым на каніфольнай фабрыцы рабілі серпанціну, шкіпінар, каніфоль, і сталі прычынай поліартрыту. Мяне і сястру выхоўвала ўжо хворай.

Святлана, на год старэйшая за мяне, таксама жыве ў Бабры. Я вельмі рады, што мы часта сустракаемся ў бацькоўскай хаце, дзе зараз месціцца мая майстэрня, вечарамі разам п'ем гарбату і пра нешта гаворым. Для нашага часу гэта даволі рэдкая з'ява. Часцей бывае так, што адзін ва Уладзівастоку альбо Алма-Аце, а другі, скажам, у Брэсце.

У мяне быў яшчэ старэйшы брат Сяргей, які ў 37 год, на жаль, памёр ад гарэлкі. А яшчэ быў — Аляксандр Мікалаевіч Пушкін. Нарадзіўся ён у 1960 годзе і пражыў толькі адзін годзік. На нашых могілках ёсць магіла менавіта з такім надпісам.

Праз чатыры гады яго імя далі мне. Цяпер трэба пражыць за дваіх.

## Першыя фарбы

Прыкладна з 6-ці гадоў я пачаў маляваць. І быў такім дзіцём, якое не вельмі цягнецца да кампаній. Усе дзеці хадзілі на рэчку альбо ў кіно, а я заставаўся дома і маляваў. Калі мне было 13 гадоў, у нашым раённым цэнтры праходзіў нейкі конкурс, куды прыехаў мастак з Мінску. Дакладней, са школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Ахрэмчыка, што зараз называецца Рэспубліканскім каледжам мастацтва. Звалі яго Пётр Пятровіч Шарыпа. Тады ён быў у нашым раёне ў камандзіроўцы. У райцэнтр сабралі таленавітых дзяцей з вясковых школ, і ён праводзіў тэсты — мы рабілі кампазіцыі, нацюрморт, малявалі алоўкам, акварэллю, а з тыльнага боку пісалі свой хатні адрас і асабістыя дадзеныя.

У траўні 1978 года мы атрымалі запрашэнне прыехаць у Мінск на Валгаградскую, 1а (зараз вуліца Макаёнка) і прайсці другі

тур экзаменаў на паступленне. Заснаваў гэтую школу-інтэрнат знакаміты Рыгор Шырма ў 1962 годзе, а мэта — сабраць туды з усёй краіны таленавітых дзяцей. Спачатку яна месцілася пры Оперным тэатры, а ў другой палове шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя пабудавалі асобны будынак. У ім яна размешчана і сёння. Жывапіснае месца, парк Чалюскінцаў, пяць карпусоў, якія пераходамі злучаюцца паміж сабой. Гэта побач з дзіцячай чыгункай і насупраць шпіталя КДБ.

Школа была закрытага тыпу, дзе нас выпускалі за яе межы толькі з дазволу выхавальніцы. Як салдат у арміі.

Бацька мой паступіў мудра — магчымасць вучыцца ў сталіцы ён вітаў вельмі шчыра. Так пасля пяці класаў сярэдняй школы вёскі Бобр я стаў працягваць вучобу ў Мінску.

Да таго ж мой тата бачыў, што ў нашым раёне ёсць адзін мастак-афарміцель, які малюе леніных-марксаў, атрымлівае шмат грошай і можа купляць тыя ж цукеркі «Мішка на поўначы» амаль кілаграмамі альбо піць самы дарагі каньяк. Ён марыў, каб такім жа багатым, заможным стаў і я. Ён так і казаў — навошта табе ўсё жыццё цягаць дошкі на станок на нашым лесазаводзе, вывучышся, будзеш пісаць нешта накшталт «Слава КПСС!» і зажывеш вельмі добра.

Мы паспяхова здалі тры экзамены, а ў жніўні прыйшоў ліст, дзе пісалася, што я залічаны ў гэтую вучэльню. Не скажу, быццам бы для маёй маці гэта было нечым асабліва радасным. У нашым мястэчку «школа-інтэрнат» выклікала пэўныя асацыяцыі з «неблагополучными семьями», і ёй не вельмі хацелася аддаваць туды свайго сына. Аднак бацька на гэты конт быў непрыступны — вучыцца.

Пётр Пятровіч Шарыпа стаў маім першым настаўнікам. Дзякуй Богу, ён жывы і сёння і дагэтуль там выкладае. Не так даўно мы бачыліся на пасяджэнні суполкі «Пагоня» і дамовіліся ў будучым кантактаваць рэгулярна.

Вучыўся я да 1983 года, і калі была абарона маёй дыпломнай працы («Вясковыя ганчары» паявіліся пасля паездкі ў Івянец), менавіта ён быў маім кіраўніком і даў характарыстыку на паступленне ў тагачасны Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які зараз стаў Акадэміяй мастацтваў Беларусі.

Адвучыўся ў школе восем гадоў. Капітальныя адукацыя. Мы малявалі там цэлымі днямі і начамі. У класе было 16 чалавек —

шэсць хлопцаў і дзесяць дзяўчат. За межы школы-інтэрната выходзілі даволі рэдка. Думалі толькі пра мастацтва.

## Палітра жыцця

У Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце мая вучоба цягнулася сем гадоў. Чаму так доўга? Таму што ў іх уваходзяць два гады вайсковай службы. Пасля першага курса мяне прызвалі ў знакамітую 40-ю агульнавайсковую армію, якая ваявала ў Афганістане. Дакладней, у 181-ы верталётны полк, што месціўся ў Кундузе. Служыў з 1984 па 1986 год.

Адразу пасля звальнення ў запас аднавіўся на другі курс. Гэта ўжо быў час (сапраўдны росквіт) перабудовы. У 1990 годзе я зрабіў дыпломную работу «Гісторыя сваёй школы», якая там ёсць і сёння. Больш за 20 гадоў. Дарэчы, менавіта за яе мяне прынялі ў Саюз мастакоў СССР. Чырвоная скураная кніжачка захавалася дагэтуль.

Беларусь быццам бы прачнулася ад сну і пачала хутка адраджацца. Гэтая хваля свабоды літаральна захліснула мяне. Я ездзіў на выставы ў Рыгу, Вільню, Маскву, Санкт-Пецярбург. Першыя Вальныя соймы маладзёвых суполак. Паяўленне «Талакі», «Майстроўні», святкаванне «Гукання вясны» ў парку Янкі Купалы. На базе чацвёртага курса я стварыў першую суполку БНФ (1988 г.).

На гэты ж час прыходзіцца і першая «адсідка». Арыштавалі мяне за ўлёткі, якія клеіў на фасадзе нашага інстытута перад «Дзядамі» 1988 года. 15 сутак. Колькі іх будзе потым, я нават і не лічыў. Затым было святкаванне 25 сакавіка 1989 года 71-ай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Я стварыў Дэкларацыю сацарту. Асабіста напісаў 12 плакатаў, якія мы хацелі несці на плошчу Леніна, але дайсці далі толькі да Дома друку. Там і пахапалі. Арыштавалі 130 чалавек. За гэта мне тады далі два гады ўмоўна і пяць гадоў «поражения в правах», але вучоба працягнулася.

Тата гэтага зразумець не мог. У іх час мяне б у лепшым выпадку адправілі ў Сібір «валіць лес», а тут такая дэмакратыя. Словам, на сваім лёсе я адчуў, што ў краіне нешта змянілася.

У 1990 годзе мяне размеркавалі ў Віцебск і адразу ўзялі на ўлік у мясцовай міліцыі. Працаваў у мастацкім камбінаце, рабіў

персанальныя выставы. Напэўна, цяпер такой адноснай свабоды ў Беларусі ўжо няма. З вучэбнай установы выключылі б адразу...

Чаму абраў менавіта гэты горад? Таму што ў Віцебска цудоўная гісторыя. Там працавалі Малевіч і Шагал. Спачатку я там уладкаваўся на працу ў мастацкі камбінат і нават атрымаў інтэрнат. Потым знайшоў сабе майстэрню, купіў мальберт і пачаў рыхтаваць першую выставу, якая называлася «Сацарт. Дэкларатыўнае мастацтва». Напісаў адпаведны маніфест і зрабіў перформанс: сеў на асла і з голубам у руцэ 25 сакавіка (Дзень Волі) пад гукі духавога аркестру праехаўся па Віцебску. І адразу са словамі: «Ён прынясе нам свабоду!» гэтага голуба адпусціў. Ніякіх «дазволаў» на такія мерапрыемствы з боку ўлады тады не існавала. І ўвогуле — час быў іншы.

Мне дазволілі адкрыць першую ў горадзе, і адну з першых у краіне, прыватную галерэю. 50 квадратных метраў. Недалёка ад музея Марка Шагала. Лабараторыя эксперымента «У Пушкіна» праіснавала да 1997 года, калі цэнзура вярнулася зноў.

Паралельна некаторы час працаваў мастаком у Віцебскім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. І чатыры з паловай гады ездзіў кожны тыдзень у Магілёў. Тры гадзіны язды на цягніку. Туды мяне запрасіў Фелікс Янушкевіч. Дакладней, Беларуская каталіцкая грамада, якую ён узначальваў. Гэта быў час адраджэння храмаў — каталіцкіх і праваслаўных.

Я рэстаўраваў і аднаўляў там архікатэдру Святога Станіслава, цяпер гэта Кафедральны касцёл Унебаўзяцця Святой Дзевы Марыі. Велічэзны.

Тыдзень працаваў у Магілёве, а на выходныя ехаў у Віцебск. Сілаў хапала на ўсё.

Магілёў — прыгожы горад, і час тады быў вельмі цікавы. У горадзе рэстаўравалі каля двух з паловай тысяч квадратных метраў фрэсак, стварылі фестываль «Магутны Божа», правялі шмат выстаў. У тым ліку і маіх.

Дарэчы, менавіта там я пазнаёміўся з будучай жонкай Янінай Дэмух. Яна працавала настаўніцай у сваім Стаўбцоўскім раёне і прыехала ў наш касцёл на вакацыі. Жонка — каталічка, муж — праваслаўны. Вельмі ўласціва нашай Беларусі.

Мы бралі шлюб у 1997 годзе. Выхоўваем дваіх дзетак.

## Колеры будучыні

Мястэчка Бобр паходзіць з 1516 года. Гэта афіцыйнае ўзгадванне ў летапісе. Думаю, з'явілася яно крыху раней. У Бабры «да камуністаў» было дзве сінагогі, касцёл і праваслаўная царква. У 1936 годзе яе разабралі і прадалі на дровы.

Зараз у нашым мястэчку жывуць 1100 жыхароў, з якіх 78% — пенсіянеры. 50 чалавек раней былі асуджаныя. У школе вучыцца 150 хлапчукоў і дзяўчынак, а ў дзіцячы садзік ходзіць усяго 30 дзяцей. І адзін — мастак. Прыемна.

Невыпадкова тата, калі адрадзілі царкву, з гонарам сказаў: «Яе будзе распісваць мой сын». Так і павінна быць у жыцці. Прызначэнне чалавека ў тым і заключана, каб вяртаць «даўгі» зямлі, якая яго нарадзіла і выхавала.

На жаль, менавіта з гэтай царквой звязана найбольш сумная падзея апошніх 15-ці гадоў майго жыцця. Яна з'яднала мой з Янінай лёс. Там я хрысціў сваіх доўгачаканых дзетак (Міколку — чакалі шэсць год). Адпяваў маму і тату... З таго, што я зрабіў у сваім жыцці, гэта работа была самай важнай.

17 лютага 2011 года, з дзвюх да чатырох гадзін раніцы, яе не стала. Калі ў 8 гадзін я туды прыйшоў, убачыў адны галавешкі і тры званы, якія засталіся на званіцы. Усе абразы згарэлі, а фрэскі абсыпаліся. Мароз тады быў — мінус 25. Пажарныя палівалі са шлангаў, усё цякло па сценах і замярзала, а потым разбуралася і абсыпалася. Уявіце — на гарачыя сцены льецца ледзяная вада...

Патрэскалася нават падлога, хаця і была зроблена з керамічнай пліткі.

Мабыць, такой была Божая воля. Нават калі пажару «дапамаглі» нейкія спецслужбы, без жадання Яго нічога б не адбылося. Як кажуць, факт застаецца фактам. Гэтую царкву адраджалі ўсёй вёскай. Прастаяла 15 гадоў. Зараз усяго гэтага зноў няма. Трэба пачынаць з нуля. Быццам бы ўсім нам нехта кажа — калі вы любіце сваю краіну, мястэчка і верыце ў Бога, рабіце ўсё наноў. Атрымліваецца своеасаблівая «перазагрузка». Але і мая віна ёсць! Грэшны...

Так, былі памылкі. Так, царква распісвалася ў 1996 годзе, калі я эмацыйна рэагаваў на падзеі. Канешне, было і лукаўства, калі ў «Судным дні» намаляваў пэўных людзей. Паказваў гэта

журналістам, якія зубаскалілі і задавалі складаныя пытанні бацюшку. Той чырванеў і не ведаў, што адказаць.

Вакол кіпела шмат страсцей. Была рацыя. На фрэсцы па правым баку ад Хрыста стаялі праведнікі, па левай — грэшнікі. Анёл трубіў у трубу, і пад ёй — людзі. Усё было вельмі пазнавальным. Дзякуючы таму, што дакументы былі ў парадку, а эскіз зацвердзілі, сем гадоў яе ніхто не чапаў. Пасля таго, як у 2005 годзе яе паказалі «Вести недели» (РТР), літаральна на наступны дзень у Бобр прыехалі протаіерэй Мінскай епархіі Мікалай Коржыч і з ім два невядомых чалавека. Фрэску замалявалі валікамі.

Цікава, як я ўвогуле пачаў там працаваць. 1995 год. Пасля слоў таты, я зрабіў і прынёс на пасяджэнне царкоўнага камітэта праект на трох планшэтах (зараз іх ужо няма). «Дваццатка» (колькасць чальцоў) усё гэта ўважліва разгледзела, бабулі пасадзілі мяне ў машыну (тры селі побач) і павезлі на споведзь да благачыннага айца Івана Місіюка, які тады быў галоўным у нашай акрузе. Споведзь, як у першых хрысціян, была публічнай, і калі я нешта спрабаваў замаўчаць пра сваіх дзяўчат, бабулі адразу задавалі адпаведныя пытанні. Толькі пасля гэтага благачынны даў блаславенне і зацвердзіў яго пячаткай. Гэта потым выратавала і дазволіла фрэскам пасля існаваць да «цэнзарскіх валікаў».

...Зразумела, што пасля таго, як царква згарэла, людзі казалі — з-за Пушкіна, таму што там быў намаляваны Лукашэнка. Магчыма, і так. Але менавіта яны вырашылі, што адраджаць фрэскі буду таксама я.

Жартую, што пасля пажару ў мяне было тры шляхі.

Першы. Спіцца, паламаць пэндзлі, выкінуць палітру, бо такая Божая воля і Яму не да спадобы такое мастацтва.

Другі — з'ехаць у эміграцыю, бо ў Беларусі працаваць мне не даюць.

Трэці шлях. Зноў брацца за работу па аднаўленні нашай царквы.

Яго і абраў.

**Гутарыў Аляксандр Тамковіч**
**З кнігі «Лёсы»**



*«Вясновае сонца», 1997 г.*
*Музей У. Караткевіча, г. Ворша*

# Прыярытэты ў мастацтве

**«Прызначэнне мастацкай вучэльні — рабіць культуру на шырокіх прасторах, каб яна не была сканцэнтравана ў Мінску, а каб выпускнікі ехалі ў свае гарады, упрыгожвалі родныя мястэчкі, плошчы, вуліцы, пісалі пейзажы, распісвалі школы і дзіцячыя садкі, ставілі помнікі, — лічыць Пушкін.**

— У Магілёве ёсць цудоўны музей таленавітага беларускага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, які працаваў у канцы XIX стагоддзя і развіваў традыцыі лірычнага пейзажу, — распавядае Алесь Пушкін. — Эмацыянальным і змястоўным творам мастака характэрны мяккі каларыт.

Ёсць галерэя Паўла Масленікава, які нарадзіўся ў вёсцы Нізкая Вуліца на Магілёўшчыне і падарыў у канцы жыцця 140 карцінаў Магілёўскаму мастацкаму музею.

Сёння ў Бялынічах натхнёна працуюць Ларыса Журавовіч, мая аднакласніца, скульптар Андрэй Ве-

раб'ёў. У Гародні гарадское асяроддзе ўпрыгожваюць Сяргей Грыневіч, Вікторыя Ільіна, Аляксандр Сільвановіч. Скульптар Валеры Янушкевіч стварыў помнікі Ф. Скарыну, К. Каліноўскаму, М. К. Агінскаму, паэту Адаму Міцкевічу ў Наваградку.

З Віцебскіх мастакоў вельмі паважаю Ісака Бароўскага — цудоўнага мастака-партрэтыста, які прайшоў вайну. Генадзь Шутаў, акварэліст сталага веку, стварыў школу акварэлі ў Віцебску. Цікавыя працы ў Васіля Васільева, канцэптуаліста, Алеся Мемуса, лірычнага тонкага мастака.

Мне вельмі падабаюцца сучасныя пейзажы Валерыя Шкарубы, Аляксандра Грышкевіча.

Значныя творы ў каваля Юрася Мацко.

У Мінску ўражвае саламянымі інсталяцыямі Артур Клінаў. Багатая творчасць у мастачкі Вольгі Сазыкінай, Руслана Вашкевіча.

З творцаў савецкага часу вельмі паважаю Гаўрыілу Харытонавіча Вашчанку за яго сумленнае служэнне беларускаму мастацтву. У яго творах заўсёды адчуваўся агонь, захопленасць і моц. У 1968 годзе, у тыя далёкія часы, ён адлюстраваў нашых асветнікаў у Доме настаўніка ў Мінску. Манументальная праца запачаткавала нашых дзеячаў у мастацтве, што было смелым на тыя часы.

Гаўрыіл Вашчанка і Алег Хадыка былі маімі аўтарытэтамі ў савецкі перыяд. Гаўрыілу Харытонавічу зараз 84 гады, выкладчыцкай дзейнасцю ён займаўся 38 гадоў, узначальваў кафедру. Палотны яго захоўваюцца ў Траццякоўцы, у Пушкінскім музеі. І, канешне, на Захадзе. Ён мае персанальную галерэю на Гомельшчыне. Гаўрыіл Харытонавіч частку карцінаў падараваў землякам.

**— Хто з класікаў жывапісу з'яўляецца для Вас найбольш дарагім?**

— З сусветных майстроў цаню Андрэя Рублёва, Рэмбранта, Яна Вермеера Дэльфтцкага, Веласкеса, Эль Грэка.

Люблю манументальны жывапіс — фрэскі захоўваюцца стагоддзямі. Карціны і выявы, напісаныя на дошках, на жаль, падвяргаюцца разбурэнню, раструшчванню.

Жывапіс Андрэя Рублёва вызначаюць асобая чысціня колеру, высокасць танальных пераходаў, уменне перадаць каларыту светаноснасць ззяння. Святло лучаць не толькі залатыя фоны, арнаментальныя асісты, але і пяшчотная плаўкасць светлых лікаў, чыстыя

адценні охры, ясна-блакітныя, ружовыя і зялёныя тоны адзення анёлаў. Сімвалічнасць колеру ў іконе адзначаецца ў гучанні сіняга і блакітнага.

Спасцігаючы прыгажосць і глыбіню зместу, імкненне да міру і згоды, да маральнага ўдасканалення, мы далучаемся да ўнутранага свету Андрэя Рублёва, спасцігаем думкі, укладзеныя ў яго творы.

Для мяне каштоўнымі з'яўляюцца таксама рэлігійныя працы Сальвадора Далі. Некалькі гадоў таму ва Львове праходзіла выстава сучасных абразоў, рэлігійна-духоўнага мастацтва ў розных формах: габелен, аб'ект, інсталяцыя. На Захадзе такая творчасць развіта сярод пратэстантаў. У касцёлах Чэхіі я таксама бачыў мадэрнісцкія матывы. На Беларусі ёсць непаўторна аформлены касцёл у Смаргоні. Манахі-салезіяне працуюць з моладдзю, прымаюць розныя формы рэлігійнага мастацтва. Сучасныя творцы, як Уладзімір Кандрусевіч, таксама інспіруюць людзей думаць пра Бога.

Сёння лепшыя майстры па мазаіцы, леўкасах, разьбярству зноў сканцэнтраваны ў манастырах, і гэта правільна.

**— Якая Ваша мэта ў мастацтве?**

— Мая мэта ў мастацтве... Якая мэта можа быць у спевах салаўя, прыгажосці кветкі, прыроды? Не ведаю, як адказаць на гэтае пытанне... Я бываю найбольш шчаслівы і задаволены сабою і жыццём, калі малюю свае карціны. Вось дзеля гэтага і жыву. Вядома ж, разумею, што жыву і павінны знайсці сваё месца ў вялікім, сур'ёзным свеце прафесійнага мастацтва, з яго больш чым чатырохтысячагадовай гісторыяй. Адпаведна, мэта мая — быць патрэбным, любімым і паважаным у гэтым сур'ёзным свеце.

**— На якой ступені развіцця знаходзіцца сучаснае беларускае мастацтва?**

— Сучаснае беларускае мастацтва зараз знаходзіцца на высокай ступені развіцця, калі параўноўваць яго з самім сабою (па ўсёй гісторыі прынамсі беларускага мастацтва). Але ў параўнанні з сучасным сусветным працэсам, які вядзе мастацтва XX стагоддзя да нейкага завяршэння, то ёсць пэўнае адставанне. Яно і на дабро, бо поўнасцю не знішчаецца і не нівелюецца свая мастацкая школа, якая была і на працягу стагоддзяў (разьбярства, фрэскавыя

размалёўкі, іканапіс, кераміка), так і зараз — напрыклад, графіка, рэалістычны нацюрморт, партрэт, краявід, разьбярства (не блытаць са скульптурай). Дрэнна, што няма: а) структураванага артрынку, б) мастацтвазнаўчага разгалінавання, в) попыту на ўсё гэтае з-за беднасці краіны, г) галерэй, куратараў ды мецэнатаў.

**— Ці ў стане асоба мастака змяніць ход развіцця мастацтва?**

— Вядома, у стане. Але не з ног на галаву, не кардынальна. Маё мастацтва мае грамадзянскае значэнне. Мастак рэфлексуе на тэмы сённяшняга дня.

**— Ці рэальны ў Беларусі шырокі мастацкі рух?**

— Рэальны. Ён ёсць, толькі вельмі кволы і слабы.

**— Якія віды выяўленчага мастацтва Вашы ўлюбёныя?**

— Роспісы і аздабленне інтэр’ераў хрысціянскіх пабудоваў, станковы жывапіс, сцэнаграфія, перформансы, касцюм, плакат. Дый лад жыцця.

**З гутарак з журналістамі**



*«Маці, мальвы і сланечнікі», 2000 г.*

# Пад шапаценне ліпаў і хвой

**— Пётр Пятровіч Шарыпа праводзіў адбор у інтэрнат, ён быў маім выкладчыкам на працягу шасці гадоў і зараз па-ранейшаму выкладае ў каледжы імя Ахрэмчыка, — прыгадвае Алесь Пушкін. — Выбар педагога быў падмацаваны цвёрдым рашэннем майго бацькі, каб я вучыўся ў Мінску.**

Інтэрнат быў у некаторым сэнсе закрытай установай, на працягу тыдня заняткі працягваліся, выходзіць у горад было непажадана, а па заканчэнні вучобы праводзіліся практыкі і пленэры ў Ратамцы, Крывічах, Чэхаўшчыне. Там мы малявалі пейзажы з натуры. Вучні пісалі эцюды, малявалі ў парку, вакол школы. Выязджалі на Высокі Бераг на Нёмане, у Каралінава, Нясвіж. Прырода і архітэктура выклікала захапленне.

Клас «А» рыхтаваў музыкаў, клас «Б» — мастакоў. Са мной у класе «Б» вучыліся мастакі Алесь і Ірына Сільвановіч, яны зараз працуюць у Гродна, Ларыса Журавовіч з Бялынічаў, якая скончыла аддзяленне графікі Акадэміі мастацтваў.



*«Вясковыя ганчары».*
*Фрагмент дыпломнай работы, 1983 г.*

У класе «А» вучыліся Ігар Сацэвіч, джазавы выканаўца, які выступае ў гурце «Яблычны чай», і Аляксандр Сапега, цудоўны музыкант (на 2 гады старэйшы за мяне).

Непадалёку ад школы-інтэрната цягнулася алея са старажытнымі ліпамі, што, магчыма, былі пасаджаны ў часы Ваньковічаў, якія валодалі блізкімі мясцінамі.

Побач быў парк Чалюскінцаў, былы лес Ваньковічаў. Увосень клёны пачыналі жаўцець, лісце кружылася ў паветры, навяваючы задумлівы настрой, падалі жалуды і каштаны.

Першая мая жывапісная праца называлася **«Вясковыя ганчары»**. Яна захоўваецца ў школьным музеі. Да 90-годдзя Максіма Багдановіча ў 1981 годзе я падрыхтаваў партрэт маладога лірыка.

Дыпломнай працай быў роспіс роднай школы-інтэрната. Роспіс сцен і столі займаў 215 квадратных метраў, стварэнне яго доўжылася паўгода. Ён зроблены палівініла-ацэтатнай тэмперай, добра захаваўся на столі, на сценах — меней. Роспіс передае гісторыю школы.

Там былі выявы нашых духоўных настаўнікаў з мінулага і сучаснасці: Ф. Скарыны, М. Агінскага, А. Міцкевіча, А. Таркоўскага, У. Высоцкага. За гэту працу мяне прынялі ў Саюз мастакоў СССР. На здачы прысутнічалі прафесары Акадэміі мастацтваў, майстар старадаўніх інструментаў Уладзімір Пузыня. Мой бацька і сястра Святлана прыязджалі на гэту падзею.

**Гутарыла Эла Дзвінская**


*Пётр Пятровіч Шарыпа*

# Шляхам Ваньковіча і Рушчыца

**Алесю Пушкіну пашанцавала ў тым, што яго акружалі сардэчныя людзі. Адзін з іх — выкладчык каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка Пётр Пятровіч Шарыпа. Пётр Пятровіч быў гэтыя гады Алесю як родны, клапаціўся пра яго.**

Сам каледж нібы прытулак музаў: на сценах — безліч карцін, партрэтаў. У інтэрнаце захоўваюцца дыпломныя працы мастакоў і скульптараў.

— У тыя часы ў нас былі камандзіроўкі па адборы талентаў, — узгадвае Пятро Пятровіч. — У адзін з дзён я накіраваўся ў Крупкі. Мне прывялі 20 дзяцей, я даў ім заданне выканаць кампазіцыю і пасля адабраў лепшыя працы. Сярод іх быў і малюнак Пушкіна. Па выніках экзамену мы выклікалі дзяцей на вучобу. Пушкін быў прыняты ў каледж у 6-ы клас. Ён патрапіў у маю групу на жывапіснае аддзяленне і так да канца школы заставаўся пры мне.

Алесь вельмі многа працаваў самастойна. Цяпер дзяцей у майстэрню не загнаць, а тады яны самі



*Фрагменты роспісаў каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка ў Мінску*

імкнуліся. Алесь пачаў настойваць, каб уваход у клас дазваляўся да 21-й гадзіны, зладзіў забастоўку і перамог. Такі дазвол быў дадзены.

У інтэрнаце ўсё знаходзіцца блізка: і сталовая, і бібліятэка — можна не выходзіць за межы. Побач клас гісторыі мастацтваў, ёсць аўдыторыя замежнага мастацтва, кабінет анатоміі. Выхаванцы штудзіравалі сусветны і айчынны жывапіс. Ад мастакоў ва ўсе часы патрабуецца бездакорнае веданне анатоміі, дасканаласць святлаценяў, мадэліроўкі, прыгажосць і пругкая энергія штрыха. Дзеці не толькі зубрылі косткі і мускулы, а даведваліся, як яны ўздзейнічаюць на тыя ці іншыя душэўныя рухі чалавека. У карцінах Рафаэля не былі б дасягнутыя суразмернасць і гармонія, каб ён не быў выдатным знаўцам анатоміі.

У Акадэміі мастацтваў Алесь Пушкін атрымліваў Скарынаўскую стыпендыю для выдатнікаў, у першаю чаргу дзеля гэтага трэба было мець вышэйшыя адзнакі па прафесійных прадметах.

Мы вазілі дзяцей у гістарычныя вандроўкі — у Хатынь, Белавежскую пушчу, потым у Кіеў, Вільню, Маскву, Ленінград на тры дні. Міністэрства адукацыі выдаткоўвала сродкі на дарогу, каб

дзеці маглі далучыцца да скарбніцы мастацтваў, пабачыць сусветныя шэдэўры жывапісу.

Перш за ўсё адчуваеш адказнасць за вучняў. Гэта ж дзеці, яны прыйшлі спасцігаць мастацтва, ім трэба ў час дапамагчы, падтрымаць. Яны яшчэ мала ведаюць, работа ідзе сумесна, палову робіць настаўнік. Вядома, ёсць і задавальненне. Значная частка выхаванцаў паступаюць у Беларускую акадэмію мастацтваў. Нашы былыя вучні прыйшлі сюды працаваць настаўнікамі. Дырэктар заўсёды казаў: нашу школу праславіла Святлана Гарбунова, якая ўсталявала ў Нясвіжы помнік Сымону Будnaму.

Роспіс Пушкіна «Парнат» — незвычайны. Гэта фрэска, змешаная тэхніка.

Пушкін хадзіў, збіраў фарбы па інтэрнаце, па майстэрнях, бо грошы яму не давалі.

Тут адлюстраваны нашы настаўнікі, дзеткі, і я тут. Побач — вучні музычнага аддзялення са скрыпачкай, з кантрабасам, ля фартэпіяна, усе — канкрэтныя асобы. Каля іх напісаны вядомыя беларускія музыкі і кампазітары сучаснасці: Яўген Цікоцкі, Мікалай Аладаў, выкладчыкі музыкі ў каледжы і вучні. Пушкін зрабіў так смела, што быў намаляваны былы дырэктар школы. Там, дзе рушацца ідалы мінулага, звяргаюцца сімвалы былых часоў.

У верхняй частцы — людзі, якія праславілі мастацтва, — Леанарда да Вінчы з палітрай у руках, мастакі Беларусі: В. Ваньковіч, Н. Сільвановіч.

Наш былы настаўнік Уладзімір Слабодчыкаў паставіў помнік у Верхнім горадзе В. Ваньковічу каля яго музея. Ён прысвяціў калегу з мінулага мемарыяльную дошку, бюст і помнік. У двухстах метрах адсюль знаходзіліся дом і майстэрня Ваньковіча. Ён сябраваў з Манюшкам і Міцкевічам, пісаў партрэты беларускіх шляхціцаў ды магнатаў і пакінуў свой след у салонным зрэзе культуры. У Ваньковіча была багатая сядзіба, калекцыя работ, сярод іх знаходзіўся партрэт Альберта Дзюрэра, пасля рэвалюцыі ўсё згінула ці было прададзена.

Непаўторным майстрам пейзажу быў **Фердынанд Рушчыц**. Значная частка яго жывапісу, у асноўным, зроблена ў мястэчку Багданава Валожынскага раёна. У Польшчы ён займаўся выкладчыцкай дзейнасцю, тэатрам, а пісаў часцей краявіды родных мясцін.

Вядомай постаццю ў беларускім пейзажным жывапісе з’яўляўся **Апалінар Гараўскі.** Мастак нарадзіўся ў Мінскай губерні, адукацыю атрымаў у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, дзе яго здольнасці прыцягнулі ўвагу выкладчыкаў. Пасля заканчэння акадэміі ён быў узнагароджаны залатым медалём. Пейзажы А. Гараўскага былі прыкметны жыццёвай праўдай і высокім тэхнічным майстэрствам. Мастак быў вядомы не толькі ў Расіі, але і за мяжой, ён атрымаў званне акадэміка жывапісу. А. Гараўскі, асабісты сябра рускага мецэната П. Траццякова, дапамагаў у збіранні яго славутай калекцыі. Некаторыя работы беларускага мастака зараз знаходзяцца сярод экспанатаў Траццякоўскай галерэі.

Майстрам бытавога жывапісу з’яўляўся **Мікадзім Сільвановіч**. Атрымаўшы адукацыю ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, ён стварыў шэраг кампазіцый у бытавым жанры. У рэалістычнай манеры мастак выканаў карціну «Пастух са Свянцяншчыны». Творы Сільвановіча прынеслі яму высокі аўтарытэт сярод пецярбургскіх мастакоў, пра што сведчыла запрашэнне да ўдзелу ў афармленні Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. За мазаічнае пано «Тайная вячэра» Сілівановічу прысвоілі ганаровае званне акадэміка.

У канцы XIX стагоддзя разгарнулася творчая дзейнасць таленавітага беларускага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Ён развіваў традыцыі лірычнага пейзажу. У ранні перыяд былі напісаны карціны «З ваколіц Пяцігорска», якую набыў П. Траццякоў для сваёй калекцыі, «Вясна ідзе», што прынесла аўтару першую прэмію Маскоўскага таварыства аматараў мастацтваў. Шчырыя сяброўскія адносіны звязвалі мастака з І. Рэпіным.

**Пётр Сергіевіч** многа працаваў на Беларусі — распісваў касцёлы, зрабіў шмат тэматычных карцін, партрэтаў нашых дзеячаў, у прыватнасці К. Каліноўскага.

Вучні нашага каледжа ўсё гэта вывучаюць, знаходзяць матэрыял, рыхтуюць рэфераты.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка ў сваёй майстэрні*

# Жыццесцвярджальная мэта мастацтва

**У прасторнай залі-майстэрні народнага мастака Гаўрыіла Вашчанкі на вуліцы Сурганава вісяць партрэты яго родных: бабулі, брата, нявесткі, бачны Прыпяцкі краявід — побач тое, што сілкавала творчасць мэтра ўсё жыццё. Сівы чалавек са светлымі блакітнымі вачыма і спакойнымі рухамі, падобны да Купалаўскага гусляра, апавядае стройна і акадэмічна.**

Народны мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Гаўрыіл Харытонавіч Вашчанка доўгі час узначальваў кафедру манументальнага мастацтва ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Ён прысвяціў 38 гадоў выкладчыцкай дзейнасці. Выпусціў са сцен акадэміі больш за 200 студэнтаў. Яго працы знаходзяцца ў 32 музеях Расіі, Беларусі, Балгарыі і Украіны. Гаўрыіл Харытонавіч атрымаў мастацкую адукацыю на Украіне. Пасля 6 гадоў па размеркаванні працаваў у Малдавіі. А маляваў толькі Беларусь.

«Кожнае палатно Г. Вашчанкі «дыхае» сваёй асаблівай «колеравай ідэяй», наскрозь пранізанай той мастакоўскай філасофіяй, дзе глыбока закладзены нерв праўдашукання, дзе свеціцца ўсхваляваная і спагадлівая душа», — пісаў Б. Крэпак.

«Паэтычны свет Гаўрыіла Вашчанкі — калейдаскоп, у якім сыходзіцца спектр розных колераў і адценняў, мудрагелістых абрысаў. У той жа час, у яго творчасці закладзена таямніца, якая і завецца «ўрачыстасцю мастацтва». І гэтай «урачыстасцю», гэтай глыбіннай магутнасцю, цудоўнасцю колерапластыкі паэзіі ён размаўляў з гледачом, застаючыся заўсёды самім сабою».

Сяргей Харэўскі ўключыў палатно «Жнівень» (1975) Г. Х. Вашчанкі ў спіс 100 найлепшых твораў беларускага мастацтва XX стагоддзя. Шэраг палотнаў мастак прысвяціў важным падзеям беларускай гісторыі: «Грунвальдская бітва» (1985), трыпціх пра паўстанне Кастуся Каліноўскага «За зямлю, за волю» (1983), «Балада пра мужнасць» (1974).

Г. Х. Вашчанка стварыў запамінальныя вобразы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Канстанціна Астрожскага, Льва Сапегі. Нацыянальную бібліятэку ўпрыгожвае трыпціх «Адвечнае».

У мастака ёсць і свая «імянная» карцінная галерэя ў Гомелі. Яна была пабудавана ў 2002 годзе. Тут адбываліся ўрачыстасці, звязаныя з яго 80-годдзем. Галерэя размяшчаецца на вуліцы Карповіча, 4. Там адбываюцца выставы сучасных мастакоў, праходзяць конкурсы малюнкаў таленавітай моладзі з вучэльняў. На першым паверсе — зменная экспазіцыя. На другім выстаўляліся працы мастака і яго вучняў.

Сёння выпускнікі кафедры манументальнага мастацтва Беларускай Акадэміі мастацтваў вядуць упрыгожванне нефаў сучасных храмаў, дэкараванне сталі мазаікай, роспісы сучасных будынкаў у асноўнай частцы. Сярод гэтых творцаў — Аляксандр Ксяндзоў, Камал Гаджыеў, Сяргей Цімохаў і іншыя. Усе яны з вялікай ўдзячнасцю узгадваюць свайго настаўніка Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанку і лічаць яго адным з высокіх маральных аўтарытэтаў.

**— Гаўрыіл Харытонавіч, у Вас было цяжкое пасляваеннае дзяцінства, але Вы з усіх сілаў імкнуліся вывучыцца і дасягнуць дасканаласці ў прафесіі.**

— Пасля вайны наша мама выхоўвала мяне і брата разам з бабуляй Сынклетай і дзедам. Яна ніколі не скардзілася, працава-

ла з ранку да вечара. Маці ўласнаручна ткала палатно, рабіла коўдры з поўсці авечак. Запомніўся мне вятрак дзеда Міхаіла, які я адлюстраваў на палатне.

Аднойчы мая мама Надзея Міхайлаўна ўзяла мяне на службу ў храм, а паколькі мне, хлопцу, было сумна, я падняўся на калакольню і паназіраў за наваколлем. З той пары ў мяне на ўсё жыццё засталося ўспрыняццё краявіду з птушынага палёту. Наша вёска знаходзілася ў 8 кіламетрах ад Прыпяці і ў 9 — ад Дняпра, на кірмаш мы ездзілі ў Камарын або Чарнобыль.

У 1947 годзе я паступіў у Кіеўскую мастацкую вучэльню. Мне здавалася ў паводку, што Днепр нясе ў сваіх водах рэчы з нашай вёскі. Я вельмі ўдзячны свайму брату, які дапамагаў мне матэрыяльна ў тыя часы.

**— Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра Вашых выхаванцаў.**

— Мае вучні прадстаўляюць сучаснае мастацтва ў станковым жывапісе.

Выстава **«Майстра і майстры»** адбылася з удзелам маіх вучняў Р. Несцерава, С. Цімохава, В. Нямцова, З. Ліцвінавай, А. Ксяндзова.

Зараз кафедру манументальнага мастацтва ўзначальвае Уладзімір Зінкевіч. 50-годдзе кафедры было адзначана выставай у Акадэміі мастацтваў.

У гэты новы перыяд ёсць вялікая патрэба ва ўпрыгожванні культавых забудоваў. Цяпер студэнты Акадэміі мастацтваў робяць дыпломныя працы і вывучаюць усё, звязанае з пабудовай і дэкараваннем храмаў. Гэта праца зараз вельмі запатрабаваная. У сувязі з новымі рэаліямі часу мае вучні працуюць па трох напрамках: першая частка займаецца выставачнай дзейнасцю, другая — па прыватных замовах, трэцяя працуе над аздабленнем храмаў і культавых будынкаў.

**— Ці не маглі б Вы ўзгадаць, якім быў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 80-я гады? Якія тэндэнцыі ўласцівы Акадэміі мастацтваў зараз?**

— Я пераехаў у Мінск з Малдовы ў канцы 50-х гадоў і прайшоў па конкурсе выкладчыкам у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут на кафедру манументальнага мастацтва. У СССР гэта была трэцяя па велічыні вучэльня пасля Маскоўскага Сурыкаўскага інстытута і Ленінградскай акадэміі. У тыя часы рэктарам БДТМІ быў вядомы мастак з Магілёўшчыны Павел Масленікаў. Там выкладалі знаныя

і вопытныя скульптары А. Глебаў і А. Бембель. Мне было крыху за трыццаць, а вакол працавалі прызнаныя майстры. З тых часоў каля 40 гадоў я займаўся выкладчыцкай дзейнасцю.

Я атрымліваў адукацыю ў Кіеўскай вучэльні прыкладнога мастацтва, потым — у Львоўскім інстытуце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Львоў быў заходнееўрапейскім горадам з высокім узроўнем культуры і адукацыі. Не настолькі разбураны вайной, ён прадстаўляў у арыгіналах Рэнесанс і барока, класіцызм і мадэрн.

Студэнты знаёміліся з творамі Веласкеса, Эль Грэка, Леанарда і Тыцыяна. Вывучалі не толькі манументальны жывапіс, але і кераміку, тэкстыль, інтэр’ер. Прафесары, якія там выкладалі, вучыліся ў Парыжы, Мюнхене, Рыме, Вене. На прыкладах сусветных шэдэўраў яны вучылі адчуванню колеру і формы, свабодзе самавыяўлення, раскаванасці думкі.

У Мінску на кафедры БДТМІ я марыў увасобіць дэмакратычны дух Львова. Мы шукалі найбольш эфектыўныя метады для выкладання малюнка, кампазіцыі, перспектывы, тэхнікі жывапісу, правядзення пленэрнай і вытворчай практыкі. Мы стварылі праграмы і методыкі, запрасілі выкладчыкаў па кераміцы, мастацкай апрацоўцы дрэва.

Калі прыехаў у Мінск Аляксандр Дайнэка з Акадэміі мастацтваў СССР, які курыраваў рэспубліканскія навучальныя ўстановы, ён ухваліў кафедру за сувязь з архітэктурай, практыку навучання вітражу, фрэскам, тэкстылю.

У 70–80 гады ішлі моцнымі тэмпамі горадабудаўнічыя працы. Існавала вялікая патрэба ў афармленні і аздабленні грамадскіх памяшканняў. Гэта быў перыяд росквіту выяўленчага мастацтва. Асноўныя працы выконваліся праз Мастацкі камбінат, на які архітэктары накіроўвалі заказы.

У перыяд росквіту быў цэх манументальнага мастацтва, куды звярталіся заказчыкі. Там існаваў мастацкі савет. У залежнасці ад характару працы размяркоўваліся заказы. Архітэктар мог звярнуцца персанальна да майстра, але працы выконваліся праз камбінат.

Былі замовы свецкага характару: мазаікі, вітражы. Калі распаўся Савецкі Саюз, значныя горадабудаўнічыя працы адышлі на другі план. Але з’явілася шмат людзей з дастаткам, якія робяць роспісы і вітражы ў сваіх катэджах. Яны не маюць такога гучання, як будынкі грамадзянскага прызначэння.



*«Леў Сапега», Гаўрыіл Вашчанка*

**— Вашы вітражы і пано ўпрыгожваюць Мінск, натхняюць вашых паслядоўнікаў.**

— Калі я рабіў пано «Асветнікі» ў Доме настаўніка, прынёс эскіз на ўзгадненне з архітэктарам. «Мне эскізы падабаюцца, але я іх не падпішу», — сказаў архітэктар. На эскізе былі распрацаваны выявы філосафаў і асветнікаў розных часоў — Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, С. Полацкага.

Перад гэтым праходзіў ідэалагічны пленум ЦК, дзе выкрывалася як адмоўная з’ява зварот мастакоў да царкоўнай і філасофскай тэматыкі. Я зрабіў пано на свой страх і рызыку. Потым, калі агонія прайшла, усё стала ўспрымацца нармальна. Пазней я выконваў афармленне Палацу хімікаў у Светлагорску «Зямля Светлагорская».

Падчас працы над эскізамі для вітражоў Чырвонага касцёла на пачатку 70-х гадоў мяне выклікаў адказны сакратар ЦК па ідэалогіі Кузьмін і сказаў: «Ведаеце, у мяне ляжаць сотні лістоў вернікаў, каб вярнуць касцёл. Вашы вітражы падыходзяць і да касцёла». Матывы іх былі блізкія да ўспрыняцця вернікаў. А хіба гэта дрэнна! Пераехаў Дом кіно, вітражы засталіся для касцёла. Яны былі класічнымі, у іх прымянялася свінцовая пайка.

Кінатэатр «Масква» я афармляў да Алімпіяды-80, ліў вітражы на заводзе ў Бярозаўцы. Вітражы былі літыя, звязуючая паміж імі — эпаксідная смала.

**— Якія прынцыпы Вы выхоўвалі ў моладзі?**

— Ёсць мастацтва, якое стварае і ўпрыгожвае, ёсць такое, якое разбурае. Мастацтва павінна быць жыццесцвярджальным. Гэтую думку я імкнуўся давесці маім выхаванцам.

Мы, педагогі, працуем з маладымі асобамі вельмі пільна. Я імкнуўся разгледзець у іх індывідуальнасць, зразумець іх схільнасці, развіць і накіраваць. Таму ў кожнага з іх — свой індывідуальны стыль.

Я вучыў маладых, і яны вучылі мяне. Яны сталелі, а я, гледзячы на іх, не спяшаўся старэць.

Студэнты прыходзілі да мяне, і пра многія рэчы мы размаўлялі шчыра і адкрыта. Са студэнцкіх гадоў Алесь Пушкін вызначаўся фактурай і высокім прафесійным узроўнем.

Аднойчы Алесь прыйшоў да мяне і кажа:

— А што, калі я праеду па праспекце на белым кані з бел-чырвона-белым сцягам?

— Саша, а што будзе, калі цябе скінуць з каня ці ты ўпадзеш, і сцяг зваліцца ў бруд, і яго зганьбяць?

— Пра гэта я не падумаў, — задумаўся Пушкін.

Потым я сказаў Пушкіну: «Калі ты будзеш ухіляцца ў палітыку, ты можаш не вырасці як сапраўдны прафесіянал».

Алесь — вельмі перспектыўны і вельмі таленавіты чалавек. Я жадаю яму ўсяго самага лепшага на жыццём шляху.

**— Надзейнай бухтай заўсёды была для Вас сям'я. Усё жыццё Вас падтрымлівала жонка Мацільда Адамаўна.**

— Яна — полька і каталічка па паходжанні, педагог па адукацыі. Мы пазнаёміліся з ёй у Львове ў адной з кавярняў падчас маёй вучобы, дзе разам слухалі спевы барытона Паўла Лісіцыяна. З таго моманту, як нас з'яднала музыка, мы разам усё жыццё. На срэбранае вяселле я падарыў ёй карціну «Матчыны крылы». На залатое вяселле мы з ёй вянчаліся. Нашы сыны Мікалай і Канстанцін — таксама творчыя асобы. Канстанцін — сябра трох творчых саюзаў — мастакоў, дызайнераў і журналістаў.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



# Віцебскі перыяд. Леў і сонца




*А. Пушкін ля чыгуначнага вакзала ў Віцебску*

# Па знаёмых вуліцах

**«Віцебск! Імя бліскучае і пранізлівае, як усплёск святла на вастрыні ляза», — піша сучасны малады празаік.**

«Віцебск — адзін з першых хрысціянскіх цэнтраў Беларусі, старажытнае свяціла сузор'я Полацка, Турава, Смаленска. Для ўсіх часоў праслаўлены Маркам Шагалам, геніяльным авангардыстам, што склаў з асколкаў віцебскіх вулачак, вокнаў, скрыпак і нявестаў сусветны калейдаскоп сімвалаў. Віцебск — культурная сталіца Беларусі. Тут праводзіцца 18 мастацкіх фэстаў за год — больш, чым у двухмільённым Мінску. Міжнародны фэст імя Салярцінскага, фэст сучаснае харэаграфіі, бальных і спартовых танцаў, конкурс гітарнае музыкі «Менестрэль», джазавы форум «Віцебская восень», нацыянальны фэст мадэльераў «Белая амфара», пленэр імя Хруцкага.

У Віцебску знаходзіцца адзін з двух нацыянальных акадэмічных тэатраў — Коласаўскі, збудаваны на

месцы колішняга княскага замку. Віцебск — радзіма кампазітара Барадзіна, аўтара старыка Хатабыча Лазара Лагіна, і горад дзяцінства Самуіла Маршака».

Жнівеньскім днём мы сустрэліся з Пушкіным пад гадзіннікам на чыгуначным вакзале ў Віцебску. Да рэканструкцыі на шурпатай сцяне аднаго са старэйшых вакзалаў на Беларусі вісела вялізная рэпрадукцыя карціны І. Рэпіна — «Запарожцы пішуць ліст турэцкаму султану», каля якой у залі чакалі цягнікоў і гутарылі з роднымі, елі булачкі і пілі ліманад.

Цяпер жоўтыя яркія ліхтары асвятляюць плошчу як днём. Няспынна пад'язджаюць тралейбусы, аўтобусы, таксоўкі.

— 21 год таму, у кастрычніку 1990 года, я прыбыў у Віцебск па размеркаванні, — пачынае свой аповед Алесь Пушкін.

Мы сядаем у тралейбус № 1 і едзем па месцах, звязаных з яго працай у старажытным горадзе.

— Мне прапаноўвалі Гомель, Берасце і Віцебск, — працягвае Алесь. — Выбар трапіў на горад Шагала і Малевіча.

Я падышоў да кіёска Гордаведкі на прывакзальнай плошчы і спытаў, дзе знаходзіцца Камбінат мастацтваў. На першым тралейбусе паехаў на вуліцу Праўды — там знаходзіцца Саюз беларускіх мастакоў у Віцебску. Я да сённяшняга часу з'яўляюся яго сябрам.

Я быў у той час яршысты, не з усімі вітаўся. Кан'юнктуршчыкам мог рукі не падаць. Тым, хто маляваў Леніна, руку ціснуць не хацелася. Такія, хто не пісаў Леніна, безумоўна, былі. Адзін з іх — Аляксандр Салаўёў, старэйшы віцебскі творца, заслужаны дзеяч мастацтваў, мастак-экспрэсіяніст.

Тады да мяне прыглядаліся, зразумеўшы мой характар, заказаў давалі вельмі мала. Давялося афармляць сталовую ў Расонах, у кіраўніка прадпрыемства афармляць офіс.

Мне выдалі мальберт, выдзелілі пакой у інтэрнаце на праспекце Пераможцаў. Там, на 11-м паверсе, я і пасяліўся разам з мастаком Іванам Рабцэвічам. Па суседстве з намі жылі рачнікі, якія плавалі на баржах па Дзвіне. Летам яны сплаўлялі плыты і іншыя грузы, а ўзімку адпачывалі ў горадзе. Помню іх сакавіты гоман, жарты. Яны крыху кпілі з нас, маладых мастакоў.

Да пачатку 90-х гадоў у доме Марка Шагала жыла габрэйская сям'я. Яны падтрымлівалі існаванне легенды пра свайго земляка. Зэля Мендзелевіч і Раіса Рыгораўна прымалі гасцей, распавядалі

ім пра жыццё Марка Шагала і Бэлы Розенфельд, у іх захоўваўся альбом з рэпрадукцыямі карцін з розных гарадоў свету. Яны збіралі аўтографы наведвальнікаў дома. Госці былі з ЗША, Францыі, з Ізраіля.



*Вітраж «Ной»*

Неяк вырашыў знайсці памяшканне для першай майстэрні ў цэнтры горада. Звярнуўся да начальніка ЖЭСа і папрасіў у карыстанне падвальнае памяшканне па вуліцы Урыцкага, 17.

Той малады яшчэ начальнік, смаленскі хлопец, згадзіўся. Ён сказаў: «І будзеш ты сядзець на хлебе з вадой». Я пасля напісаў яму некалькі карцінаў. У тым раёне ёсць невялічкі хлебазавод. У пахмурныя восеньскія дні водар свежага хлеба перамешваўся з пахам апалага лісця і напаўняў паветра. З ракі веяла прахалодай і гушчынёй траваў, вербаў, дзядоўніку.

Неаднойчы спускаўся да ракі. Назіраў, як схіляюцца да вады вербы, сцелюцца ўздоўж плыні стужачкі асакі. Раку акаляе мноства зяляніны. Звычайна берагі Дзвіны засяляе цыкорый, ззяюць блакітныя зорачкі на доўгіх сцяблінках...

Мы з Алесем падышлі да будынка непадалёку ад сквера. На сцяне суседняга дома па вуліцы Урыцкага прымацавана мемарыяльная дошка — тут жыла народная артыстка Беларусі Зінаіда Ігнатаўна Канапелька, лаўрэат прэміі «Крыштальная Паўлінка».

На акне, дзе была першая майстэрня, у той час Алесь зрабіў вітраж «Ной» з галубом. Вітраж не захаваўся, але сваё акенца Пушкін адразу пазнаў. Мы спусціліся па прыступках у даволі чыстае падвальнае памяшканне. Зараз там пакой адпачынку слесараў і рамонтнікаў. Пакой прыбраны, акуратны. На сцяне з вакном

з тых часоў вісіць выява Госпада з Турынскай Плашчаніцы. Па другі бок — рэпрадукцыя Моны Лізы. Пастаяўшы моўчкі некалькі хвілін, мы крочым далей.

— Першыя, з кім я пасябраваў у горадзе, былі барды, — працягвае аповед Алесь. — Яны запрасілі мяне на фестываль «Лістапад», і я аформіў для іх сцэну ў памяшканні гарадской філармоніі. Аднадумцамі і сябрамі ў тыя часы сталі Ларыса Міхневіч, старшыня Віцебскага абласнога фонду культуры, Пётра Васілеўскі, Марына Куноўская і іншыя.

Ідучы пешшу па цэнтральнай вуліцы горада, утульнага, прыгожага і з любоўю адноўленага, мы з Алесем спускаемся ўніз з горкі да будынка ратушы, бачым ззяючыя купалы Свята-Уваскрэсенскай царквы — новы знак гістарычнага цэнтру. Перасякаем вуліцу ля фантанаў з дзяўчатамі, што плешчуцца ў хвалях, і набліжаемся да будынка, дзе адбывалася першая персанальная выстава Алеся Пушкіна. Яна мела назву **«Пушкін у Віцебску. Першая выстава артэфактаў, інсталяцый і аб'ектаў».** На доме быў прымацаваны старажытны герб «Леў і сонца», вісела доўгая расцяжка «Vivat Albarussia».

— У цэнтры Віцебска, па вуліцы Леніна, 35 А, 25 сакавіка 1991 года адбылася першая мая выстава. Яна прайшла ў Абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці, дзе ёсць дзве залі. Былі выстаўлены 27 прац. Пасля цырымоніі адкрыцця я сеў на асла, дзве дзяўчыны і духавы аркестр суправаджалі мяне на вуліцы Суворава, раней гэта была вуліца Узгорская, потым — на Успенскую горку.

Адной з дзяўчат была Света Бень, цяпер вядомая артыстка. На Успенскай горцы павіншаваў усіх з 25 сакавіка, з Днём абвяшчэння Незалежнасці, выпусціў белага голуба і сказаў: «Ён прынясе нам свабоду!». Гэта было ў той краіне, якая мела назву СССР, яшчэ да путчу. Мне ніякага пакарання не зрабілі, не скруцілі, не арыштавалі. Заўважце, якая ступень свабоды!

Выстава мела моцны рэзананс. Пра яе напісалі «Советская Белоруссия» і часопіс «Мастацтва».

Было вельмі прыемна, што ўдалося прыехаць у гэты горад і заявіць пра сябе. Працы былі напісаны часткова на апошнім курсе Акадэміі мастацтваў, а некаторыя тут.



*Будынак галерэі «У Пушкіна» па вул. Суворава, 2, 1994 г.*

«Працы віцебскага перыяду» (1990–1997) — так я цяпер называю тую падборку карцін. Там былі прадстаўлены выявы гарадскога пейзажу. Правінцыйны мастачок у капелюшы з пяром. Партрэт Леры Сом напісаны ў той жа майстэрні ў 1992 годзе, ужо пасля выставы.

Другая мая майстэрня знаходзілася па вуліцы Крылова, 7.

У сярэдзіне 90-х гадоў будынак быў аддадзены пад памяшканне Духоўнай семінарыі і вучылішча.

На першым паверсе тут размяшчаецца Віцебская епархіяльная публічная бібліятэка ім. Сапунова. Мы з Алесем падняліся ў круглую канферэнц-залу на другім паверсе. У 1992 годзе тут праходзілі сумесныя вечарыны і імпрэзы з удзелам паэтаў і мастакоў, выставы. Цяпер тут адбываюцца духоўныя чытанні, ходзяць семінарысты.

Падыходзім да дому на вуліцы Суворава, 2, дзе знаходзілася памяшканне першай галерэі **«У Пушкіна»**. Зараз старажытная вуліца цалкам адрэстаўраваная, на ёй знаходзіцца мноства кавярняў, крамаў.

Будынак у 1992 годзе быў у кепскім стане, тут давялося зрабіць рамонт. На верхні паверх вяла крутая лесвіца.




— Сяржук Сакалоў-Воюш зрабіў анонс у газеце «Беларус» у Нью-Ёрку. «Ідэя Пушкіна з галерэяй вартая падтрымкі, сябры, збярыце грошы». Яны сабралі 2000 долараў. На тыя часы іх хапіла, каб адрэстаўраваць будынак, адрамантаваць памяшканне ўнутры. Атынкавалі фасад, вокны, умацавалі рамы. Мне дапамаглі Альдона Загорскіс і Юры Сяргееў з Віцебска.

Тут праходзіў потым шэраг цудоўных выстаў: жывапіс і фота, імпрэзы, чытанні. Выстаўляліся працы маіх сяброў, з якім я вучыўся: Руслана Вашкевіча, Ігара Цішына, Аляксея Вялікжаніна, Наталлі Залознай, Сяргея Грыневіча, Вікторыі Ільіной, Юрася Анушкі, Алеся Ксяндзова, Сяргея Цімохава.

У кожнага было па адной рабоце — першы праект постмадэрністаў. Мастацтвазнаўца Міхал Баразна быў куратарам галерэі.

Вось як адгукалася на падзею газета «Народное слово» 27 сакавіка 1993 года:

*«В Витебске открылась первая приватная галерея современного искусства.*

*В Центре города появилась вывеска «У Пушкина». Основатель и владелец галереи — молодой витебский художник Александр Пушкин. Год назад Пушкин обратился к знакомым белорусам из Америки, и те с готовностью согласились стать его меценатами. Интересно, что в числе зарубежных фундаторов наш земляк Сергей Сколов-Воюш. Большую помощь оказала экономическая ассоциация «АСК», которая предоставила помещение под галерею.*

*Авторами первого вернисажа «У Пушкина» стали художники из Витебска, Минска, Полоцка и Могилёва. Экспозиция даёт представление о состоянии современного искусства и, несомненно, найдет в городе своих почитателей.*



*Прысвячэнне таварыству вольных літаратараў (фрагмент)*

*Первая приватная галерея — само по себе приметное событие в Витебске. Приехали гости из Риги, Минска, Могилева, Белостока. Хозяин галереи устроил маленький праздник с фанфарами, приветственным словом, с фейерверком.*

*Праздник удался, открытие состоялось, и теперь в Витебске есть первая частная галерея. Думаю, она откроет витебчанам не только современное искусство, но и положит начало созданию других приватных галерей».*

Васіль Федасеенка ў газеце «Знамя юности» адзначаў:

*«Открытие частной галереи Пушкина состоялось 24 марта. Свои работы представили в основном молодые авторы — 19 человек, по одному произведению каждый. Работы — самые разные: живопись, скульптура».*

Газета «ЛіМ» 24 верасня 1994 года пісала:

*«Работы дванаццаці мастакоў з Мінска, Полацка, Гародні, Свіслачы досыць арганічна стварылі ёмістую экспазіцыю жывапісу і скульптуры ў галерэі Пушкіна. Вядома, можна гаварыць пра суб'ектыўнасць падбору работ. Але ніводнага*

*разу немагчыма адмовіць Аляксандру Пушкіну, як мастаку і трымальніку галерэі, у адчуванні толькі ўзнікшых перспектыў і невядомых імёнаў, у гусце стварэння экспазіцыі і яе абаснавання».*

Газета «Чырвоная змена» 30 красавіка 1994 года распавяла сваім чытачам:

*«Паэтычная акцыя «Новая ініцыятыва», якая днямі адбылася ў Віцебску, сапраўды насіла наватарскі характар, бо стала «першай ластаўкай» у развіцці нетрадыцыйных формаў паэтычнага мастацтва. Таварыства вольных літаратараў выступіла ў якасці арганізатараў акцыі. Усё адбывалася ў доме-майстэрні беларускага мастака Алеся Пушкіна ў будынку былой гарадской гімназіі. Ініцыятыўную групу складалі Алесь Аркуш, Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч і Сяргей Патаранскі. Сябры ТВЛ расказвалі пра сваю дзейнасць і эстэтычныя пошукі. І, вядома, гучалі вершы».*

Адам Друцкі-Любэцкі напісаў у газеце «Пагоня» № 13, 29 сакавіка 1996 года:

*«Яго без перабольшання можна назваць «Байранам беларускага жывапісу», гэткім сучасным рамантыкам-змагаром. Але ён не падобны да аскета-пустэльніка. Алесь Пушкін — каталізатар і рэалізатар вольных мастацкіх ідэй і вялікіх акцый, якія падбадзёрваюць і натхняюць творцаў. Чалавек, які, не зважаючы на сваю жыццёвую неўладкаванасць і прэсінг «вертыкальшчыкаў», здольны дапамагаць пачынаючым талентам і аб'ядноўваць вакол сябе незалежных літаратараў, мастакоў і музыкаў.*

*Яскравым сведчаннем гэтага стала свята «Арт-прагноз'96», якое адбылося ў Віцебску напярэдадні Дня незалежнасці».*

— У 1994 годзе пачаўся ціск на ўсіх, хто мае беларускую пазіцыю, — завяршае аповед спадар Алесь. — Пачалі падвышаць кошты на арэнду, на электрычнасць, тэлефон, плата стала расці з кожным месяцам. Я зразумеў, што хутка буду вымушаны падняць рукі ўверх. Перасталі дазваляць рабіць перацяжку-рэкламу праз вуліцу. Калі пачалося задушэнне галерэі, я зразумеў, што рана ці




*Побач з месцам галерэі віцебскія мастакі ладзяць выставы*

позна мяне выціснуць — так рэзка памянялася пазіцыя. Успомнім, да гэтага Анатоль Лябедзька адкрываў «Славянскі базар» у 1994 годзе як прадстаўнік прэзідэнта, афіцыйна звяртаўся да гасцей: «Шаноўныя спадары і спадарыні...» Быў адкрыты помнік Караткевічу ў Віцебску, адкрываў яго Мечыслаў Грыб. Потым усё было згорнута.

У той час мне прапанавалі правесці першы з'езд нацыяналістаў у Віцебску. Сябры гаварылі: «Ды ты што, закрыюць!»

Закрыюць, — вырашыў я, — але лепей зачыняцца гучна, чым мы на каленях будзем вымольваць нейкую прэферэнцыю. Мы прайшлі шэсцем ад помніка Караткевічу. Адбыўся з'езд. Нас схапілі, галерэю закрылі. Мяне пасадзілі на 15 сутак.

Юрыст Павал Няфёдаў прыйшоў у турму і сказаў: «Усё, Аляксандр Мікалаевіч. Вы парушылі дамову. Вам далі памяшканне для правядзення мастацкай дзейнасці, а вы зрабілі палітычнае мерапрыемства. Вам трэба вызваліць памяшканне. Калі хочаце вярнуць грошы, можаце падаць у суд».

Я цвёрда вырашыў, што ні ў якім разе не буду ў суды звяртацца. А потым я прыйду ў гарсавет, калі надыдуць спрыяльныя часы, і пастаўлю пытанне — вярнуць галерэю! Збяру ўсе дакументы, уз-

дымем пытанне ў гарсавеце, і няхай дэпутаты гарсавета паставяць на галасаванне. Бо памяшканне на балансе дзяржавы, а яна можа перадаць нам зноў...

Я забраў калекцыю карцін, бронзавую шыльду, усё перанёс на вуліцу Крылова. З таго моманту мы пачалі праводзіць выставы ў мастацкай школе. Там жа прайшоў і «Арт-прагноз'96». Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, Зміцер Вішнёў, Людміла Сільнова былі ў нас у гасцях. Вось такія акцыі ў нас былі там. У 1997-м атмасфера стала зусім невыносная. З усіх залаў папрасілі. Пачаў шукаць машыну, усё загрузіў і адвёз у Бобр, дзе за год да гэтага купіў домік за заробленыя грошы.

Віцебскі перыяд доўжыўся з кастрычніка 1990 да канца 1996 года — пачатку 1997-га.

Вынікам віцебскага перыяду былі не толькі карціны.

Тут у мяне нарадзілася дачушка Даша. Яе мама Маргарыта працавала мастаком на дывановым камбінаце. Даша вырасла прыгожай і добрай, яна вучыцца на аддзяленні фармакалогіі ў Віцебскім медуніверсітэце. Мы з яе мамай рассталіся і доўгі час не бачыліся. За гэты час дачушка падрасла, пасталела. Цяпер мы больш сябруем, сустракаемся. Але дзяўчо перажывае, што ёй не хапала ўвагі таты ў маленстве.

Летам 1997 года я пасватаўся да Яніны Дэмух, з якой пазнаёміўся ў Магілёве падчас роспісаў. 10 жніўня 1997 з вяселля з пані Янінай пачаўся бобрскі перыяд.

**Эла Дзвінская**



*Рэжысёр Антон Грышкевіч
і Алесь Пушкін*

# Ён духам напаўняў спектакль

**У кавярні на вуліцы Суворава, паблізу ад дома, дзе знаходзілася прыватная галерэя А. Пушкіна, мы гутарылі з сябрам Алеся, тэатральным рэжысёрам Антонам Грышкевічам. За столікам каля букіністычнай кнігарні сябры ўзгадваюць тыя часы.**

**— Нагадайце, калі ласка, пра перыяд, калі Вы супрацоўнічалі на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Раскажыце пра гэтыя спектаклі.**

— У Мінск я прыехаў у 26 гадоў і паступіў на тэатральны факультэт. Там ужо ведалі пра Пушкіна, ён быў студэнтам, які прыцягваў увагу.

Нашым рэжысёрска-акцёрскім курсам кіраваў Валеры Васільевіч Маслюк. Лепшыя яго спектаклі адзначаліся яркай метафарычнасцю, асацыятыўнасцю, раскрыццём акцёрскай індывідуальнасці. Пазней ён узначаліў Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Некалькі выпускнікоў курса прыехалі ў Віцебск.



*Сябры каля будынка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа*

У 1993 годзе адбывалася адкрыццё мастацкай галерэі А. Пушкіна. Гэта была незвычайная падзея. Не афіцыйная, не заангажаваная, але па тым, колькі людзей прыйшло, з якім інтарэсам за ёй назіралі, яна канкуравала з афіцыйным мерапрыемствам. Мяне кранула шчырасць, мастацкая значнасць таго, што адбывалася.

З той пары мы заўважалі, што Пушкін ёсць у Віцебску.

У хуткім часе ён стаў афармляць «Караля Ліра» ў майго майстра Валерыя Маслюка. Валеры Васільевіч сам абраў Пушкіна з-за той аўры, якая існавала вакол яго. Выбраў яго як асобу, якая можа свабодна дзейнічаць у мастацтве.

Як вы памятаеце, былі часы пасля перабудовы. Новая ступень існавання, свабоды ў грамадстве і творчасці. Пушкін не быў падобны на іншых. У Маслюка быў тады таксама складаны перыяд. Ён перажываў за свой сыход з Рускага тэатра. Ён задумаў «Караля Ліра», і ўсё вырашыў укласці туды: усе свае перажыванні, спадзяванні. Яны з Пушкіным як быццам гаварылі на паралельных мовах. Так ідзе працэс у рэжысёра і мастака: запісы, эскізы.

Уражвала тое, што ён — мастак з вялікай літары, чалавек са сваім унутраным светам. Пра спектакль былі розныя думкі. Мно-

гае залежыць ад рэжысёра-пастаноўшыка, але астатнія сутворцы нейкім чынам павінны ўмець падпарадкавацца адной ідэі. Былі ўнутраныя пытанні. Першы вопыт прайшоў з вынікам.

Добра было б працягнуць яго. Мы пазнаёміліся, я запрашаў Алеся на першыя прэм’ерныя спектаклі па Даніілу Хармсу.

**— Чым вызначалася сцэнічнае афармленне «Караля Ліра»?**

— Гэта была шэкспіраўская гісторыя, перанесеная ў новы час. Сітуацыя, калі быццам бы ядзерная вайна адбылася. На сцэне быў выкарыстаны верталёт. На сцэне ішла адаптацыя і трансфармацыя ідэй. Эскізы касцюмаў перарабляліся.

Па «Каралі Ліры» Пушкін зрабіў у фае выставу тэатральных эскізаў і малюнкаў — «з якога смецця растуць кветкі». Гледачу заўсёды цікава паглядзець малюнкі касцюмаў, макет, потым у залі пабачыць увасабленне ідэяў.

Тады мне хацелася працягу тэатральнай гісторыі з ім. Для мяне ён сам быў нейкім тэатрам, са сваім перформансам.

Настаў момант, калі мне было прапанавана паставіць п’есу «Фрэкэн Юлія» шведскага пісьменніка Аўгуста Стрындберга.

Трэба было знайсці мастака-сцэнографа для пастаноўкі. Я прапанаваў супрацоўніцтва Пушкіну, і ён згадзіўся. Перыяд быў дастаткова складаны. Алесь — глыбока адукаваная асоба, адзін з яго канькоў манументаліста — падрабязная адукаванасць, а для тэатра гэта не зусім падыходзіла. Ён прынёс эскіз — у ім настолькі ўсё было дакладна, нават перагружана. Цяжка было ўявіць сабе нейкую вольную прастору для акцёраў.

Мы размаўлялі, седзячы ў кабінеце, і разважалі, як знайсці падыходзячы вобраз.

Стол стаў вобразам жыцця, з бытавога кухоннага стала ён стаў доўгім — на 12 метраў, мы перацягвалі яго з месца на месца. Я памятаю, як Пушкін прыслухоўваўся да тэатра. У «Каралі Ліры» быў парыў, тут ён прыслухоўваўся да дзеі, перарабляў макет, слухаў акцёраў.

Мяне і дагэтуль здзіўляе спалучэнне ў асобе Пушкіна поўнай свабоды і дысцыплінаванасці. Тэатр — калектыўная творчасць, ён немагчымы без дысцыпліны. Хачу адзначыць адну важную для мяне дэталь у Пушкіна.

Ён духам напаўняў спектакль. Жанчыны станавіліся больш далікатнымі, мужчыны падцягваліся. Ён пытаў мяне: «Што рабіць далей?» «Стварай настрой, Пушкін, ідзем далей!» — казаў я. Ён

сам стаў адным з удзельнікаў спектакля. Выходзіў у старым паліто Стрындберга і расказваў пра старажытную сімфаніолу.

У пастаноўцы не існавала ідэалагічных клішэ. Акцёрская гульня не выклікала сумневу, заўсёды ёсць аўтарытэтныя людзі, якія бачаць прафесійныя якасці. Перамога адназначна была наша. Людзі дзейнічалі, прасякнутыя ідэяй. На ўзроўні эстэтыкі быў заўважны выбух, на той момант мастацкі кіраўнік Баркоўскі не мог патлумачыць, у чым быў яго сумнеў. Ішла палеміка.

Мы ўвайшлі ва ўнутраную легенду. Я сустрэў Валерыя Мазынскага, ён спытаў: «Сем месяцаў рэпетавалі, і яшчэ не прыняў мастацкі кіраўнік? Што вы там рэпетуеце?»

Мая ідэя наконт местачковых музыкаў выклікала непрыняцце, спрэчку. Хто там былі музыкі? Магчыма, габрэйскія. Выконвалі спектакль з імі, без іх, іншы раз зноў з імі. Пушкін прыдумаў эскізы касцюмаў. «Мы — з Віцебска, там быў Шагал, былі габрэйскія музыкі...»

Звазілі спектакль у Мінск. У Мінску ён быў паказаны ў адшліфаваным выглядзе, Зміцер Бартосік быў уражаны. Акцёры ўзгадваюць гэту працу па глыбіні, пранікнёнасці, немалаважную ролю ў тым адыграў Пушкін. Гэта было здорава!

Алеся трэба выпускаць на сцэну як артыста, які павінен напаўняць энергіяй, асвятліць гэту прастору. **Яго тэатральная зорка павінна была толькі разгарацца. Ён павінен быць запатрабаваны.**

Яшчэ мы хацелі паставіць Лорку, Шэкспіра, «Палкоўніку ніхто не піша» Маркеса.

Быў зроблены макет дэкарацыяў, запланаваны рэпетыцыі, заключаны дамовы. Але нешта перашкодзіла. Мне не зразумела, чаму такую фігуру Адраджэння, як Пушкін, не выкарыстоўваць?

У Пінску я ажыццявіў пастаноўку «Маленьких трагедий». Мне здавалася, што там незашораныя людзі, не забітыя стэрэатыпамі. Алесь Мікалаевіч прыязджаў на прэм’еру. Па сапраўднаму, яму трэба было б працаваць з добрымі рэжысёрамі.

**— Над чым Вы самі працуеце зараз? Што новага зараз у тэатры?**

— З 2004 года працую над сабой, свабодны рэжысёр. Стаўлю спектаклі час ад часу па запрашэнні, на жаль, часцей у Расіі. У Беларусі, дзе б я ні грукаўся ў дзверы, у вялікія і малыя тэатры (як Маладзечна), шмат дзе атрымліваю адмову. Натхняюся той дум-

кай, што я не павінен пакідаць сваёй прафесіі і мушу пераадольваць перашкоды.

Дзіўна, бо ў тэатрах шмат пустых вакансій. Не хочацца быць нядобразычліўцам, аднак у беларускім тэатры пануе пэўны крызіс. Акрамя, бадай, Купалаўскага. Існуе кадравая фільтрацыя. Бадай, адзін Мікалай Пінігін за кошт свайго аўтарытэта дасягае вынікаў.

Быў час, калі мы з Пушкіным прыходзілі ў тэатр Янкі Купалы, прапаноўвалі свае ідэі, п’есы, але атрымлівалі адмову. На тварах у іх было напісана: «Гэтыя людзі са сваімі аўтарскімі задумамі нам не падыходзяць».

Суседняя Літва сёння — тэатральная Мекка. Столькі таленавітых рэжысёраў, новых імёнаў: Рымас Туманіс, Эймунтас Някрошус, Аскар Каршунавас, Ёнас Вайткус! У Рызе ёсць свае выдатныя асобы.

Калі вы прыязджаеце на тэатральны фестываль, украінскі тэатр вас уразіць. А чаму не ў росквіце тэатр беларускі? Мы на самай справе перажываем за яго. Калі б нас паклікалі, мы б з Пушкіным адкінулі ўсё свае крыўды і працавалі б зноў.

**— Як існаваць рэжысёру ў такіх умовах, яго сям’і?**

— Знаходзіш творчую нішу. Год я працаваў у каледжы са студэнтамі, там, дзе яшчэ не трэба вялікіх матэрыяльных укладанняў, дэкарацый. Ствараеш з трох стулаў цэлае кола, абгрунтоўваеш яго псіхалагічна, прывучаеш моладзь думаць.

І ў нашай сітуацыі можна заставацца ў крытэрыях сваёй прафесіі, не хлусіць, не паддавацца на сумнеўныя аўтарытэты. Унутраны патэнцыял ёсць, але патрэбна свежае паветра, каб ён разгарнуўся.

Віцебскі перыяд Пушкіна быў насычаны. Усе артысты пад яго ўплывам ажывалі, пасміхаліся, запальваліся спадзяваннем, пахмурныя будні прасвятляліся. Ён умее стымуляваць — гэта яго ўнікальная якасць. Становіцца зразумела, як у акцёрскім, часам меркантыльным, асяродку можна быць вольным, шчаслівым мастаком і прыстойным чалавекам.

Цяпер А. Грышкевіч — рэжысёр тэатра ў Благавешчанску.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Фрэкен Юлія. Эскіз касцюма*

# Фрэкен Юлія і іншыя героі сцэны

**— Новы мастацкі кіраўнік тэатра імя Я. Коласа прапанаваў мне папрацаваць з ім над пастаноўкай трагедыі Шэкспіра «Кароль Лір». Мяне ўсцешыла, што рэжысёр, пра якога я шмат чуў, робіць мне такую прапанову. Аднак і бянтэжыла, і я шчыра спытаў:**

«Вы ведаеце, я манументаліст, пішу фрэскі, але ніколі не працаваў над сцэнаграфіяй». Рэжысёр адказаў: «Гэта менавіта тое, што трэба». Маўляў, наш «Кароль Лір» будзе зусім не такі, якім яго любяць ставіць. Не будзе замкаў, герольдаў, гарнастаяў, камінаў, Лір будзе пазачасавы, можа, з 27-га стагоддзя. І дадаў: «Вось табе палітра — сцэна, артысты — твае фарбы і фантазіі».

З узаемнай дамоўленасці я распрацоўваў аб’ект, які нагадвае ракавіну, потым гэта ўвайшло ў танэльтрубу ці вялікі кулёк, які выходзіць на цэнтр сцэны і




*Эскізы да спектакля «Палкоўніку ніхто не піша»*

знутры свеціць цёплым святлом. Адтуль павінны, па задуме рэжысёра, з'яўляцца персанажы п'есы. А ў самой трубе — шум ветру, пах бору, прыветнае сонца... Макет быў зацверджаны.

Аднак распрацаваная сцэнаграфія падверглася затым істотнай пераробцы. Нечакана для мяне з'явіліся абломкі верталёта, якія павінны былі палепшыць сцэнаграфію.

З усіх распрацаваных мною касцюмаў цалкам маімі засталіся два — Ліра і Альбані.

Я горды чалавек, мне цяжка ісці на кампраміс, тут мог адбыцца разрыў паміж мной і рэжысёрам. Але я спавядаю ідэю стварэння, а не разбурэння. Я зразумеў: у калектыве, у тэатры, каб нешта стварыць, дайсці да прэм'еры, трэба падпарадкавацца адной волі — рэжысёрскай. (Калі працаваў над рэстаўрацыяй, Храм навучыў мяне быць дысцыплінаваным, забываць сваё асабістае «я»). А таму гонар свой павінен выказваць не тут, у калектыўнай працы, а ў сваёй майстэрні, над сваімі карцінамі, сам-насам з фарбамі і палатном.

Мне вельмі падабалася прачытанне В. Маслюком майго любімага твора — на пяць балаў. Таму я працягваў працаваць у імя стварэння, каб значная, неардынарная задума не папоўніла кладзішча ідэй. На прэм'еру прыйшоў як на свята. Рады, што свята

адбылося: завершана праца, якая ўзбагаціла наш горад, нашу культуру.

Мастацкая з’ява ў тэатры можа нараджацца толькі пры такіх умовах:

1) калі рэжысёру і сцэнографу падабаецца драматычны матэрыял; 2) калі яны працуюць з задавальненнем; 3) у іхных узаемаадносінах ёсць шчырасць, супадаюць іхныя менталітэты, каштоўнасці. Нарэшце, харошы калектыў: ад акцераў, вытворчых службаў да фарбавальніка тканіны. Усё гэта — выснова майго першага ўрока супрацоўніцтва з тэатрам, — распавядаў Пушкін у інтэрв’ю газеце Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Коласа ў студзені 1995 года.

Потым у мастака быў яшчэ шэраг эксперыментальных пастановак з рэжысёрам Антонам Грышкевічам. У 1997 годзе ставілі п’есу Аўгуста Стрынберга «Фрэкен Юлія», потым — Ёжэна Янэску «Крэслы». Затым была праца па адным з ранейшых твораў Габрыэля Гарсія Маркеса, рамане «Палкоўніку ніхто не піша». У творы, напісаным у 1961 годзе, адчуваўся ўплыў Эрнэста Хэмінгуэя.

П’есу, аднак, на распараджэнне Міністэрства культуры знялі з вытворчасці. Бо палкоўнік у трактоўцы рэжысёра быў нацыянальным героем Беларусі, які пасля Другой сусветнай вайны з’ехаў у Бразілію і там чакае свайго прызнання на радзіме.

— Мы знайшлі своеасаблівую нішу, — дзяліўся думкамі мастак з карэспандэнтам «БДГ» у сакавіку 2001 года. — Намі кіраваў пошук сучаснага героя, цікавасць да камуфляжу. Мы хацелі стварыць на сцэне вобраз чалавека гонару, палкоўніка, які ў свой час удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях. Ён вымушаны жыць у краіне, дзе кіруе несвабода. Адзіная дазволеная свабода — бой пеўняў. Стары чалавек, які захаваў ідэалы маладосці, ходзіць у порт і чакае тэлеграму — вестку аб пенсіі, аб радзіме. Гэта зборны вобраз беларуса — Барыса Рагулі ці Кастуся Езавітава, які жыве дзе-небудзь ва Уругваі і якому ніхто не піша.

**Паводле матэрыялаў друку**

Натхненнем Святога Духа Ты азараеш думкі мастакоў, паэтаў, геніяў навукі. Сілай Звышсвядомасці яны па-прароцку спасцігаюць законы Твае, раскрываючы нам бездань творчай мудрасці Тваёй.

Іх справы міжволі кажуць пра Цябе: які Ты вялікі ў Тваіх стварэннях, які Ты вялікі ў Чалавеку.

Мітрапаліт Трыфан (Барыс Туркестанаў). «Слава Богу за ўсё»



*Архікатэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Магілёве*

# Роспісы ў Магілёве

**«Выстава «Касцёл у мастацтве» незвычайная і першая такая ў горадзе. Яна прымеркавана да 300-годдзя Магілёўскага касцёла святога Станіслава — унікальнага на Беларусі помніка архітэктуры, гісторыі і мастацтва, які быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Два гады таму гарадскія ўлады аддалі нарэшце вернікам святыню. Увесь гэты час ішлі рамонт і абсталяванне разрабаванага і запушчанага храма, а таксама — рэстаўрацыя. Аўтарам мастацкай канцэпцыі рэстаўрацыі касцёла з’яўляецца Алесь Пушкін.**

*Нездарма зараз з кіраўніцтвам гарвыканкама ўрачыста адкрывалі выставу пробашч касцёла св. Станіслава ксёндз Уладзіслаў Блін, госці магілёўскай парафіі з Польшчы, каталіцкіх абшчын СНД, праваслаўныя святары з Магілёва. Можна прывесці некалькі назваў работ розных памераў і жанраў: «Маці Сусвету», «Святы*

*Ясафат Кунцэвіч», «Ікона Бялыніцкай Божай маці», «Лёс майго бацькі», «Акорд вольнасці», «Ноч над Віцебскам», «Нікольская царква ў Магілёве». Выстава размясцілася на Першамайскай вуліцы ў абласной выставачнай залі»,* — пісаў М. Ножнікаў у газеце «Ратуша», кастрычнік 1992 года.

*«Шэраг адкрыццяў, якія маюць вялікую мастацкую каштоўнасць, зроблены ў Магілёўскім кафедральным касцёле падчас рэстаўрацыйных работ, якія Беларуская каталіцкая грамада праводзіць з 1992 года. Перш за ўсё гэта вяртанне да жыцця шматлікіх фрэсак, вызваленых ад тынкоўкі. Тэме рэстаўрацыі касцёла будзе прысвечана выстаўка віцебскай арт-галерэі «У Пушкіна». Наведвальнікі пазнаёмяцца з праектнымі работамі па аднаўленні і вырашэнні інтэр'ера сабора. Прадстаўленыя на выстаўцы фотаздымкі адлюструюць этапы рэстаўрацыі храма»,* — адзначаў Марат Урублеўскі ў газеце «Добры вечар», 13 красавіка 1994 года.

Алесь Пушкін прыгадвае тыя часы:

— Магілёўская каталіцкая грамада запрасіла нас з Феліксам Янушкевічам узяць удзел у роспісах Магілёўскай архікатэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Касцёл быў заснаваны айцамі-кармелітамі 31 ліпеня 1700 года. З 16 жніўня 1992 да 16 кастрычніка 1996 года вяліся рэстаўрацыйныя работы.

Спачатку мы кватаравалі ў інтэрнаце ўпраўлення будаўнічага трэста № 12, — успамінае мастак. — Пасля жылі ў былым доме архіепіскапа Георгія Каніскага, свяціцеля Магілёўскага, манаха, прафесара і філосафа. У 1757 годзе Г. Каніскі адчыніў у Магілёве духоўную семінарыю і арганізаваў тыпаграфію пры епіскапскім доме. Ён быў збіральнікам літаратурных помнікаў, яго бібліятэка налічвала больш за тысячу тамоў.

90-я гады XX стагоддзя — яскравая ілюстрацыя адраджэння духоўнага і нацыянальнага руху, культурна-асветніцкія часы.

У тыя часы друкавалася шмат кніжак па гісторыі, Уладзімір Арлоў і яго паплечнікі выдавалі вельмі шмат. Маладым людзям хацелася з імпэтам паспяваць, пагаманіць, праявіць свае ініцыятывы.

Нам з сябрам давялося адрэстаўраваць дзве з паловай тысячы квадратных метраў барокавага жывапісу. Былі створаны ў стылі



*Інтэр'ер касцёла, 1996 г.*



*Роспіс плафона, 1995–1996 гг.*

барока новыя фрэскі. Арханёл Міхаіл з мячом перамагае д'ябла. Фон роспісаў чырвоны, напружаны, сімвалізуе духоўную барацьбу. Фрэска св. Антонія мае вялікае духоўнае значэнне.

У Магілёве традыцыйна ўшаноўваецца памяць святога Антонія, добрага цёплага малітвенніка. 13 чэрвеня цэлая працэсія гараджан ідзе па вуліцах да могілак на вуліцы Лазарэнкі.

Роспіс плафона быў унікальны. На ім былі адлюстраваны сучасныя каталіцкія святары, тут была першая на Беларусі выява Яна Паўла II, напісаны выявы нашых духоўных правадыроў: Я. Купалы, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Ластоўскага. У гэтым касцёле вянчаўся Зянон Пазняк з Галінай Вашчанкай. У пазнейшыя часы (2001) плафон быў зафарбаваны белым. Іншыя выявы захаваліся.

Цэлы сегмент роспісаў візуальна захоўваў дух той эпохі нацыянальнага і рэлігійнага ўздыму. Беларусь наведваў у тыя часы папскі нунцый Аўгустына Маркета.

У 1994 годзе Казіміру Свёнтку была нададзена кардынальская годнасць разам з трыццаццю новымі кардыналамі. Эскізы роспісаў зацвярджаў сам кардынал Свёнтак.

У той перыяд быў запачаткаваны фестываль «Магутны Божа», ён адбываўся ў памяшканні касцёла св. Станіслава. Сучас-



*Праца ў Міхалішках, 2004 г.*

ным правобразам святой Цэцыліі стала ўдзельніца першага фестывалю, спявачка з выдатным мецасапрана — Таццяна Цыбульская. Цяпер яна выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Пазней я распісваў касцёл у Міхалішках. Там быў створаны абраз Маці Божай Ружанцовай. Яна быццам ступае па аблоках, трымаючы Нябеснага Сына, а ўнізе на зямлі раскінулася мястэчка з маленькімі дамкамі, дарогай, забудовамі. Там жа напісана «Святая сям'я».

У Магілёве ў тыя часы я пазнаёміўся з будучай жоначкай Яначкай. Яна прыехала ў Магілёў да сваёй стрыечнай сястры, яе дзядзька і цётка працавалі ва ўніверсітэце імя Куляшова, а стрыечная сястра, закончыўшы Маскоўскі ўніверсітэт, працуе мастацтвазнаўцам у Магілёве. Сястра прывяла яе ў касцёл, і там мы пазнаёміліся.

Потым Яначка вазіла свой клас у Полацк і на іншыя вандроўкі, а я, заўзяты жаніх, іх суправаджаў.

**Эла Дзвінская**



*Патронка Віленскага краю, 1997 г.*

# Маці Спрадвечнай Дабрыні

Ад 90-х гадоў мінулага стагоддзя складаюцца духоўна-культурныя пляцоўкі, пачынаецца ўзаемадзеянне вернікаў і творцаў, ідзе натхнёная праца творцаў-вернікаў. Адна з такіх пляцовак — Мінскі касцёл святых Сымона і Алены. У касцёле праводзяцца канцэрты сімфанічнай і арганнай музыкі, у дольнай зале касцёла выступаюць паэты, спевакі, дзейнічаюць дзіцячы хор «Голас душы», тэатры аднаго акцёра «Зніч» і «Анёл». З ласкі пана пробашча да супрацоўніцтва запрошаны дзеячы культуры.

У Магілёве заснавана традыцыя праводзіць фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», дзейнічае Міжнародны фестываль праваслаўных спеваў.

«Уздыміце вочы вашы ў неба. Даацэньвайце тое, што святое, што вечна трывае, што з'ядноўвае народы ў Духу Святым. Мэта нашай жыццёвай пілігрымкі — сустрэча з Панам Езусам у канцы жыцця, у канцы гісторыі. Важна, каб мы змаглі з чыстым сэрцам наблізіцца да Яго. Вера з'яўляецца шляхам бачання.

Каб мы маглі заўважаць іншага чалавека, яго правы і патрэбы. Каб мы маглі распазнаць Госпада сярод людзей, якія да нас прыходзяць, і служыць Яму ў паўсядзённым жыцці. Чуваць, рабіць добрыя ўчынкі, жыць у еднасці з Хрыстом, — сказаў пан пробашч Мінскага касцёла св. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк падчас адвэнту. — Вера дае каштоўнасці, якіх не ведае свет, дае магчымасці адкрываць мудрасць Божага закону. Вера дае духоўную бадзёрасць і заахвочвае да руплівай працы на зямлі».

Алесь Пушкін у 1992–1996 гадах бярэ ўдзел у рэстаўрацыі роспісаў Магілёўскай архікатэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Там піша ў стылі барока новыя фрэскі «Святая Цэцылія, патронка музыкі і спеваў», «Святы Арханёл Міхаіл, заступнік зямлі беларускай», «Святы Антоні Падуанскі», «Святы апостал Юда-Тадэвуш» і «Глорыя кардыналу Свёнтку».

Як мастак з добрай класічнай адукацыяй, досведам рэалістычнай перадачы ўражанняў, Пушкін адлюстроўвае цэласны свет. Не раздроблены, узарваны, паранены — які дэманструюць постмадэрністы, а такі, як ён быў задуманы ад пачатку, ад стварэння.

У залатых зоркавых прамянях рэюць анёлы, яны трымаюць карону над вобразам Божай Маці Вастрабрамскай. Пад яе ласкавым поглядам спачывае старажытная Вільня, у велічным спакоі дрэмлюць вежы касцёлаў і цэркваў, Вострай брамы.

Пушкін добра ведае вышэйшы, Боскі духоўны свет. Свет найвышэйшай дабрыні, прыгажосці, міласці. Свет найвялікшай любові, якая здольная прабачаць, здольная патапіць у сваіх прамянях зло і недарэчнасць. Яго Мадонны — не строгія і аскетычныя, яны перапоўненыя любоўю, пяшчотай, мацярынскай сілай, жаночай моцай. Маці Божая Будслаўская напісана ў белых тонах на жоўтым фоне ў пазалоце, у атачэнні ружаў, зорак, кветак, што сімвалізуе чысціню і некранутасць. Свет вялікай дабрыні, свет кахання. Залаты і жоўты колеры вызнаюць царскую годнасць Хрыста. Золата з'яўляецца вобразам нястворанага святла.

Маці Божая Ружанцовая напісана для Міхалішскага касцёла. Яе міласэрны спачувальны позірк скіраваны да нас з нябёсаў. Яна ступае па аблоках, трымаючы на руках Святое Немаўля. Ахоўным жэстам Яна прытрымлівае Дзіця. Ні Маці, ні Дзіця немагчыма прадставіць асобна, Яны знаходзяцца ў непарыўным адзінстве. У Яе позірку — замілаванне і змірэнне, Яна саступае сваё першынства дзіцяці, якому

належыць узрастаць і выконваць сусветную місію. Над Ёй у вянку з ружаў выяўляецца крыж. Каля Яе ног ляжыць мястэчка, падрабязна прапісанае пэндзлем майстра. Усе тры аспекты — рэлігійны змест, маральная філасофія, мастацкая дасканаласць — уздзейнічаюць на гледачоў.



*Маці Божая Ружанцовая (Міхалішкі)*

*«Беззаганная Маці Божая, Каралева неба, Маці міласэрнасці, заступніца і прытулак грэшнікаў! Вось я, натхнёны ласкамі, якія Ты так шчодра выпрасіла для мяне сваёй мацярынскай ласкавасцю са скарбаў любові Божай, пастанаўляю цяпер і назаўсёды аддаць у Твае рукі сваё сэрца, каб Ты прысвяціла яго Езусу»,* — гаворыцца ў малітве да Маці Божай Вастрабрамскай.

Святы Антоні Падуанскі напісаны у Магілёўскай архікатэдры (1995 г.) побач з анёлам. Анёл са светлымі крыламі ўкленчыў перад святым. Да святога прыйшлі на пакланенне птушкі, чарапашкі, змяя, матылькі, вусені. Мноства зялёнага колеру сімвалізуе жыватворныя сілы Святога Духа. Са старажытнасці дрэва з'яўлялася сімвалам жыцця.

З першых вякоў хрысціянства існуе шмат паданняў пра тое, як дарадцы Божыя жылі ў згодзе са звярамі, дзікія жывёлы слухаліся і падпарадкоўваліся айцам-пустэльнікам.

Вядома, што святы Антоній нарадзіўся ў Партугаліі ў сям'і рыцара і насіў імя Фердынанд. Большую частку жыцця ён правёў у Італіі, заснаваў некалькі манастыроў. У 1224 годзе Антоній стаў настаяцелем францысканскага кляштара каля горада Ле-Пюі. Слава пра яго пропаведзі і дабрадзейнае жыццё пашыралася, яго назвалі «Светачам ордэна».

Карціны, прысвечаныя св. Антонію, часцей адлюстроўваюць створаныя ім цуды: пропаведзь рыбам (Веранэзэ), з'яўленне не-

маўляці Езуса (Мурыльё і Ван Дэйк), цуд з аслом, які ўкленчыў перад Святымі дарамі («Цуд св. Антонія» невядомага фламандскага мастака XVI стагоддзя).

Пушкін ведае духоўны свет і яго законы. Але як сучаснага чалавека, які жыве ў свеце розных уплываў, яго прыцягваюць і іншыя плыні. Часам хочацца ўсклікнуць: «Навошта вы, вялікі мастак, растрачваеце сябе на пустыя скандальныя сенсацыі?» Як заўважыў мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч, «элементы мадэрнісцкай культуры з яго секулярызаваным светапоглядам адрываюць нас ад евангельскага бачання». Вернік мусіць дбаць пра тое, як пашырыць свет Божай прысутнасці на зямлі, як перадаць святло Яго позірку. Каб было больш куткоў Боскай прысутнасці ў чалавечых сэрцах, дамах, каб было больш выратаваных душаў для будучага Божага ўладарства. Трэба паўсюдна несці цяпло, ласку, веру. Не спыняцца, не здраджваць.

Некалькі карцінаў Пушкіна прысвечаны з'яўленню святога Мікалая.

Адна з іх нагадвае пра нараджэнне сына мастака Міколкі. Святы Мікалай у свой веснавы дзень (22 траўня) схіляецца да люлькі малога. Ён моцна трымае калыску рукой, у другой руцэ — Святое Пісанне. Анёл сыпле на немаўля бэзавыя кветкі з квітнеючага куста. Уся зямля пад нагамі пакрытая блакітнымі пралескамі. Задаволеныя бацькі схаваліся за дрэвам. Яны зычаць дзіцяці шчаслівага лёсу.

На іншай карціне святы Мікалай з'яўляецца вандроўнікам, якія прыпыніліся на прывале. За святым бяжыць жарабя і авечка, брыдуць кароўка і лось. Карціна сімвалізуе прымірэнне чалавека праз Божую ласку з жывёльным светам і прыродай.

Мастак творыць для Бога і для людзей, ахвяруе свой час і высілкі для вечнага. Ён прычашчаецца Святых Тайнаў Хрыстовых, перадае свой непасрэдны досвед веры. Таму труд і сям'я яго дабраслаўлёныя і ў смутны час крыўдаў.

**Эла Дзвінская**



*Рэстаўрацыя,*
*Вішнева, 2011 г.*

# Арыенціры

— На востраў Заліт да айца Мікалая Гур'янава мы ездзілі з групай паломнікаў з пяці чалавек, — успамінаў Алесь Пушкін. — Толькі кацер хадзіў на аддалены востраў Заліт, па якім мірна блукалі каровы. Айцец Мікалай прымаў усіх людзей з іхнымі пытаннямі, патрэбамі. З раніцы ён адчыняў дзверы сваёй келлі-хаціны, і да яго на рукі зляталіся птушкі.

— Радасць мая, — казаў ён, — ну што ў цябе?

Айцец Мікалай быў сціплы, ласкавы. Ён прайшоў праз сталінскія рэпрэсіі, некаторы час працаваў у азёрнай гаспадарцы.

Ён дабраславіў мяне на напісанне роспісаў.

— Не спрачайся адкрыта з уладай, — казаў старац.

Ён разумеў думкі і працу дысідэнтаў. Я прывёз яму хлеб, а ён не ўзяў. Сказаў: «Гэта табе ад мяне — вазьмі» (значыць, з малітвай), — успамінаў Пушкін.

Да айца Мікалая Гур'янава ў свой час ездзілі многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Сярод іх быў шчыры і верны чалавек, якога айцец Мікалай

дабраславіў на святарскі подзвіг, — айцец Андрэй Лемяшонак, які заснаваў Свята-Елізавецінскі манастыр пад Мінскам.

Значна пазней, у час развіцця камунікацый, духоўным дзецям удалося ўдакладніць некаторыя факты з жыцця любімага старца.

Айцец Мікалай Гур'янаў нарадзіўся 24 мая 1909 года ў пасёлку Чудскім, у купецкай сям'і. Скончыў Гатчынскі педагагічны тэхнікум, вучыўся ў Ленінградскім педагагічным інстытуце, адкуль быў выключаны за выступ супраць закрыцця аднаго з храмаў.

М. Гур'янаў выкладаў матэматыку (1929–1931), фізіку і біялогію ў школе, служыў псаломшчыкам у Тосна, быў псаломшчыкам у Свята-Мікольскім храме вёскі Рэмда Сярэдкінскага раёна (цяпер Пскоўская вобласць). У часы рэпрэсій Мікалай Гур'янаў быў арыштаваны, знаходзіўся ў ленінградскай турме «Крыжы», адбываў зняволенне ў лагеры ў Сыктыўкары Комі АССР.

У час Вялікай Айчыннай вайны ён не быў мабілізаваны ў войска, таму што пакалечыў ногі на цяжкіх работах у лагерах, знаходзіўся на акупаванай тэрыторыі.

15 лютага 1942 Мікалай Гур'янаў стаў святаром. Пасля вызвалення айцец Мікалай не змог атрымаць прапіску ў Ленінградзе і выкладаў у сельскіх школах Тосненскага раёна Ленінградскай вобласці.

З 1958 ён служыў у Пскоўскай епархіі, быў прызначаны настаяцелем храма св. Мікалая на востраве Талабск (Заліт) на Пскоўскім возеры, з'яўляўся ім нязменна да самай смерці.

Ён валодаў пранікнёным голасам, служыў у царкве прыгожа, натхнёна, увесь свяціўся. Айцец Мікалай быў незвычайным прыхільнікам царквы. Не быўшы манахам, ён жыў больш строга, чым манах, ва ўсім — і ў харчаванні, і ў стаўленні да людзей, і ў малітве.

Сюды, на гэтую маленечкую частку сушы, на працягу доўгіх гадоў лодкі і караблі перавозчыкаў дастаўлялі паломнікаў. Маршрут ніколі не мяняўся: вялікая зямля — востраў — хатка протаіерэя Мікалая Гур'янава.

Існуе аповед пра тое, што айца Мікалая спыталі: «Да вас прыходзілі тысячы людзей, вы ўважліва ўглядаліся ў іх душы. Скажыце, што вас больш за ўсё турбуе ў душах сучасных людзей — які грэх? Што для нас цяпер найбольш небяспечна?» На гэта ён адказаў: «Бязвер'е». І дадаў: «Нават у хрысціян».

Мікалай Гур'янаў пражыў 93 гады, за сваё доўгае жыццё ён прынёс святло ў тысячы душаў, многіх натхніў на шлях духоўнага служэння.

**Эла Дзвінская**



*Касцёл у Вішневе*

# Любоў Хрыстова аднаўляе краявід

**Шаша ў накірунку старажытных паселішчаў Крэва, Баруны, Гальшаны вілася паміж сасновымі лясамі і далінамі, мінала высотныя шпілі Пяршаяў, стрэлы-вежы Івянца, прывяла нас у Вішнева, дзе вядзецца рэстаўрацыя ўнікальнага 370-гадовага касцёла, закладзенага на сродкі Храптовічаў.**

Касцёл на беразе шырокай, але зарослай чаратамі рэчкі Альшанкі быў узведзены ў 1641 годзе на сродкі графа Юрыя Храптовіча на месцы былога драўлянага храма. Гэты храм асвечаны ў гонар свята Адведзінаў Найсвяцейшай Паннай Марыяй св. Альжбэты.

У XVIII стагоддзі храм быў дапоўнены бакавымі капліцамі, якія надалі яму выгляд крыжа. Убранства касцёла непаўторнае сваёй дэкаратыўнай драўлянай скульптурай, якую рабілі народныя майстры, і гіпсавай скульптурай, накладной арнаменталь-



*Рэстаўрацыйныя працы вядзе А. Пушкін*

най разьбой па дрэве, мастацкай коўкай, датаванай яшчэ 1619 годам, фрэскавымі пано. Цудоўныя рысы спалучаюць стылёвыя якасці Рэнесансу, маньерызму, ранняга і позняга барока і ракако. Тут тры жывапісныя часткі роспісаў выконваў у XIX стагоддзі Фердынанд Рушчыц у той час, калі ён быў студэнтам Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

**4 чэрвеня 2011 года навукова-метадычнай радай па ахове помнікаў культуры і дойлідства Міністэрства культуры Беларусі кіраўніком рэстаўрацыйнага праекту прызначаны вядомы мастак Алесь Пушкін. Пад яго кіраўніцтвам будзе ісці рэстаўрацыя Вішнеўскага касцёла з дабраславення пана пробашча касцёла Юзэфа Мільдзюка.**

«Мы маем планы аднавіць і добраўпарадкаваць бакавыя капліцы, умацаваць і адрэстаўраваць жывапіс Фердынанда Рушчыца на сценах галоўнага нефа і пафарбаваць касцёл з фасаду. Каб можна было з гонарам прымаць замежных турыстаў, усіх гасцей і дабрачынцаў. Старажытны духоўны цэнтр Беларусі ўваходзіць у турыстычныя і краязнаўчыя маршруты.

Дыпламатычны корпус Ізраіля ўжо аднойчы праяўляў цікавасць да гэтых мясцін. У 1998 годзе на сваё 75-годдзе прыязджаў у роднае мястэчка былы прэм’ер-міністр Ізраіля, выхадзец з Беларусі Шымон Перас. Ён пазнаў студню, з якой у дзяцінстве браў ваду, яна захавалася, а хату перабудавалі па-іншаму», — распавёў сп. Алесь Пушкін.

Міністэрства культуры ўхваліла планы па ўсталяванні ў касцёле мемарыяльных дошак з барэльефамі ксяндза-марыяніна Уладзіслава Чарняўскага і мастака Фердынанда Рушчыца.

«Тут ёсць шмат дзівосаў і памятных месцаў, — расказвае мастак. — Непадалёку — магіла Сымона Буднага. А вось тут, ка-

ля званіцы, на якой званы з 1927 года, — апошні прытулак Ул. Чарняўскага.

Айцец Уладзіслаў Чарняўскі яшчэ ў тыя глухія 60-я гады вёў службу на роднай мове.

Вось бачыце, які прыклад для беларусаў — паўстагоддзя пражыў тут, вёў службу на беларускай мове, выканаў свой пастырскі і чалавечы абавязак, пайшоў на 86-годдзе, і тут пахаваны — ляжыць побач са сваім народам. Яго добра памятаюць і сёння людзі, якія з ім разам рупіліся дзеля касцёла».



*Абраз Божай Маці Вастрабрамскай (да рэстаўрацыі)*

У Вішневе жыў і ў 1593 годзе памёр Сымон Будны. З Вішнева родам жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна. У пачатку XX стагоддзя ў мястэчку жыла і пахавана беларуская паэтка Канстанцыя Буйло.

## Бруіцца серабром крыніца

Вішнеўскую зямлю палюбіў і ўшанаваў ксёндз-пробашч Мінскага Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк. Ён у свой час апекаваўся Уладзіславам Чарняўскім, даглядаў яго ў шпіталі як роднага бацьку. Таму і вырашыў добраўпарадкаваць месца яго служэння, вусце цудатворнай крыніцы і набярэжную ракі Гальшанкі. На схіле пагорка высаджаны малады вішнёвы сад з трохсот дрэваў, а пасярод яго — скульптурная кампазіцыя Маці Божай у кветках.

У 1414 годзе на гэтым месцы аднаму пабожнаму чалавеку з’явілася Прачыстая Дзева і сказала: «Няхай будзе тут асвечана месца ў хвалу Сына Божага».

З таго часу людзі атрымалі Божыя ласкі і цудоўныя ацаленні. На знак удзячнасці за атрыманыя даброты ў 10-ю гадавіну падзеі 31 траўня 1424 года была пабудавана і асвечана велічная драўляная

святыня. З часам яна ўжо не змагла змяшчаць усіх наведвальнікаў, і ў 1637–1641 гадах быў узведзены каменны касцёл з ласкі фундатара Юрыя Храптовіча. У 2009 годзе крыніцу асвяціў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч у прысутнасці святароў каталіцкага і праваслаўнага веравызнання.

Ксёндз Юзэф Мільдзюк вядзе служэнне на беларускай мове. У час набажэнства ён звяртаецца да парафіянаў з просьбай паруціцца, каб прыдбаць духоўныя якасці, сеяць дабро ў душы людскія, добрым учынкам засведчыць веру, далучыць дзетак да касцёлу.

— Калі бачыш тут аблупленыя муры, хочацца зрабіць лепей, прыгажэй, — сказаў нам ксёндз-пробашч. — У касцёле знаходзіцца старажытны арган, ён з'явіўся таксама з ініцыятывы Храптовічаў і яшчэ дзесяцігоддзе таму гучаў. — Мясцовы арганіст Міхал граў на ім, але ён памёр, і арган занядбаны. Варта было б запрасіць замежных майстроў прывесці яго ў належны выгляд, давесці да ідэалу, можа хтосьці зможа дапамагчы.

Кіраўнік рэстаўрацыйнага праекту Алесь Пушкін мае значны досвед выканання каталіцкіх і праваслаўных абразоў, аздаблення архітэктурных забудоваў жывапісам і мазаічнымі пано.

Пад эгідай Магілёўскай дыяцэзіі ён рабіў роспісы ў Магілёўскім архікатэдральным касцёле, упрыгожыў фасад капліцы св. Яна Хрысціцеля ў Мінску і іншыя святыні. Зараз ён аднаўляе роспісы Ф. Рушчыца. Вонкавую афарбоўку будынку будуць весці яго памочнікі.

**Эла Дзвінская, фота аўтара**
**«Наша слова», ліпень 2011 года**



*Каля ракі Гальшанкі*

# Вішнеўскія раніцы

Упершыню Алесь Пушкін пабываў у Вішневе з ксяндзом-пробашчам Чырвонага касцёла Уладзіславам Завальнюком.

Здзівіла веліч сабора, уразіла барокавая разьба, роспісы. Думаў пра тое, як усё будзе выглядаць пасля рэстаўрацыі. Потым была цярплівая падрыхтоўчая праца. Збор дакументаў, ліставанне і сустрэчы з адказнымі асобамі.

У чэрвені мастак пасяліўся ў дамку ў пані Францішкі і яе мужа Рамана Садоўскага.

Пані Франя паходзіць з Ашмян, а гаспадар — з гэтых мясцінаў. Іх трое дарослых сыноў жывуць у Валожынскім раёне. Рупнасцю і стараннасцю пані Францішка кожнаму з сыноў назбірала грошы на вучобу, гадавала кабанчыкаў, трымала кароўку. А потым прыйшлі часы, калі грошы дашчэнту абясцэніліся. І так некалькі разоў.

Але ўсё людзі перажылі, усё вытрывалі.

Гаспадыня гатавала Алесю Пушкіну бульбачку з алеем. Ён уставаў на досвітку, доўга плаваў у рацэ,


*Набярэжная ракі з боку касцёла*

ішоў па роснаму лугу, гледзячы на тоўстыя каржакаватыя пні ад старых магутных дрэваў, любаваўся праменнямі сонца. Глядзеў, як пчолкі старанна віюцца вакол кветачак, збіраючы нектар. Пасля сняданку працаваў над эскізамі. Цягаў камяні для ўмацавання набярэжнай.

— Калі майстар збіраецца пісаць роспісы і абразы, святар першапачаткова чытае над ім літанію. Мы молімся разам са святаром. Бывае, што молімся разам удвух халоднымі вечарамі, калі больш нікога няма з вяскоўцаў. Пасля заканчэння працы святар акрапляе абразы святой вадой.

## Нядзеля

Залатыя промні сонца праліваліся на алтарныя рамы ў пазалоце. Бабулі ў светлых хусцінках энергічна спявалі хвалебныя гімны Божае Маці.

Да 12-ці гадзін касцёл запоўніўся маладымі і сярэдняга веку кабетамі, салíднымі і пажылымі мужчынамі.

— Ці думаем мы пра тое, каб духоўна удасканальвацца? — сказаў ксёндз-пробашч на імшы. — Каб мы паглыбіліся ў малітву, магчыма, Госпад паслаў бы дождж на высушаную зямлю, і вы выратавалі б колькі гектараў хлеба. Альбо зрабілі б добрыя ўчынкі, якія сеюць дабро ў душы людскія, ці звярнулі б моладзь да касцёла ці царквы. Дык ці не крадзе ў нас злы дух з сэрцаў пасеянае Госпадам слова?

Ксёндз Юзэф чытаў малітву за сем'і, якія дапамагаюць касцёлу. Ён узносіў просьбы аб здароўі Гражынаў, Дамінікаў, Гэнуэфаў, Вандаў і Язэпаў, якія ахвяравалі на рэстаўрацыю і рамонт касцёла, маліўся за сястрычак-маргарытак, якія ўзялі абавязак падтрымліваць малітоўна святароў, і за ўсіх братоў і сёстраў.

— Мы ўсе можам удзельнічаць у справах дабра, упарадкаваць наш лес, дарогу.

Зрабіць так, каб у нашых мясцінах жылі не п'яніцы і разбойнікі, якія могуць спусціць раз'юшаных сабак, а добрыя, пабожныя людзі.

Нам дадзена духоўнае заданне ад самага нараджэння, не толькі працаваць на зямлі, але і маліцца, садзейнічаць духоўнай працы ў межах сям'і, вёскі, уваходзіць у добрыя справы...



*Барокавае ўбранства касцёла*

У доме святара было ціха. Айцец паставіў вялікія талеркі на стол, узнёс падзяку Пану Езусу і пачаставаў гасцей бульбай ды хлебам з мёдам.

На паліцы ў яго стаяла вялікая чырвоная Біблія. Другая тоўстая кніга на польскай мове — «Жыцці ўсіх святых па календару». На сценах віселі партрэты святароў.

У вазоне рос мажны кактус.

— У веры, як і ў ведах, трэба ўвесь час удасканальвацца, — кажа ксёндз Юзэф. — Развіваць і мацаваць сваю веру. Трэба заахвочваць моладзь да касцёла, каб яны ведалі духоўныя законы, маральныя чыннікі жыцця. Аднойчы я запытаўся ва ўдзельнікаў экскурсіі: «Ці можа хто з вас пералічыць адразу 10 прыказанняў Божых?»

Але ніхто не назваў усе. З навакольных сем'яў хлопцы і дзяўчаты бываюць на імшы, яны з дзяцінства выхаваны ісці ў нядзелю да касцёла, ведаюць, дзе трэба ўкленчыць, як уступіць у сувязь з вышэйшым светам. Але стаўшы студэнтамі, часам забываюцца, што трэба зноў зайсці ў храм».

Святар адораны магутнай сілай і творчай энергіяй. Ён піша вершы і выдаў некалькі кніг па-беларуску. У маладосці Юзэф хацеў стаць рэжысёрам, але не здолеў паступіць. Ён працаваў кінамеханікам, меў вольныя дні, якія мог спакойна прысвячаць малітве, калядным і іншым святам.

Госпад павёў іншым шляхам — пан Юзэф скончыў Гродзенскую духоўную семінарыю. Святар — лекар душаў.

Сонца ў нядзелю стаяла высока. Ліпы асыпалі сваю квецень на дол. Лёгкі ветрык казытаў галінкі, праносіўся над галовамі. У



*Крыж ля касцёла у Вішнева*

небе над суседняй царквой Кузьмы і Дзям'яна кружыліся чацвёра буслоў. Старэйшыя вучылі малодшых лятаць. Мастак паказаў старажытную царкву і стогадовую ліпу побач.

Ён носіць у сабе спакой Хрыстовы. Жыве ў супакоі Хрыстовым.

«Супакой мой даю вам, — сказаў Госпад вучням. — Не такі, як свет дае».

Гэтыя словы — «СУПАКОЙ ВАМ» — вышытыя на тканіне, якая пакрывае святарскую кафедру ў касцёле. А пад літарамі — голуб, які трымае зялёную аліўкавую галінку.

Увосень мы зноў прыехалі ў Вішнева. Краявіды былі надзвычай жывапіснымі. Па дарозе на возеры ля вёскі Сакаўшчына над цёмна-сіняй халоднай вадой выгіналі шыі лебедзі.

Клёны ўздоўж шашы красаваліся ў барвяным, чырвоным і жоўтым адзенні. Каля хатаў узносілі важныя галоўкі вяргіні і бархатцы. У гародах саспелыя гарбузы грэлі на сонейку жоўтыя бакі. Гусі на двары пані Францішкі важна гагаталі, куркі сур'ёзна дзяўблі зярняткі. Гаспадар, пан Раман, карміў птаства кашай з гарбузоў.

На рацэ зранку плавалі на лодцы рыбакі з закінутымі вудамі.

У нядзелю пані Францішка, у якой звычайна балелі ногі, і таму яна не магла далёка хадзіць, апранула прыгожую баваўняную сукенку ды туфлі і з кіёчкам загадзя рушыла да касцёла. За ёй, пакарміўшы курак і закрыўшы хату, у святочным пінжаку крочыў пан Раман. Жанчынкі пад'язджалі на роварах. Бабулек было надзвычай шмат, яны былі ў бліскучых серабрыстых і каляровых хусцінах. Кожная хустачка — як букет кветак: на светла-зялёным полі мільгацелі барвяныя вяргіні, ружовыя пялёсткі шыпшыны, памаранчавыя агеньчыкі бархаткаў.

Жыхары вёскі Слайкоўшчына на каталіцкія Пакровы паклікалі ксяндза, прыслалі за ім машыну, сабраліся ля Крыжа і маліліся аб здароўі і спакоі сем'яў.



*Залачэнне вянцоў*

— Трэба, каб так было ў кожнай супольнасці, — кажа ксёндз.

Напачатку кастрычніка мастак завяршыў пакрываць новым слоем пазалоты вянцы іконаў Божай Маці Вастрабрамскай.

**7 кастрычніка 2011 года была завершана рэстаўрацыя паўночнай і паўднёвай капліц касцёла, іконы атрымалі свой удасканалены выгляд, былі ўмацаваны вянцы, усталяваны алтары. Сабралася касцельная грамада, гудзеў арган, напаўняючы храм велічнымі, узнёслымі гукамі.**

**Эла Дзвінская**



*Марыя Язэпаўна Трапашка*

# Гучаў арган

**У вёсцы Вішнева Валожынскага раёна касцельная грамада павіншавала ксяндза-пробашча Ю. Мільдзюка з 12-годдзем пастырскага служэння, павітала з 70-гадовым юбілеем спявачку і музычнага кіраўніка.**

Калі глядзіш у вялікія вочы пані Марыі, думаецца: колькі душы і сардэчнага цяпла ўкладаюць жанчыны ў сваё служэнне! Марыя Язэпаўна Трапашка большую частку жыцця пражыла на Валожыншчыне. Яна выкладала беларускую мову, музыку і спевы. У яе ёсць унукі і праўнукі.

— Калі час стаў больш спрыяльны да веры, мы пачалі спяваць з дзецьмі-сіротамі, я вучыла іх рэлігійным спевам. Два разы мы выступалі з імі з канцэртамі ў Мінску на Залатой горцы, у Чырвоным касцёле, бралі ўдзел у фестывалі «Магутны Божа» ў Магілёве.

Маці калісьці прыводзіла мяне сюды, у Вішнеўскі касцёл, да споведзі, — узгадала пані Марыя. — По-

тым я думала, што можна верыць у душы і не хадзіць у касцёл. «Калі ты аддаляешся ад касцёла, — кажа пан пробашч, — карані тваe падсыхаюць». Так, тое было аддаленне. Праз 40 гадоў споведзь паўтарылася. Спавядаў мяне ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі.



*Скульптура Божай Маці ў маладым вішнёвым садзе*

Потым ён падараваў мне малітоўнік «Голас душы», выдадзены ў 1949 годзе ў Рыме, які стаў маёй настольнай кнігай. Я над ім малілася, плакала, паказвала людзям. І песні там былі, мы спрабавалі іх спяваць. Сама я іграла на баяне, на фартэпіяна. Арганіст Міхась вучыў мяне, усадзіўшы побач.

«У мяне слёзы падступаюць, калі вы спяваеце», — казаў пан Уладзіслаў. Ён быў яркай натурай. Умеў ладзіць з людзьмі, шкадаваў людзей, быў моцны, добры, памяркоўны.

Былы арганіст Міхал Бурачэўскі, сціплы інтэлігент сялянскага складу, многа ведаў, варта ўзгадаць яго добрым словам. Увесь касцёл спяваў, і гучаў цудоўны арган XVIII стагоддзя. Усё жыло, захавалася. Зараз мы граем на фісгармоніі, арган трэба аднавіць.

Некаторыя песні забыліся, мы іх прыгадалі. Былі часы, калі песенек не хапала, памаленьку сама іх складала.

Пані Марыя надрукавала зборнічак касцёльных спеваў на беларускай мове і прысвяціла яго Ул. Чарняўскаму».

«Ксёндз-ахвярнік, руплівец на ніве беларушчыны, пераклаў на беларускую мову «Новы Запавет», некалькі кніг Старога Запавету, «Жыцці святых». Усе гэта апрабату Апостальскай сталіцы», — напісала яна ў прадмове. — Будзем маліцца штодня на роднай мове,

дадзенай Тварцом. Будзем ахоўваць Яго бясцэнны святы дар, каб нашчадкі нашы зведалі радасць ад чысціні і велічнай прыгажосці роднага беларускага Слова».

*Ты нам надзеяй, Ты нам ратункам,*
*О, як бязмежна міласць Твая!*
Нашага краю Ты апякунка,
*О, Маці Божая Вішнеўская.*

— Прыгожы наш касцёл, у яго трэба ўкласці сэрца. Хай Бог дапамагае нашаму ксяндзу Юзэфу ўсё аднавіць і ўдасканаліць!— жадае шчырая мясцовая жанчына.

**Эла Дзвінская, фота аўтара**
**«Наша слова», ліпень 2011 года**



*Святочнае шэсце вакол касцёла ў Вішневе*

# Дапамога святых

*Я веру, што у кветак ёсць душа,*
*Якая адгукаецца, жывая.*

Генадзь Бураўкін

**— Пані Марыя, а ці не маглі бы Вы ўзгадаць які-небудзь выпадак з жыцця, калі б Вам дапамагалі святыя патроны Вашай сям'і?**

— Дакладна ведаю, як мне дапамог падрэ Піа. Яго вельмі любяць суседскія людзі. Вядомы ў свеце манах-капуцын падрэ Піа (Франчэска Фарджонэ) нарадзіўся ў вобласці Апулія на поўдні Італіі ў 1887 годзе. З 1916 года ён жыў у невялічкім паселішчы пад назвай Сан-Джавані-Ратонда. Цяпер у гэтай мясцовасці па яго праекце пабудаваны шпіталь. Падрэ Піа няспынна з любоўю дапамагаў простым людзям, лячыў іх, будаваў прытулкі і бальніцы. Ён здзейсніў за сваё жыццё шмат цудаў.



*Ксёндз Юзэф Мільдзюк*

У час Другой сусветнай вайны паселішча бамбардзіравалі. Амерыканскія лётчыкі распавядалі, што як толькі яны набліжаліся да дадзенай мясцовасці, то перад самалётам узнікала фігура раз'юшанага манаха, і яны былі змушаны мяняць курс. Пасля вайны пілоты прыехалі ў Сан-Джавані і пазналі ў падрэ Піа таго манаха. Караль Вайтыла тройчы ў сваім жыцці сустракаўся з падрэ Піа і атрымліваў ад яго параду і дапамогу.

— Айцец Уладзіслаў Чарняўскі, — успамінае пані Марыя, — аднойчы вярнуўся з Ватыкана і прывёз мне з Італіі фота святога айца Піа. Увосень 1968 года ён бачыў яго жывым. Падрэ Піа насіў на руках і нагах стыгматы, дзіры ад ран, як у Ісуса Хрыста пасля распяцця, якія не загойваліся на працягу 50 гадоў. Яны пастаянна крыватачылі і зніклі толькі за дзве гадзіны да яго адыходу ў вечнасць.

Пазней святар даў мне паправіць кніжачку пра цуды святога Піа. Напісана, што ён бачыў наскрозь чалавека на споведзі. Нагадваў пра забытыя і не спавяданыя грахі. Адна жанчына ўтаіла, што кінула немаўлятка ў возера. Св. Піа сказаў ён па споведзі: «Схадзі на возера, паглядзі». Зазірнуўшы з берага на ваду, яна адразу ўзгадала свой грэх. Іншай кабеце сваёй малітвай вярнуў да жыцця дзіця.

Тыя аповеды запалі мне ў душу. Пазней жанчына прывезла абразкі св. Піа з Барунаў. 23 верасня адзначаецца яго памяць. Па малітвах да святых ласка прыходзіць на сям'ю, родныя звяртаюцца да веры — у гэтым я пераканалася! Аднойчы, калі я малілася святому Піа на ружанцы, стоячы на каленях, маёй дачушцы стала лягчэй. Высокая тэмпература, якая панавала яшчэ з папярэдняга вечара, знізілася, яна адчула прыліў бадзёрасці, сказала па

тэлефоне: «Мама, мне стала значна лепей, я хуценька прыбрала ў хаце».

Падрэ Піа прадказаў Яну Паўлу II яшчэ ў 1947 годзе, што ён будзе «папам па крыві». Аднойчы Ян Павал II звярнуўся да святога з лістом, з просьбай памаліцца за хворую на рак горла жанчыну, якая ў вайну знаходзілася ў канцлагеры. Манах палічыў такую дапамогу неабходнай. Праз некаторы час Ян Павал II падзячыў у лісце манаху за ўдзел у ацаленні жанчыны.

Працэс прылічэння да ліку святых даволі доўгі. Для падрэ Піа ён пачаўся ў 1983 годзе. Перад беатыфікацыяй вядомага манаха было сабрана 6 тысяч старонак у шасці тамах. Пры такіх абставінах у Ватыкане складаецца камісія з лекараў і сведак. Калі яна дае станоўчы адказ, то асоба атрымлівае званне блажэннага. Пасля надання гэтага звання трэба чакаць яшчэ аднаго цуда, якое з'яўляецца Божым знакам, што Госпад згодны з гэтым рашэннем. У студзені 2000 года адзін італьянскі хлопчык выздаравеў пасля цяжкой формы менінгіту. Увечары 20 студзеня ён убачыў у сне манаха-капуцына.

**Эла Дзвінская**



*Алесь Пушкін рэстаўруе роспісы Фердынанда Рушчыца*

# Па слядах Рушчыца

У васьмі кіламетрах ад Вішнева знаходзіцца мястэчка Багданава. Тут у сядзібе Багданава ў 1870 годзе нарадзіўся вядомы мастак-пейзажыст, графік, тэатральны дэкаратар, педагог Фердынанд Рушчыц. Ён пакінуў глыбокі след у выяўленчым мастацтве Беларусі і Польшчы. Багданаўскія ваколіцы адлюстраваныя ў разнастайных творах. Тут ён адчуў сябе мастаком і ўвабраў творчую моц зямлі і прыроды. Яго выхаванцамі былі Язэп Драздовіч, Пятро Сергіевіч, Язэп Горыд.

Фердынанд Эдуардавіч Рушчыц нарадзіўся 10 снежня 1870 года ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета. Ён аказаў значны ўплыў на далейшае развіццё жанру пейзажу ў беларускім і польскім мастацтве, матэрыялізаваў магутны нацыянальна-патрыятычны імпульс, характэрны для мастацтва мяжы XIX–XX стагоддзя. Вельмі цэльная па духу творчасць Рушчыца мела непасрэднае дачыненне да фарміравання нацыянальна-рамантычнага пейзажу канца XIX — пачатку XX стагоддзя і найбольш ярка адлюстроўвала


*Фердынанд Рушчыц*

яго мастацкую праблематыку. У яго творчасці знайшлі адлюстраванне жыццё і побыт беларускага народа, адбіліся традыцыі беларускага рэалістычнага жывапісу. Дачка мастака Яніна Рушчыц сцвярджае, што яе бацька заўсёды лічыў сябе «тутэйшым» — гэта значыць беларусам.

Род Рушчыцаў паходзіў з-над Буга і належаў да гербу «Ліс». Дзядуля і бабуля — Фердынанд і Ганна з Чаховічаў — мелі 9 дзяцей. Бацька Рушчыца, Эдвард, быў капітанам царскай арміі, абсальвентам брэсцкага кадэцкага корпуса. Маці, Альвіна з дому Мюнхаў, датчанка паводле паходжання, нарадзілася ў Нексё на востраве Борнхальм. Яе бацька Маркус Мюнх быў уладальнікам гандлёвага карабля. Бацькі Фердынанда сустрэліся ў Лібаве (Латвія), дзе служыў Эдвард. Пасля паразы паўстання Кастуся Каліноўскага Рушчыцы на нейкі час былі вымушаны пакінуць сваё радавое гняздо. Толькі ў 1888 годзе яны вярнуліся ў маёнтак Багданаў з Мінска. У Рушчыцаў было пяцёра дзяцей: чатыры дачкі і малодшы сын Фердынанд.

Дзяцінства і юнацтва будучага мастака прайшлі ў Мінску. У 1883 годзе 13-гадовы Фердынанд паступіў у мінскую класічную гімназію, якую скончыў у 1890 годзе з залатым медалём. Тут жа ён атрымаў пачатковую мастацкую адукацыю ў выкладчыка Кузьмы Якаўлевіча Ермакова, выхаванца Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў.

Бацька, Эдуард Рушчыц, не ўхваляў захапленне сына, лічачы, што маляваннем не заробіш на жыццё, і настойваў, каб той пайшоў па слядах дзеда. Увосень 1890 года Фердынанд паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе на працягу двух гадоў старанна вучыўся, і толькі ў 1891 годзе падаў прашэнне ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў з просьбай залічыць яго вольным слухачом на аддзяленне жывапісу.

4 лістапада 1897 года Рушчыц скончыў Акадэмію і атрымаў званне мастака. У 1898 годзе, на вясновай выставе ў Акадэміі, маскоўскі калекцыянер і мецэнат Сава Марозаў купіў карціну «Зімовы млын», што дазволіла маладому мастаку здзейсніць працяглае вандраванне па Заходняй Еўропе. За два месяцы ён наведаў Берлін, Дрэздэн, Кёльн, Парыж, Брусэль, Мілан, Верону, Венецыю, Вену. Пасля доўгі час жыў у сядзібе Багданава, якую пасля шматгадовага заняпаду давёў да ладу яго бацька, зрэдку падарожнічаў па Беларусі і Расіі. У 1899 годзе прайшла яго першая выстава ў Вільні. Рушчыц браў удзел у грамадскім і культурным жыцці горада, супрацоўнічаў з тэатрам.

Ён прымаў эпізадычны ўдзел у аб'яднанні «Свет мастацтва», удзельнічаў у выставе ў Маскве ў 1902 годзе. У 1900 годзе ў Кракаве ўвайшоў у кола ўдзельнікаў таварыства польскіх мастакоў мадэрнісцкай арыентацыі «Штука» (пол.: «sztuka» — «мастацтва»).

З 1904 Фердынанд Рушчыц стаў прафесарам Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве. У 1907 годзе Рушчыца запрасілі загадваць кафедрай пейзажнага жывапісу ў Кракаўскую Акадэмію мастацтва, але інтрыгі ў Акадэміі і разлады сярод кракаўскіх мастакоў вымусілі яго ўжо ў 1908 годзе адмовіцца ад пасады. У тым жа годзе Рушчыц пераехаў з Кракава ў Вільню, каб у меру сваіх «сіл служыць справе ўздыму мастацкай культуры гэтай частцы краю».

Фердынанд Рушчыц аддаваў перавагу светлым матывам. Мастак любаваўся роднай зямлёй. Майстар краявідаў, ён бачыў тэмы для сваіх прац у кожным фрагменце беларускай прыроды, так і называў свае карціны: «Млын», «Берагі Вілейкі», «Лясны ручай». У пейзажах — такіх, як «Пустка» і «Стары млын», — адчуваюцца жывыя чалавечыя перажыванні. Шматлікія пейзажы Рушчыца адзначаны экспрэсіяй, драматызмам і манументальнасцю формаў, ім уласціва востра індывідуальная своеасаблівасць. Яго малюнак заўсёды выразны, а пластыка аб'ёмаў аголеная. Кампазіцыі палотнаў Рушчыца простыя і лаканічныя, аднак у іх заўсёды ёсць адчуванне рэальнай прасторы. Яны вельмі матэрыяльныя, паветраныя.

Стары драўляны млын недалёка ад Багданава, касцёлы ў Багданаве і Вішневе, роднае гняздо Рушчыцаў — упадабаныя матывы, да якіх Фердынанд ахвотна вяртаўся і пісаў у розныя часы дня і года, кожны раз адкрываючы ў іх штосьці новае. Любімай парой аўтара

была ранняя вясна, калі прырода абуджалася ад зімовага сну. Сярод усёй творчасці вылучаецца т. зв. «Багданаўскі цыкл». Крытыкі адзначалі выключны талент Фердынанда Рушчыца як каларыста, а мастацтвазнаўцы завуць мастака «майстрам чатырох стыхій».

«У 2012 годдзе ў Багданаўскім касцёле ўстанавілі мемарыяльную дошку ў памяць славутага мастака Фердынанда Рушчыца (1870–1936 гг.), вядомага майстра сімвалічнага пейзажу, арганізатара мастацкай адукацыі і аніматара пластычнай культуры міжваеннай Віленшчыны», — паведаміў сайт www.catholic.by.

Рупіцца пра належнае ўшанаванне памяці вялікага багданаўца каталіцкая і мастацкая інтэлігенцыя Беларусі пачалі каля 10 гадоў таму. Тады гэтай справай актыўна апекаваўся пробашч багданаўскага касцёла ксёндз Станіслаў Лугоўскі. Але праз грамадскую апатыю, якая тады пастурова агортвала краіну, гэтая ініцыятыва амаль заняпала. І толькі нядаўна адрадзілася зноў.

З Божай ласкі да справы падключыліся фундатары — унук мастака, таксама Фердынанд Рушчыц, і ягоны сын Эдвард. Ахвяраваныя сродкі дазволілі беларускаму скульптару Валерыю Калясінскаму скончыць гэтую пачэсную працу. Да яе рэалізацыі таксама істотна спрычыніўся цяперашні багданаўскі пробашч кс. Ігар Лашук і мастацтвазнаўца, прафесар Яўген Шунейка.

У мемарыяльнай кампазіцыі Калясінскага адлюстраваны партрэтны вобраз Рушчыца ў своеасаблівым картушы, які нагадвае абрысы дрэва пад парывамі ветру. У хуткім часе ў двары касцёла, на тым самым месцы, з якога Фердынанд Рушчыц намаляваў у 1899 г. сваю вядомую карціну «Ля касцёла» (у калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея), будзе ўсталявана другая шыльда ў памяць пра стварэнне гэтага жывапіснага шэдэўра, а трэцяя будзе ўмацавана на каменным муры вакол касцёла, што быў узведзены 110 гадоў па фундацыі Рушчыцаў.

Варта задумацца пра стварэнне своеасаблівага санктуарыя або запаведніка Рушчыца ў гэтых мясцінах. Нават са стратай улюбёнага дома мастака, які быў яго частым «героем», і быў знішчаны летам 1944 г. гітлераўцамі пры адступленні, навакольны пейзаж, які мала змяніўся за 70 гадоў, прымушае ўспомніць кампазіцыі многіх ягоных карцін, пачынаючы ад геніяльнай «Зямлі».

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



# Рэха з жывых муроў

**Непадалёку ад горада Слоніма можна пабачыць адно з самых дзівосных збудаванняў на Беларусі — Сынкавіцкую царкву. Яна высокая — здаецца, дастае да аблокаў. Сцены — з чырвонай старадаўняй цэглы, нібыта абпалены полымем шматлікіх войнаў, што пракаціліся па нашай шматпакутнай зямлі. Цяжка адарваць вочы ад гэтага надзвычай прыгожага помніка дойлідства.**

Сынкавіцкая царква — царква-крэпасць. Сведчаннем таму маўклівыя байніцы ў сценах Божага храма. За яго сценамі прашчуры не толькі тварылі малітву Усявышняму, але пры неабходнасці бараніліся ад ворагаў.

Падобная бажніца ёсць яшчэ толькі ў вёсцы Мураванка, што таксама знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці. У абодвух помніках увасоблены лепшыя рысы беларускага характару: мы — людзі мірныя і гасцінныя, але, калі трэба, умеем пастаяць за сябе, за сваю зямлю.

Сынкавіцкая царква, на думку некаторых даследчыкаў даўніны, збудаваная ў пачатку XV стагоддзя. Паданне кажа, што заклаў яе сам вялікі князь Вітаўт. І здарылася гэта вось з якой нагоды...

У 1377 годзе памёр вялікі князь Альгерд, які, па словах летапісцаў, «не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў». І пакінуў ён пасля сябе наступнікам любімага сына Ягайлу, які неўзабаве стаў каралём Польшчы. Пайшоў Ягайла вайною супраць свайго роднага дзядзькі вялікага Кейстута і сына яго князя Вітаўта. Аднак не змог іх адолець. Тады замысліў ён жорсткую хітрасць. Запрасіў да сабе дзядзьку і брата і пакляўся, што не зробіць ім зла. А як толькі яны, паверыўшы ў клятву, прыехалі ў Вільню, паланіў абодвух. Вітаўта спачатку каля сабе пакінуў, а вялікага князя Кейстута загадаў у ланцугі закаваць і кінуць у вежу Крэўскага замка. Яшчэ праз некалькі дзён служкі Ягайлавы забілі слаўнага Кейстута. Потым у Крэўскі замак прывезлі і Вітаўта з жонкаю...

Далей «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» расказвае:

«Сядзеў вялікі князь Вітаўт у Крэве пад моцнаю вартаю. Штовечар дзве кабеты прыходзілі пасцілаць пасцель яму і княгіні. А пасцяліўшы, выходзілі. За дзвярыма пакоя неадступна стаяла варта. Пачула вялікая княгіня ад людзей: «Калі Вітаўт не ўцячэ з вязніцы, дык тое самае з ім учыняць, што і з бацькам ягоным Кейстутам». І навучыла яна мужа свайго князя Вітаўта пераапрануцца ў адзенне адной з кабет, што прыходзіла ім слугаваць, а з другой — выйсці непрыкметна з пакоя. Паслухаў жонку князь Вітаўт, надзеў на сабе жаночае ўбранне, незаўважна спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію...»

Але, як сведчаць другія летапісцы, Вітаўт не адразу накіраваўся ў Прусію. Заблытваючы сляды, ён пусціўся наўцёкі ад Ягайлавых служак зусім у адваротны бок — да старажытнай Літвы, што знаходзілася тады за Наваградкам. І непадалёку ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы, князь Вітаўт знайшоў сабе надзейную схованъ пад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, пачаў перамагаць клятваадступніка Ягайлу і ўрэшце стаў адзіным уладаром Вялікага Княства Літоўскага.

Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінучай пагібелі вялікі князь загадаў пабудаваць у вёсачцы каля Слоніма храм: у знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё. Невядомыя таленавітыя дойліды выканалі волю Вітаўта і

паднялі да нябёс Сынкавіцкую царкву-крэпасць, што і па сённяшні дзень зачароўвае людзей сваёй стрыманай суровасцю і казачнай прыгажосцю.

Таўшчыня сцен храма дасягае 1,5 метра. Высокі двухсхільны дах надае будынку стройнасць і лёгкасць. Чатыры вежы, размешчаныя па вуглах, адрозніваюцца памерамі і архітэктурнымі формамі. Дзве заходнія вежы стаяць на квадратных фундаментах, з трох бакоў іх падтрымліваюць контрфорсы. Верхняя частка вежаў уяўляе сабой васьміграннік з трыма ярусамі байніц. На працягу шасці вякоў храм быў месцам абароны ад духоўнай і рэальнай бітвы.

У архітэктуры будынка выяўляюцца рысы раманскага і гатычнага стыляў. У шчыце франтона ёсць неглыбокія, розныя па форме і памерах атынкаваныя і пабеленыя нішы. Яны здымаюць уражанне цяжкаватасці і масіўнасці.

У 2011 годзе на паўднёвай сцяне храма пад слаямі фарбы і тынкоўкі былі знойдзены старажытныя графіці, якія ўтрымліваюць цытату з Евангелля на старажытнагрэчаскай мове.

Летам 2012 года Алесь Пушкін вёў рэстаўрацыйныя працы па зняцці алейнай зафарбоўкі 1990 года ў інтэр'еры царквы абарончага тыпу імя Архангела Міхаіла в. Сынкавічы, Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці.

Яшчэ ў 1997 годзе творцу зацікавіў унікальны помнік беларускай архітэктуры XV стагоддзя ў Сынкавічах. У тыя часы ён скончыў працаваць над аднаўленнем Магілёўскага катэдральнага касцёла (1992–1996), дзе набываў першы вопыт пад кіраўніцтвам слынных рэстаўратараў В. Лукашэвіча і А. Ліпскага.

У далейшы перыяд ён распісваў Бобрскую царкву Мікалая Цудатворцы, працаваў над рэстаўрацыяй абразоў Міхалішскага, Талачынскага, Карэліцкага касцёлаў.

27 чэрвеня 2012 года паступіла прапанова ад айца-настаяцеля Арсенія аб пробах па расчыстцы цэнтральнай алтарнай абсіды ад алейнай зафарбоўкі сцен у 1990 годзе. Тое паслужыла пачаткам работ па выкананні пробных расчыстак рознымі хімрэагентамі, пры дапамозе кансультацый хіміка ТАА «ПраектРэстаўрацыя» Алены Міхайлаўны Краўчук. Гэтыя работы былі патрэбныя для таго, каб выявіць, ці ёсць якія-небудзь фрэскі, роспісы на сценах царквы пад слоем алейнай фарбы 1990 года.

Дзейнасць праводзілася ў рэспіратары і гумовых пальчатках, пры добрым праветрыванні апсіды — неабходная ўмова працы з агрэсіўнымі і шкоднымі для здароўя чалавека рэчывамі, згодна нормаў тэхнікі бяспекі.

«Напрыканцы ліпеня я знайшоў абвестку Алеся Пушкіна, — узгадвае адзін са старэйшых удзельнікаў групы, 70-гадовы Алесь Шэршань, з запрашэннем да працы ў Сынкавіцкай царкве па расчыстцы алейнай расфарбоўкі мінулых стагоддзяў.

Вечарам 24 ліпеня мы апынуліся ў Сынкавічах. Выгляд самой царквы мяне вельмі прыемна здзівіў чырвоным колерам цаглянай кладкі, адчуваннем непарушнай моцы і трываласці яе кутніх вежаў-байніц. Як быццам бы яна была не збудаваная на зямлі, а вырасла з яе.

Расчыстка сцен алтарнай часткі царквы — гэта толькі пачатак маштабнай рэстаўрацыі старадаўняй царквы пад патранатам БПЦ і міністэрства культуры Беларусі.

Праз пэўны час мы закончылі неабходную расчыстку. Сцены і купал алтарнай часткі царквы з цёмна-сініх сталі светлабэжавымі — набылі першапачатковы колер XV стагоддзя. Здаецца, што зараз алтарная частка не толькі святлейшая, але і вышэйшая за астатнія часткі царквы. Пройдзе некаторы час — і ў ёй узнікне выява Архангела Міхаіла. Але гэта будзе толькі пачатак працяглага ўзнаўлення».

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта,**
**газеты «Наша слова», 26 верасня 2012 года**



*Маці Божая Бялыніцкая, 2012 г.*

# Серабрыстая лілея

**Бялыніцкі абраз Божай Маці шануецца каталіцкім, праваслаўным і ўніяцкім насельніцтвам Усходняй Беларусі як цудатворны.**

— Цэлы год я пісаў на дошцы ікону Божай Маці Бялыніцкай, спавядаўся, прычашчаўся, каб з чыстай душой яе напісаць. Ікону асвяціў айцец Віктар з Бабра, — распавёў Алесь Пушкін. — Бялыніцкая ікона Божай Маці з'яўляецца нашай рэгіянальнай святыняй. Яна была ў маёй мамы ва ўшанаванні. Другі абраз, нядаўна завершаны мною, — «Дабрадатнае неба».

З самім арыгіналам Бялыніцкай іконы Божае Маці звязана шмат гісторыяў і легендаў.

Існуюць два розныя паданні — праваслаўнае і каталіцкае, якія апавядаюць пра гісторыю абраза. Праваслаўнае паданне мае дзве версіі. Адна з іх сцвярджае, што пасля разгрому Кіева татарскімі

войскамі Батыя некалькі манахаў, узяўшы з сабой старажытны абраз візантыйскага пісання, сышлі, ратуючыся ў лесе. Свой доўгі шлях яны завяршылі на ўзвышшы ля ракі Друць — правам прытоку Дняпра, дзе і заснавалі царкву св. Іллі Прарока і мужчынскі манастыр. Ужо ў першую ноч на абраным месцы ад іконы пачало зыходзіць незвычайнае ззянне. Цуд паўтараўся і ў наступныя ночы, якія сталі ад ззяння белымі. У памяць пра гэты цуд мястэчка, дзе быў заснаваны манастыр, нібыта і атрымала назву Бялынічы. Пазней абраз быў выкрадзены манахамі-кармелітамі.

Па іншай версіі, ікона была выкрадзена каталікамі з варот праваслаўнага Аршанскага Куцеінскага манастыра і перададзена ў кармеліцкі манастыр. Касцёл і кляштар каталіцкага манаскага ордэна кармелітаў быў заснаваны вялікім канцлерам літоўскім Львом Сапегам у 1622 годзе. Лічыцца, што фундацыя была знакам падзякі Богу за перамогу ў 1618 годзе над войскамі маскоўскага цара.

Версіі каталіцкага падання гавораць, што абраз з’явіўся ў кармеліцкім Бялыніцкім кляштары цудоўным чынам. Выявы Прасвятой Багародзіцы і Дзіцятка напісаў пілігрым-жывапісец падчас спеваў манахамі літаніі Божай Маці.

Большасць гісторыкаў схільныя лічыць, што цудатворны абраз у Бялынічах быў напісаны ў 1634–1635 гадах невядомым мастаком. На думку даследчыка Аляксандра Ярашэвіча, спалучэнне рысаў сведчыць аб прыналежнасці абраза да беларускай іканапіснай школы, заснаванай на дзвюх вялікіх мастацкіх традыцыях хрысціянскага Усходу і Захаду, расквітнелай у першай палове XVII стагоддзя.

У час вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай кармеліты ў 1655 годзе перавезлі абраз ва ўмацаванае мястэчка Ляхавічы, якое доўгі час потым знаходзілася ў аблозе войскаў цара Аляксея Міхайлавіча. Аблога Ляхавіч была знятая пасля перамогі польска-літоўскіх войскаў пад Палонкай 2 ліпеня 1660 года.

У 1660-м, калі ўзнікла ваенная пагроза, законнікі вырашылі адвезці абраз з усім срэбрам і касцёльным начыннем у Кракаў. Аднак Бог у бясконцай сваёй дабрыні, відаць, не захацеў, каб гэты абраз з Літоўскага краю быў аддалены. Ён зрабіў так, што калі законнікі з абразом праязджалі міма Ляхавіцкай фартэцыі, яны былі затрыманы невядомай сілай, і коні ніяк не маглі пайсці да-

лей. Вестка пра гэты цуд дайшла да Станіслава Міхала Юдзіцкага, генерала каманды ў Ляхавіцкай фартэцыі, які, выйшаўшы з духавенствам, прыняў абраз і праводзіў яго да фартэцыі. Два законнікі засталіся пры абразе для яго аховы, а астатнія з касцёльным срэбрам паехалі ў Кракаў.

Вызваленне Ляхавіч было прыпісана камандзірам крэпасці Міхаілам Юдзіцкім цудоўнай сіле Бялыніцкай іконы Божай Маці, перад якой быў выкананы падзячны гімн «Te Deum» («Цябе, Божа, хвалім»). Камісіі Віленскага біскупа ў 1755 годзе было прад'яўлена 9 сведчанняў цудаў Бялыніцкай іконы.

Абраз знаходзіўся ў Ляхавічах да 1760-га. У 1760 годзе абраз урачыста перанеслі ў Бялынічы ў наноў пабудаваны касцёл. Яшчэ падчас знаходжання цудатворнага абразу ў Ляхавічах біскуп Віленскі Міхаіл Зяньковіч атрымаў у 1754 дазвол і булы Папы Рымскага Бенедыкта XIV на каранацыю абраза. Залатыя кароны з гербамі Сапегаў і Агінскіх былі выраблены на сродкі гэтых магнацкіх родаў.

Урачыстая каранацыя абраза адбылася 20 верасня 1761 года. Для правядзення свята перад домам Агінскіх пабудавалі альтанку з трыумфальнымі варотамі, куды быў змешчаны абраз. Каранацыю па даручэнні біскупа Зяньковіча здзейсніў біскуп смаленскі Ежы Мікалай Гільзен. Казанне вёў вядомы дамініканскі прапаведнік — Ваўжынец Аўлачымскі.

Пасля ўскладання карон ікона была перанесена ў храм. Свята працягвалася цэлы тыдзень. У ім прымалі ўдзел жыхары Шклова, Мсціслава, Оршы і Віцебска.

Каранацыя пашырыла славу цудатворнай Бялыніцкай іконы Дзевы Марыі. У манастыр у святы Ушэсця Гасподняга, Сашэсця Святога Духа, Шкаплернай Божай Маці, св. Іллі і Раства Багародзіцы ішлі шматлікія групы паломнікаў з Галоўчына, Кудзіна, Царкавішча, Эсьмон, Цяцерына, Бялевіч, Княжыч.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1773 г.) Бялынічы ўвайшлі ў Расійскую імперыю. Паўстанне 1831 года паслужыла падставай да закрыцця ў 1832-м толькі ў Магілёўскай губерні 23 каталіцкіх манастыроў, у тым ліку і ў Бялынічах. Пасля польскага паўстання 1863–1864 гадоў многія касцёлы былі зачынены і перададзены праваслаўнай царкве.

У 1876 годзе адбылася перадача Бялыніцкага касцёла з цудатворнай іконай Рускай Праваслаўнай царкве. Лічаць, што апошні парафіяльны святар ксёндз Люцыян Гадлеўскі схаваў арыгінал і пакінуў у касцёле копію. «Арыгінал жа, — піша ксёндз Тадэвуш Крагель (Беласток), — па здагадцы некаторых, знаходзіцца ў Волі-Гутоўскай».

Глыбокая пашана беларусаў да цудатворнага Бялыніцкага абраза знайшла адлюстраванне ў створаных шматлікіх жывапісных копіях, эстампах, якія беражліва захоўваюцца ў хрысціянскіх храмах і сем'ях. Перад абразом Найсвяцейшай Багародзіцы моляцца аб вылячэнні ад хвароб, аб суцяшэнні ў скрусе.

Сучасны творца пранікнуўся глыбінёй набожнай гісторыі і трапяткім чынам перадаў у фарбах пашану і веліч Бялыніцкага абразу Божай Маці.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



# Gloria in Excelsis Deo

*І лічыць вёрсты зорны мастак,*
*Якімі йсціме*
*Ўсятворцу ўкленчыць*

Р. Барадулін

**Апісанне праведзеных работ, прадстаўленых для атрымання сертыфікату Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі.**

Мной, Аляксандрам Пушкіным, 1965 года нараджэння, сябрам Саюза мастакоў Беларусі, праведзеныя наступныя працы ў касцёлах і цэрквах Беларусі:

1) **З 1992 па 1996 год** працаваў над рэстаўрацыяй і рэканструкцыяй насценнага жывапісу Магілёўскага архікатэдральнага касцёла ў складзе спецыялістаў Беларускай каталіцкай грамады. Навуковы кіраўнік рэстаўрацыі — рэстаўратар І-й катэгорыі Віктар Лукашэвіч.

За гэты час ачышчана ад алейнай зафарбоўкі, прамыта, адрэстаўравана і замацавана каля 2 500 м² на-



*Мазайка на фасадзе Мінскага касцёла Яна Хрысціцеля*

сценнага жывапісу XVIII— XIX ст., зроблены копіі ў натуральны памер вызначаных фрагментаў, створаны праект рэканструкцыі насценнага жывапісу капліц, нефаў, прэзбітэрыя і нартэксаў, базаў калон касцёла. Напісаныя новыя рэканструкцыі фрэсак у капліцы Святога Антонія Падуанскага (левая) і Святога Язэпа (роспіс плафона «Глорыя кардыналу Свёнтку»). У 1995–1996 гг. зроблены гэты роспіс плафона (1996 г.) у капліцы Святога Язэпа плошчай 40 м$^2$.

Таксама напісана фрэска «Святая Цэцылія» (1993 г.) плошчай 4 м$^2$ і «Святы Арханёл Міхаіл» плошчай 9,5 м$^2$ (1994 г.) у левым бакавым нефе касцёла. Уверсе першага левага бакавога алтара напісана невялікая (0,5 м$^2$) фрэска «Святы Апостал Юда-Тадэвуш», зроблена залачэнне ляпніны абапал гэтай фрэскі (1995 г.).

У ліпені 1996 г. кардынал Казімір Свёнтак правёў кансекрацыю Магілёўскага архікатэдральнага касцёла. Храм поўнасцю адрэстаўраваны і здадзены ў эксплуатацыю.

2) У чэрвені-жніўні 2001 года быў напісаны галоўны храмавы абраз «Lactasti SACRO UBERE» для парафіі ў Раўбічах (касцёл Святога Мацвея). Абраз выкананы пад навуковым кіраўніцтвам архітэктара Аляксея Яроменкі.

3) **У ліпені-жніўні 2002 года** выкананы вітраж алтарнай часткі рыма-каталіцкай капліцы Святога Яна Хрысціцеля, што ў Сера-




*Галгофа (Вішнёва)*

бранцы (Мінск), плошчай 2 $м^2$. Работы вяліся пад наглядам і пры ўзгадненні з архітэктарам капліцы Аляксеем Яроменкам. Копія дамовы дадаецца.

4) **З 1995 па 2000 год** працаваў над роспісам сваёй роднай царквы святога Міколы ў мястэчку Бобр Крупскага раёна. Распісана больш 2 000 $м^2$ паверхні; столь — тэмперны роспіс, сцены — фрэска. Эскізы ўзгоднены і бласлаўлёны благачынным цэркваў Барысаўскай акругі — протаіерэем Іаанам Місеюком 25.07.1995. Работы вяліся пад наглядам настаяцеля царквы айца Віталя Мяшко. У гэтыя ж гады напісаны галоўны храмавы абраз Маці Божай для Бобрскай царквы.

17 лютага 2011 года царква згарэла, увесь жывапіс і абразы страчаны...

5) **У 2002 годзе** напісаны і ўстаноўлены абраз Маці Божай Вастрабрамскай у касцёле Хрыста Валадара вёскі Карэвічы (Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці).

6) **У траўні 2004 года** напісаны страчаныя абразы двух бакавых алтароў касцёла Арханёла Міхаіла вёскі Міхалішкі (Астравецкі раён Гродзенскай вобласці) — «Маці Божая Ружанцовая» і «Святая Ганна». Устаноўлены і асвечаны 30 мая 2004 года.

7) **13 чэрвеня 2007 года** напісаны і ўстаноўлены абраз Святога Антонія Падуанскага на фасадзе касцёла ў г. Талачыне (Віцебская вобласць).

8) **У жніўні-верасні 2008 года** выканана мазаіка «Святы Ян Хрысціцель — Анёл Пустэльні» на фасадзе капліцы Яна Хрысціцеля, што ў Серабранцы, у Мінску. Плошча — 2 $м^2$, у тэхніцы рымскай мазаікі.

9) **У чэрвені 2009 года** адрэстаўраваны галоўны храмавы абраз «Сэрца Езуса», напісаны ў 1943 годзе жаўнерам Вермахта І. Шус-


*Эскіз вітража «Св. Цэцылія» для касцёла ў Вішневе, 2011 г.*

сэ ў Ваўкавыску для касцёла Хрыста Валадара вёскі Карэвічы (Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці).

10) **У верасні 2009 года** адрэстаўравана і пафарбавана каплічка ў вёсцы Геруцева (Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці).

11) **Летам 2011 года** ў касцёле Дзевы Марыі ў м. Вішнева (Валожынскі раён) была праведзена рэканструкцыя бакавой правай капліцы касцёла ў імя Пана Езуса. Адрэстаўравана драўляная скульптура XVIII ст. «Езус Укрыжаваны», зроблены роспіс тэмперай за ім — «Галгофа» плошчай 8 м$^2$, выкананы вітраж «Святая Цэцылія» ў тэхніцы «тыфані», плошчай 1 м$^2$.

**У 2011 годзе**, 7 кастрычніка, установлены зацверджаны Навукова-метадычнай радай Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыне і рэстаўрацыі Міністэрства Культуры РБ, згодна мной пададзенаму праекту, алтар Маці Божай Вастрабрамскай у паўночнай, левай капліцы касцёла. У ім знаходзяцца мной адрэстаўраваныя абразы — Святога Арханёла Міхаіла і Маці Божай Вастрабрамскай.

12) Напісаны абраз для Вішнева «Святы Томас Бекет»

13) **Лета 2012 года** — адрэстаўраваны вітражы вокнаў Цэнтральнага алтара касцёла ў Вішневе.

14) **У 2012 і 2013 гады** — працы па рэстаўрацыі царквы Арханёла Міхаіла ў Сынковічах.



*Абраз «Мадонна Кутнай гары» (2005)*
*Дошка, тэмпера, 24×18 см*
*Прыватная маёмасць аўтара*




*Абраз Маці Божай Карміліцы «Lactasti sacro ubere» (2001)*
*Дошка, ляўкас, тэмпера, 24×18,5 см*
*Касцёл Святога Апостала Мацвея, Раўбічы*



*Святы Арханёл Міхаіл (1999)*
*Палатно, алей, 120×80 см*
*Абраз для касцёла ў мястэчку Варапаева*




*Абраз Маці Божай Жыровіцкай (2007)*
*Дошка, ляўкас, тэмпера, 30×40 см*
*У прыватнай уласнасці сям'і Вячоркаў*



*Абраз Божай Маці Вострабрамскай (2008)*
*Дошка, тэмпера, 25×18,5 см*
*У прыватнай уласнасці сям'і Аляхновічаў*



*Абраз Маці Божай Будслаўскай (2011)*
*Палатно, алей, 50×50 см*
*У прыватнай уласнасці сям'і беларусаў у Лондане*



*Маці Божая Ружанцовая (2004). Палатно, алей, 204×80 см*
*Абраз у касцёле ў Міхалішках*



*Святая сям'я (2003). Дошка, тэмпера, 60×40 см*
*У прыватным зборы сям'і Ігнатовічаў, Маладзечна*



*Святая Ефрасіння Полацкая (2007)*
*Дошка, тэмпера*



*Святы Антоній Падуанскі (1995)*
*Фрэска ў Магілёўскім касцёле*




*Святы Трыфан (2002). Дошка, тэмпера, 60×40 см*
*У прыватным збор Дз. Шаўня, Самахвалавічы*



*Маці Божая Бялыніцкая (2012). 60×40 см*
*Знаходзіцца ў Беларускім Доме ў Празе*



*Васількі (1997). Палатно, алей, 40×30 см*
*Прыватны збор, Гановер*



*Белая Панна (2004)*
*Палатно, алей, 80×60 см*
*Прыватная галерэя «Крыга», Гродна*



*Францішак Скарына ў Празе (2004)*
*Палатно, алей, 100×80 см*
*Беларуская клубоўня, Прага*



*Партрэт паэткі Леры Сом (2005)*
*Палатно, алей, 50×40 см*
*У прыватнай уласнасці сям'і, Полацк*



*Мядовы Спас (1999)*
*Палатно, алей, 60×90 см*
*Расія, Наябрск,  прыватны збор*



*Вясковая настаўніца (2006–2010). Палатно, алей, 200×120 см*
*Уласнасць аўтара*



*Міколка і Вясна (2004)*
*Кардон, алей, 60×60 см*
*Прыватны збор у Віцебску*



*Сакавік (2003).*
*Палатно, алей, 99×99 см*
*Крупскі лясгас*



*Паўстанец 1863 года (2008).*
*Палатно, алей, 100×60 см*
*Гатэль Эверэст, Вэнгрув*



*Размаўляй са мной па-беларуску! (2007)*
*Палатно, алей, 90×90 см*



*Марылька (2007)*
*Палатно, алей, 60×60 см*



*Пленэр на Беларусі (2000). Палатно, алей, 220×80 см*



*«Выпускнікі Віленскага ўніверсітэта», 2005 г.*

# Дзяржаўныя дзеячы, навукоўцы, мастакі

**Пушкіна цікавяць героі розных эпохаў мінуўшчыны. Ён чэрпае досвед і натхненне ў вывучэнні жыцця і дзейнасці нашых славутых суайчыннікаў, аднаўляе іх аблічча і робіць іх больш блізкімі і зразумелымі сучасным беларусам. Адна з карцін Алеся Пушкіна называецца «Выпускнікі Віленскага ўніверсітэта». Якой была гэта слынная навучальная ўстанова на працягу чатырох стагоддзяў? Якія людзі вышлі з яе сцен?**

— На карціне адлюстраваны 25 партрэтаў выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта XX стагоддзя, — распавёў аўтар. — Сярод іх — Пётра Сергіевіч, Барыс Кіт, Лідзія Каўшанка, Адам Дасюкевіч і іншыя. Я напісаў гэту карціну і падарыў яе Музею прафесара Анатоля Белага ў Старых Дарогах. У яго прыватным мастацкім музеі экспануецца каля 1700 твораў жывапісу, графікі. Прадстаўлены партрэты князёў,

палкаводцаў, гетманаў, дзяржаўных, рэлігійных і культурных дзеячаў Беларусі і яе дыяспары. У музеі сабрана вялізная калекцыя барэльефаў, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. Вялікую павагу выклікала дзейнасць прафесара па ўстаноўцы помнікаў Максіму Багдановічу, Францішку Скарыну, Міколе Гусоўскаму, Ефрасінні Полацкай, Васілю Цяпінскаму, Сымону Буднаму,Ларысе Геніюш і іншым волатам беларускага духу. У 2005 годзе Анатоль Белы ўзнагародзіў мяне ганаровым медалём «Рупліўцы твае, Беларусь».

## Віленскі езуіцкі калегіум і Віленская акадэмія

Бліскуча разгалінаваная сістэма адукацыйных установаў — калегіумаў з выкладаннем асноў катэхізіса, лацінскай, грэчаскай моваў, рыторыкі, філасофіі і прыродазнаўчых навук дапамагла братам-езуітам узняць аўтарытэт каталіцызму ў перыяд павелічэння ўплыву пратэстантызму ў XVI–XVII стагоддзі.

На аснове парафіяльнай школы езуіты 27 верасня 1570 года заснавалі ў Вільні калегіум, разлічаны на 160 навучэнцаў. 7 ліпеня 1578 года ў Львове Стэфан Баторый выдаў першы прывілей, які надаваў калегіуму такія самыя правы, што мелі акадэміі і ўніверсітэты, але без вялікай або малой пячаткі ВКЛ прывілей не меў сілы, у той час вялікай пячаткай распараджаўся канцлер Мікалай Радзівіл Руды, кальвініст па веравызнанні. 1 красавіка 1579 Стэфан Баторый выдаў другі прывілей, згодна з якім езуіцкі калегіум мусіў пераўтварыцца ў акадэмію (лац. *Almae Academia et Universitas Vilnensis Societatis Jesu*), а кароль і вялікі князь прызначаў дзеля гэтага адпаведныя сродкі. Канцлер зноў адмовіўся прыкладаць вялікую пячатку, але Стэфан Баторый пераканаў падканцлера Яўстафія Валовіча, таксама кальвініста, прыкласці да прывілея малую пячатку і тым самым надаць дакументу юрыдычную моц. Ужо 30 кастрычніка 1579 папа Рыгор XIII сваёй булай зацвердзіў гэты прывілей.

Мовай выкладання ў акадэміі была лаціна, як тады было прынята ў Еўропе, а выкладчыкі паходзілі з розных частак Рэчы Паспалітай. Першым рэктарам стаў Пётр Скарга. Акадэмія першапачаткова складалася з двух факультэтаў — філасофскага і тэалагічнага. У 1641 кароль і вялікі князь Уладзіслаў Ваза выдаў прывілей на

заснаванне медыцынскага і юрыдычнага факультэтаў — у тым жа годзе юрыдычны факультэт быў створаны. У 1735–1737 гадах пасаду рэктара займаў Кароль Бартольд.

Віленская акадэмія была адзінай вышэйшай школай у ВКЛ. Да найбольш вядомых навукоўцаў, звязаных з гэтым перыядам вучэльні, належалі Мацей Сарбеўскі — паэт, які пісаў па-польску і па-лацінску, гісторык Войцех Віюк-Каяловіч, а таксама Марцін Сміглеўскі — аўтар папулярнага па ўсёй Еўропе падручніка логікі. Акадэмія была важным цэнтрам контррэфармацыі ў ВКЛ. У XVIII стагоддзі ў акадэміі былі распрацаваныя правілы літоўскай мовы і ўпершыню распачаты друк на ёй у межах ВКЛ. У 1753 была адкрытая абсерваторыя, а пры ёй — фізічны і астранамічны факультэты. У 1773 годзе ордэн езуітаў быў скасаваны, а Акадэмія перайшла ў валоданне дзяржавы.

### Галоўная школа Вялікага Княства Літоўскага

Пасля скасавання Ордэна езуітаў (1773) Віленская акадэмія ў 1781 годзе ператвараецца ў Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага (лац.: *Schola Princips Magni Ducatus Lithuaniae*) — свецкую вучэльню, рэфармаваную Адукацыйнай камісіяй. Пачынаецца выкладанне на некаторых факультэтах літаратуры і гісторыі Польшчы і Літвы, прыродных і матэматычных навук. Афіцыйна школа па-ранейшаму называецца па-лацінску «Academia et Universitas Vilnensis», толькі без азначэння «Societatis Jesu». Але менавіта ў гэты час яе сталі часцей называць універсітэтам, а не акадэміяй, як раней. Гэты — перыяд час пэўнага росквіту навучальнай установы. У той жа час школа мела найлепшы ў Рэчы Паспалітай медыцынскі факультэт, створаны Ёганам Петэрам Франкам з Вены. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай яна была перайменаваная ў Галоўную віленскую школу і на нейкі час страціла свае былыя статус і веліч.

### Імператарскі Віленскі ўніверсітэт

4 (16) красавіка 1803 года імператар Расійскай імперыі Аляксандр I падпісаў акт, паводле якога Галоўная віленская школа была пераўтворана ў Імператарскі Віленскі ўніверсітэт і зрабілася



*Вялікі двор Віленскага ўніверсітэта і касцёл св. Яна ў (1840–1850-я гады)*

цэнтрам адукацыі для васьмі губерняў — Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Валынскай, Падольскай, Кіеўскай.

Ганаровым папячыцелям і патронам універсітэту становіцца князь Адам Чартарыйскі. Да паўстання 1830–1831 гадоў універсітэт зазнаў час росквіту. Да найбольш вядомых навукоўцаў гэтага часу, звязаных з універсітэтам, належалі Ян Снядэцкі, Анджэй Снядэцкі, Іахім Лялевель, Міхал Ачапоўскі, Сімонас Даўкантас і Ёзэф Франк. Вучыліся тут Адам Міцкевіч, Юліуш Славацкі. Колькасць студэнтаў узрасла ад 290 асобаў у 1804 годзе да 1321 у 1830-м. У 1823 годзе вучэльня стала найбуйнейшай у Расіі і Еўропе, пераважаючы па колькасці студэнтаў Оксфардскі ўніверсітэт.

Універсітэт складаўся з чатырох факультэтаў — фізіка-матэматычнага, медыцынскага, маральна-палітычнага (з багаслоўем), літаратурнага з мастацтвамі. Было 32 кафедры, выкладалася 55 прадметаў. Да ўніверсітэта належалі: батанічны сад, анатамічны музей, клініка, фізічная і хімічная лабараторыі, бібліятэка на 60000 тамоў.

Тут дзейнічалі тайныя студэнцкія арганізацыі філарэтаў, філаматаў. У 1823 годзе па справе аб прыналежнасці да іх былі арыштаваныя дзясяткі навучэнцаў, сярод якіх і Адам Міцкевіч, і пасля доўгатэрміновага трымання за кратамі высланыя ў розныя гарады Расіі. Пасля гэтага была паступова ўведзена руская мова.

**У розны час тут вучыліся літаратар і калекцыянер Аляксандр Жыркевіч (1857–1927), польскі дзяржаўны дзеяч Юзэф Пілсудскі (1867–1935), актор Васіль Качалаў (1875–1948), мастак Мсціслаў Дабужынскі (1875–1957), кампазітар Канстан-**

**цін Галкаўскі (1875–1963), тэарэтык літаратуры Міхаіл Бахцін (1895–1975).**

З-за непасрэднай ці ўскоснай падтрымкі шматлікімі студэнтамі і выкладчыкамі паўстання 1831 года рэскрыптам Мікалая I 1 мая 1932 года ўніверсітэт цалкам скасоўваецца. Медыцынскі і тэалагічны факультэты ператвараюцца ў Медыка-хірургічную акадэмію, якая потым перадаецца Кіеўскаму ўніверсітэту св. Уладзіміра, і ў каталіцкую Духоўную акадэмію, з часам пераведзеную ў Санкт-Пецярбург. З 1855 у будынках універсітэта знаходзіцца Музей старажытнасцяў, потым Публічная бібліятэка, архіў, а таксама дзве мужчынскія гімназіі.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*«Святая благаверная княгіня Сафія Слуцкая», 1997 г.*

# Святая Сафія Слуцкая

**Княгіня Сафія Слуцкая была апошняй з роду князёў Слуцкіх і Капыльскіх, нашчадкаў вялікага князя Альгерда (па лініі кіеўскіх князёў Алелькавічаў). Некаторыя з гэтага роду сядзелі на кіеўскім троне, іншыя былі князямі Ноўгарада Вялікага. Родапачынальнікам князёў Слуцкіх быў унук Альгерда — Алелька Уладзіміравіч. Уладальніца Слуцкага княства — апошняя княгіня горада Слуцка, якую ўшаноўвае царква.**

Яна нарадзілася 1 мая 1585 года і была адзінай дачкой князя Слуцкага Юрыя Юр'евіча і Барбары, дачкі Мікалая Кішкі. Яна рана засталася сіратой, адышлі і яе дзядзькі Аляксандр і Ян-Сімеон. Паводле дзедава запавета, Сафія стала яшчэ княжной Капыльскай. Дзяўчынка была самай багатай нявестай у Рэчы Паспалітай. Апеку над ёй узялі Хадкевічы, родныя па жаночай лініі. Маленства і юнацтва яна праводзіла ў

Берасце і ў Вільні. Спачатку дзяўчынку апякаў стараста жамойцкі Юры Хадкевіч у Вільні, потым віленскі кашталян, берасцейскі стараста Еранім Хадкевіч.

20 ліпеня 1600 года жаніх Сафіі Януш звярнуўся да Папы Рымскага па дазвол узяць шлюб з князёўнай і самому заставацца ў каталіцызме. Разам з тым вядома аб прыналежнасці Януша Радзівіла да кальвінісцкай галіны пратэстантызму. Вянчанне адбылося 1 кастрычніка 1600 года ў адным з сабораў Берасця. Як законапаслухмяная жонка, Сафія запісала ў Навааградскім судзе на мужа (пасля смерці) усе свае землі і ўладанні.

У хуткім часе пасля вяселля князь Януш Радзівіл адправіўся на вайну са Швецыяй (1660–1605), а затым з Масквой (1609–1612). У гэты час слуцкая княгіня ўсю сваю любоў і клопат перанесла на зацвярджэнне і захаванне праваслаўя ва ўмовах націску уніі, які ў той час нарастаў пасля абвяшчэння ў 1596 годзе царкоўнай уніі з Рымам.

Княгіня актыўна займалася царкоўнымі справамі, дапамагала праваслаўнай царкве. У гэты час ёй належаў Слуцк, і княгіня абараняла інтарэсы праваслаўных. Жыхары горада згуртаваліся вакол сваіх святых у Слуцкае Брацтва Пераўтварэння Гасподняга. Княгіня Сафія пераканала свайго мужа атрымаць у караля грамату, якая б забараняла прымушаць яе падданых да уніі. Януш Радзівіл пацвердзіў дадзеныя правы Слуцка назаўсёды. Разам з мужам Сафія займалася дабрачыннасцю. Архівы захоўваюць граматы аб ахвяраваннях Радзівілаў. З удзелам Сафіі горад Слуцк заставаўся цвярдыняй праваслаўя. Пад яе абарону сцякаліся гнаныя адзінаверцы. За свае сродкі Сафія пабудавала Пакроўскі храм на Мір-Гары Язельскага павета Бабруйскага ўезда. Княгіня Сафія сваімі рукамі вышывала святарскія рызы для цэркваў.

Святая княгіня Сафія Слуцкая ўяўляе сабой вобраз жанчыны, вонкава далікатнай і слабай, але па жыццяпісе мы ведаем, колькі дабра яна зрабіла для свайго народа, для сваіх людзей. Натхняе сучаснага чалавека тое, што святая была міратворыцай, умела сваім тактам і сваёй самаадданасцю прымірыць абодва бакі, якія ваявалі. Дзеля гэтага яна і ўступіла ў шлюб. І яна з'яўляецца заступніцай шлюбу.

Сафія Слуцкая памерла пры нараджэнні дзяўчынкі ва ўзросце 26 гадоў 19 сакавіка 1612 года. Яе ўладанні адышлі да мужа, у род

Радзівілаў: 7 крэпасцяў і палацаў, каля 32 вёсак. Адразу пасля адыходу ў вечнасць княгіня Сафія Слуцкая пачала ўшаноўвацца як святая апякунка хворых жанчын, якія рыхтуюцца стаць маці. Мошчы яе сталіся нятленнымі, і каля яе труны пачалі адбывацца цуды. У 1848 годзе крыжовы ход з мошчамі выратаваў горад ад халеры. Згодна з яе прароцтвамі, на вуліцы Юр'еўскай ніколі не было пажару.

Беларускі народ вякамі захоўвае паданне аб дапамозе і заступніцтве святой Сафіі Слуцкай. Яе прызнаюць патронкай пабожных шлюбаў, парадзіх, немаўлят, дзяцей, заступніцай і міратворыцай. Яе нятленнае цела спачывае ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Да 400-годдзя Сафіі Слуцкай ёй быў устаноўлены помнік у адным з новых прыходаў Мінска на вуліцы Казінца. Летам 2012 года ў памяць аб жыцці і справах св. Сафіі адбыўся крыжовы ход вернікаў з Мінска ў Слуцк.

Мастак на карціне выявіў велічнасць, духоўную стойкасць і жаночую прыгажосць праведнай княгіні Сафіі Слуцкай, яе аддананасць веры. Твор знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі Гісторыі рэлігіі (г. Гродна) з 2011 г.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*Партрэт Багуслава Радзівіла, 2010 г.*

# Ваяр і мецэнат

**Бліскучы арыстакрат, адзін з самых багатых магнатаў Вялікага Княства Літоўскага, вядомы грамадска-палітычны дзеяч Багуслаў Радзівіл (1620–1669), імя якога непарыўна звязана з гісторыяй горада Слуцка, нарадзіўся ў Гданьску ў сям'і князя Януша Радзівіла, віленскага кашталяна, і прынцэсы Лізаветы Сафіі Гагенцолерн.**

Януш Радзівіл глыбока паважаў сваю першую жонку Сафію з роду Алелькавічаў, але праз некаторы час пасля яе адыходу ажаніўся ў другі раз. Багуслаў Радзівіл і быў ягоным сынам у другім шлюбе.

Багуслаў сваё дзяцінства правёў разам з маці ў бацькоўскіх маёнтках у Прусіі і Франконіі. У 1628 годзе маленькі Багуслаў вярнуўся ў Літву. Пад апекай свайго знакамітага дзядзькі Крыштафа Радзівіла (1585–1640), вялікага гетмана літоўскага, Багуслаў атрымаў бліскучую адукацыю ў



кальвінісцкіх гімназіях Вільні і Кейдана. Тут ён навучаўся разам са знакамітымі еўрапейскімі арыстакратамі таго часу, такімі, як сілезскі князь Хрысціян Легніцкі, якія лічылі за гонар атрымліваць веды ў ВКЛ. Адна з такіх гімназій, заснаваная бацькам Багуслава Радзівіла, дзейнічала і ў Слуцку.

У 1637–1648 гадах Багуслаў Радзівіл працягнуў сваю адукацыю падчас традыцыйнага для тагачасных беларускіх магнатаў Grand Tour («вялікі вояж») па Заходняй Еўропе, падарожнічаў па Нямеччыне, Нідэрландах, Францыі і Англіі. Князь навучаўся ў знакамітых галандскіх універсітэтах Гронінгена, Франекера і Утрэхта, прыватных «рыцарскіх акадэміях» у Парыжы, браў удзел у ваенных выправах галандскіх і французскіх войскаў супраць іспанцаў.

Багуслаў Радзівіл наладзіў сетку шчыльных кантактаў з прадстаўнікамі пануючых дамоў Еўропы: Гагенцолернамі, Аранскімі-Насаў, Бурбонамі, Пфальцамі, Сцюартамі, Гесэн-Касэлямі, Анхальтамі — сувязі, якія нярэдка былі падмацаваныя і дынастычным сваяцтвам. Так, нават знакаміты Людовік XIV «Кароль Сонца» звяртаўся да яго няйначай, як *«наш дарагі і ўлюбёны стрыечны брат...»*

Багуслаў Радзівіл вярнуўся на радзіму з пачаткам паўстання казакоў на Украіне пад камандай Б. Хмяльніцкага. Атрымаў ад Яна Казіміра пасаду генерала каралеўскай гвардыі, камандаваў палкамі ў войсках Кароны і Вялікага Княства, удзельнічаў у бітве пад Берасцечкам.

У 1652 годзе ён дамогся ў караля і вялікага князя Магдэбургскага права для Слуцку і Капыля. Забяспечыў Слуцк новымі фартыфікацыйнымі збудаваннямі — цытадэллю і сценамі з бастыёнамі і 4 брамамі. Размясціў у горадзе войскі ў 1 тысячу чалавек, што дало магчымасць месцічам вытрымаць аблогу і штурм маскоўскага войска ў 1655 годзе. Сабраў у Слуцку архіў, бібліятэку, дзе зберагаліся каштоўныя рукапісы. Яго каласальны



*Карціна ў інтэр'еры гатэля «Эверэст» у Вэнгруве*

збор жывапісу ў Любчы налічваў каля тысячы твораў мастацтва, у якім толькі работы аднаго слыннага Лукаса Кранаха складалі 24 адзінкі, а ў кнігазборы князя пачэснае месца займаў і знакаміты «Радзівілаўскі» летапіс XV стагоддзя.

Багуслаў Радзівіл збіраў творы мастацтва, падтрымліваў кальвініcцкія зборы і школы, складаў рэлігійныя гімны. На службе ў Багуслава Радзівіла былі многія навукоўцы, дзеячы культуры, у тым ліку Ю. Нарановіч-Наронскі, С. Незабытоўскі.

Ён — аўтар замалёвак з панарамамі беларускіх гарадоў, эскізаў і чарцяжоў нацыянальных збудаванняў. Многія з іх захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Дзякуючы яго падтрымцы працавала кальвініcцкая гімназія, а таксама школы пры праваслаўным Праабражэнскім брацтве ў Слуцку.

Слуцк быў пярлінай уладанняў Багуслава Радзівіла і адной з яго галоўных рэзідэнцый. Менавіта ён ператварыў Слуцк у адзін з самых вялікіх, заможных і квітнеючых гарадоў ВКЛ з насельніцтвам больш за 7 000 чалавек. Манаграма князя на гербе Слуцка складаецца насамрэч не з двух, а з трох літар: *BRD* — *B*oguslaus *R*adzivil *D*ux (Князь).



*«Сакальнічы», 2009 г.*

Мудрасць, высакародства, адвага і мужнасць — гэтыя рысы прачытваюцца на партрэце Багуслава Радзівіла. Шляхта ўсур'ёз успрымала яго кандыдатуру на трон пасля таго, як сышоў Ян ІІ Казімір. Не ўсё задуманае ўдалося ажыццявіць князю Багуславу, бо ён пражыў усяго 49 гадоў, здароўе яго было падарванае вайсковымі паходамі і хваробамі. «Аўтабіяграфія» Б. Радзівіла засталася недапісанай. Рэдкі дакумент быў перавыдадзены на Беларусі ў 2012 годдзе.

Нашчадкі цэняць Багуслава Радзівіла яшчэ як заснавальніка горада Жодзіна. «Князь Радзівіл мог бы стацца галоўным героем добрага тузіна авантурніцкіх раманаў кшталту «Трох мушкецёраў» Аляксандра Дзюма і дзясятка экранізацыяў, — лічыць Уладзімір Сіўчыкаў. — Не можа не ўражваць ягоная працавітасць, цягавітасць і мабільнасць — маршруты вандровак і вайсковых паходаў палягаюць па палове Еўропы! Не выпадае сумнявацца ў тым, што ён быў героем свайго складанага і шматмернага часу».

«У 2009 годзе я быў на пленэры ў Падляшшы, і там уладальнік прыватнага гатэлю «Эверэст» Войцех Гарэцкі прапанаваў мне напісаць 4 партрэты, — успамінаў Пушкін. — Тэмат быў абумоўлены: "Людзі Падляшша", таго прыгранічнага з Беларуссю рэгіёна. Князь Багуслаў Радзівіл меў дачыненне да той мясцовасці, як жа яго не было напісаць!»

У Вэнгруве, у Мазавецкім ваяводстве, захоўваюцца чатыры карціны Алеся Пушкіна. Горад, які быў заснаваны ў XV стагоддзі, знаходзіцца на рацэ Лівец.

З першай паловы XVI стагоддзя Вэнгрув стаў уладаннем князёў Радзівілаў.

Да нашых дзён захавалася рэзідэнцыя Радзівілаў, якая была пабудавана ў XVII стагоддзі, у хуткім часе пасля заключэння Люблінскай уніі.

На другім партрэце з гэтага цыклу намаляваны паўстанец 1863 года. «Я ведаў, што ля Вэнгрува была вялікая баталія Паўстання 1863 года. Баталію паўстанцаў яшчэ называюць «Вэнгруўскімі Тэрмапіламі», і там устаноўлены помнік-валун (яго можна разглядзець на дальнім фоне партрэта паўстанца 1863 года).

На іншым партрэце напісаны Сакальнічы — бо вельмі ж славіцца той край паляўнічымі ўгоддзямі!

«Кашталян» — гэта герой паданняў пра замак у Ліве (замак у 10 км ад Вэнгрува)».

Пасада кашталяна існавала ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім. Ён першапачаткова кіраваў замкам і выконваў некаторыя судовыя функцыі.

Пасля стварэння Рэчы Паспалітай кашталяны ўвайшлі ў склад Сената.

Пасаду займалі звычайна прадстаўнікі княжых радоў — Радзівілаў, Хадкевічаў, Тышкевічаў, Гальшанскіх.

Партрэты былі створаны летам 2009 года.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*Партрэт Васіля Быкава, 2005 г.*

# Нязломныя

*Тут гісторыя, народжаная любоўю,*
*Харобрасцю і сэрцам, поўным святла.*

А. Пагасян

**Мастацтвазнаўцы зазначаюць, што ў эпоху Адраджэння творцы імкнуліся адлюстраваць у асобах усё вялікае. Калі пісалі партрэты мужчынаў — усе яны былі выключна гераічныя і паказаныя звышлюдзьмі.**

Увагу мастака таксама прыцягваюць гераічныя персоны. У мужчынах Пушкін падкрэслівае незалежны характар, цвёрдасць волі, непахіснасць перакананняў.

Былому ваяру зразумелы стан душы такіх асобаў. Ён сам неаднаразова трапляў у падобныя сітуацыі.

Блізкі псіхалагізм Васіля Быкава, калі чалавек у крытычных сітуацыях выпрабоўваецца на вытрымку, мужнасць, нязломнасць, мусіць зрабіць свой маральны выбар, не здрадзіць. Пушкін напісаў партрэты герояў алеем, а іх паслядоўнікі XX стагоддзя — словам.

## Васіль Быкаў

**Творчасць Быкава добра вядомая Пушкіну, зразумелыя стан чалавека на вайне, суровая мужчынская проза быцця, блізкія сціпласць і сумленнасць беларуса.**
**Пушкін пісаў партрэт Васіля Уладзіміравіча на 1 Міжнародным мастацкім пленэры, прысвечаным Васілю Быкаву.**

«Класік сусветнай літаратуры. Франтавік і фронтавец. Чалавек, які напісаў усё пра вайну. Малады Быкаў вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. На скульптара — ляпіць людзей. 18-гадовым трапіў на фронт. Быкаў, камандзір стралковага ўзвода і батарэі легендарных «саракапятак», быў паранены. Бацькам нават прыйшла пахаронка, а пад Кіраваградам дагэтуль яго імя — на надмагіллі. Але ён выжыў.

Разам з вайной Быкаў прайшоў палову Еўропы: Украіну, Румынію, Вугоршчыну, Аўстрыю. Гэта потым, у палітычнай эміграцыі, ён атрымае прытулак у Фінляндыі, Чэхіі і той жа Нямеччыне. А ягоныя кнігі абыдуць увесь свет: больш за 3 мільёны асобнікаў на 72 мовах.

Быкаў пісаў пра Беларусь і беларусаў, дазволіў чалавецтву ўбачыць вайну вачыма беларусаў. Ваенная проза Быкава стэнаграфічна дакладная. Адкрыццё чалавека з яго грахамі і страхам, з воляю і вераю — з усім, што ў ім.

У творах Быкава ўражвае гранічная яснасць чалавечага выбару. Момант ісціны, да якога ідзеш след у след за ягонымі героямі.

Кнігі Быкава падрывалі галоўныя падмуркі імперыі зла — камуністычную ідэалогію, сістэму хлусні аб чалавеку, вялікі міф аб вайне. Быкаў дажыў да таго часу, калі праўду назвалі праўдай.

Бітву працягваюць кнігі Быкава. Бо Васіль Быкаў, геній нацыі, пісаў праўду пра вайну вечную. Вайну ўнутры кожнага з нас. Вайну супраць страху, хлусні і смерці».

«Космас Васіля Быкава. Ён сілкуе дух беларускай нацыі. Ён дазваляе зрабіць небасхіл нашага слова далёкім і глыбокім, неба нашага слова ўдумлівым і высокім, сцежкі слова нашага прыступнымі і роднымі, — пісаў Рыгора Барадулін. — Космас Васіля Быкава недасяжны і хатні. Вёска на ўшацкай зямлі з брыклівым імем Бычкі дала свету і беларускаму чалавецтву чалавека, які ўвасобіў сабой сумленне і інтэлект Беларусі».

«Летам 2004 я быў запрошаны на пленэр памяці Васіля Быкава, — успамінае Пушкін. — Мы прыехалі ў Бычкі, там стаялі палаткі, мы там жылі, купаліся ў возеры. І я напісаў партрэт.

У канцы студзеня 2005 года карціна была прадстаўлена ў Віцебску ў Цэнтры сучаснага мастацтва, на выставе, у якой узялі ўдзел 26 мастакоў.

Праз 4 дні карціна была знятая з выставы з-за зместу дальняга плану палатна. Цэнзура не дазволіла яе далей трымаць. У знак пратэсту іншыя мастакі таксама знялі свае карціны. Потым партрэт дэманстраваўся ў Чырвоным касцёле. Твор набыў беларускі калекцыянер Дзмітрый Асташэнка, бацька 3-х дзяцей».

## Кастусь Каліноўскі

**Малады Каліноўскі, з шырока разгорнутымі плячыма, светлым ілбом, адлюстраваны ў момант прыняцця рашэння.**



*Кастусь Каліноўскі. «Кастусь», 2009 г.*

«У кожнай нацыі абавязкова ёсць такі легендарны паўстанец. Малады. Ідэаліст. Змагар супраць акупацыі, які церпіць паразу, але не скараецца.

Пра Каліноўскага дарэчна сказаць: годны сын беларускага народа. У 25 гадоў ўзначаліў паўстанне, ужо ў 26 загінуў.

Шляхціч з захаду Беларусі. Студэнт Піцерскага філфаку. Лідар моладзі. Незалежнік. «Яськагаспадар з-пад Вільні». Абаронца уніі... Каліноўскі кінуў выклік усёй імперыі і яе генерал-губернатару Мураўёву-вешальніку.

«Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасці справядлівай», — пісаў Каліноўскі ў «Мужыцкай праўдзе».

Рашучы, цвёрды, жалезнае вытрымкі і ваярскага духу. Каліноўскі быў *чырвоны*. Радыкальны колер каліны. Насуперак белым кансер-

ватарам, ён ставіў на рэвалюцыю: «Далоў самадзяржаўе!», «Зямлю сялянам!», «У нас няма дваранаў — усе роўныя». Але вясковай Беларусі, пазбаўленай мовы, гісторыі і гораду, былі патрэбныя яшчэ і выбух свядомасці, і чыстая эліта, і светлае духовае адраджэнне. Беларусь чакала бел-чырвона-белага!

Кастусь Каліноўскі — галоўны герой нацыянальнага адчаю. Паўстанне ад пачатку было асуджанае на правал: самі сяляне потым лавілі і здавалі мяцежнікаў. Параза была непазбежнай не толькі таму, што імперыя валодала несувымерна большай сілай. Проста Беларусь заўсёды перамагала не гвалтам, не зброяй, а духам і словам.

І ўсё-такі мужнасць ёсць мужнасць, і воля ёсць воля», — так пісаў пра К. Каліноўскага ў сваёй энцыклапедыі Беларушчыны Павал Севярынец.

Партрэт Каліноўскага быў напісаны Пушкіным у 2009 годзе для імпрэзы ўшанавання памяці героя ў Вільні. 24 сакавіка 2009 года ў Вільні студэнцкая арганізацыя каліноўцаў «Беларуская нацыянальная памяць» на чале з Анатолем Міхнаўцом ладзіла шэсце. Са сцягамі, znічамі моладзь невялічкай калонай рушыла па горадзе.

«Каліноўскі — гэта сімвал Беларусі, сімвал моладзі, імя, святое для людзей», — пракаментаваў падзею Анатоль Міхнавец.

Побач з юнакамі Пушкін пранёс партрэт ад Лукішскага пляца да Губернатарскага палаца і гары Гедыміна. Ушанаванне памяці Каліноўскага супала з сусветным Днём паэзіі. Стоячы наверсе гары, паэт Алег Мінскін прачытаў свае вершы, выступілі студэнты.

Партрэт К. Каліноўскага захоўваецца ў майстэрні мастака. Яго жонка, спадарыня Яніна, дэманструе яго дзецям у школе, калі яны вывучаюць адпаведную тэму на ўроках гісторыі.

## Вінцэнт Гадлеўскі

**Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі нарадзіўся ў 1888 годзе ў Поразаве на Гарадзеншчыне. Ён быў ідэолагам беларускага нацыянальнага руху 1920-х — пачатку 1940-х гадоў. Удзельнік Усебеларускага з'езду 1917 года, сябра Рады БНР, аўтар праграмных тэкстаў БХД.**



*Вінцэнт Гадлеўскі, 1999 г.*

Вінцэнт Гадлеўскі стаў нефармальным лідарам БХД і нацыянальнага руху каталіцкіх святароў. Яшчэ тады, напачатку страшнага веку гвалту, ён выбраў найцяжкі крыж — праводзіць у Беларусі палітыку Ісуса Хрыста.

«Напамінаць грэшнаму, навучыць ненавучанага, даваць добрыя парады, пацешыць самотнага, цярпліва зносіць прыкрасць, шчыра дараваць крыўды, маліцца за жывых і памерлых...»

Вінцэнт Гадлеўскі ведаў, з чаго пачаць. Для касцёлу ён пераклаў на беларускую мову Новы Запавет і пачаў служыць імшу ў Мінску па-беларуску.

В. Гадлеўскі быў апосталам нацыянальнай ідэі тады, калі Беларусь руйнавалі дзве сусветныя войны, рвалі рэвалюцыі, тапталі таталітарныя рэжымы.

Простаму беларускаму пробашчу было неймаверна цяжка пасярод бітвы супрацьстаяць і фашызму, і камунізму.

Партрэт Вінцэнта Гадлеўскага быў створаны Алесем Пушкіным у 2004 годзе. Ён хацеў, каб выява святара прысутнічала ў Поразаве Свіслацкага раёна, дзе той душпастырстваваў.

## Янка Быліна

**Беларускі паэт і каталіцкі святар Янка Быліна (сапраўднае імя — Ян Семашкевіч) нарадзіўся 30 кастрычніка 1883 года ў вёсцы Лакцяны Свянцянскага павета. З 1933-га ён служыў на Беласточчыне — у Янаве-Падляскім (1933–1937), Ялоўцы (1937–1939), Міхалове (1939–1946), Бомблі (1946–1956).**

Янка Быліна — адзін з найменш вядомых пісьменнікаў у гісторыі беларускай літаратуры. У 1907 годзе ён скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Служыў ксяндзом на Вілейшчыне, Ашмяншчыне, Віленшчыне і Беласточчыне. За карыстанне бела-

рускай мовай у казаннях Янка Быліна праследаваўся польскімі ўладамі.

Яго творчасць, якая прыйшлася на канец дзясятых — трыццатыя гады XX стагоддзя, засталася амаль не даследаванай літаратуразнаўцамі. А між тым, Янку Быліну як паэта высока цанілі ў дваццатыя гады яго сучаснікі. Публікавацца пачаў ён з 1917 года ў газеце «Гоман», перыядычных выданнях Заходняй Беларусі, у тым ліку часопісе «Маланка». Ён — аўтар паэтычных зборнікаў «На прызбе» і «У чырвоным куце», рэлігійных твораў «Ружанец да Найсвяцейшае Дзевы Марыі», «Дарога крыжа». Пісаў Янка Быліна і вершаваныя апавяданні, гутаркі, а таксама перакладаў на беларускую мову рэлігійную літаратуру. Адышоў у лепшы свет пісьменнік у 1956 годзе.



*Янка Быліна, 2003 г.*

Грамадскае аб’яднанне «Вільняр» арганізавала ў Лакцянах, на бацькаўшчыне паэта, мастацкі пленэр і краязнаўча-літаратурныя чытанні ў жніўні 2003 года. На пленэры ў Астравецкім раёне быў створаны яго партрэт. Там мастак больш падрабязна даведаўся пра жыццё і дзейнасць святара і катэхізатара. У 20-я гады Янка Быліна жыў у вёсках Міхалішкі, Лакцяны, Масцяны. Да яго сярод іншых прыязджаў Янка Купала з Паўлінай Мядзёлкай. На пленэры пра святара распавяла Алена Глагоўская, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта.

## Беларускі рэзістанс

Шэраг партрэтаў мастака прысвечаны героям беларускага нацыянальнага і антыкамуністычнага супраціву. Сярод іх — Уладзіслаў Родзька, генерал Міхал Вітушка, малады барацьбіт Расціслаў Лапіцкі, Юрка Моніч. «Гэтыя карціны можна разглядаць як канцэптуальныя партрэты, якія былі выкананы ў лепшых традыцыях



XX стагоддзя», — адзначыў куратар выставы ў шведскім Кальмары Марцін Шыблі.

Мастак натхняўся іх вобразамі таму, што яны марылі жыць у незалежнай ад савецкага ўціску Беларусі, запачаткоўвалі беларускія нацыянальныя вайсковыя фарміраванні.

3 ліпеня 2005 года Алесь Пушкін размясціў партрэты Уладзіслава Родзькі і Міхала Вітушкі на прыступках Нацыянальнага музея ў Мінску.

Міхал Вітушка вучыўся ў Пражскім універсітэце і Варшаўскай палітэхніцы, уваходзіў у кіраўніцтва аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацыяў і адукацыйнага Таварыства беларусаў у Варшаве.

У 1942 Міхал Вітушка ўваходзіў у Нацыянальны камітэт Беларускай Незалежнай партыі і ў кіраўніцтва Беларускай Самаабароны. У 1944 годзе ён удзельнічаў у 2-м беларускім кангрэсе, быў сярод арганізатараў планавання антынямецкага паўстання.

Дзейнасць ваеннага і палітычнага дзеяча Міхала Вітушкі мела мэтай аднаўленне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Іншы гістарычны персанаж, Расціслаў Лапіцкі, нарадзіўся 1 верасня 1928 года ў вёсцы Касута Вілейскага раёна.

Узначаліў моладзевае антыкамуністычнае падполле, друкаваў і распаўсюджваў лістоўкі супраць Сталіна і бальшавіцкай улады. Юны герой быў расстраляны 28 кастрычніка 1950 года, ва ўзросце 22 гадоў.

«Мастакі суполкі «Пагоня» Генадзь Драздоў, Алесь Цыркуноў, Алесь Пушкін разам са смаргонскімі актывістамі Валянцінам Варанішчам і Уладзіславам Шульжыцкім 2 верасня 2012 года адзначылі чарговыя ўгодкі кіраўніка моладзевага антыкамуністычнага падполля Расціслава Лапіцкага», — паведаміла газета «Наша слова». Мастакі разам наведалі праваслаўны храм, дзе былі асвечаны тры намаляваныя імі партрэты Лапіцкага.

Яны таксама замовілі малебен у памяць расстралянага юнака. Пасля з асвечанымі карцінамі прайшлі да помніка Францішку Багушэвічу ў гарадскім парку. У гэты час за імі ўжо назіралі людзі ў цывільным. Пасля таго, як удзельнікі акцыі рушылі ў бок дома Варанішчы, адначасова раздаючы мінакам буклеты пра Лапіцкага, іх затрымалі супрацоўнікі РАУСа і завезлі ў пастарунак.

Як арганізатар шэсця А. Пушкін атрымаў 10-суткавы арышт, а яго сябры — штрафы. У турме мастак стварыў эскіз помніка Расціславу Лапіцкаму. Ён вёў гаворку з мясцовым кіраўніцтвам пра магчымасць цягам часу цывілізавана да 2015–2016 гадоў усталяваць помнік юнаму барацьбіту супраць сталінскіх парадкаў.

«Гісторыя дасць належную ацэнку дзеяў гэтых асобаў, — лічыць Алесь Пушкін, — але памяць пра іх павінна захоўвацца».

**Эла Дзвінская**


*«Раніца 8 верасня 1514 года»*

# Дудар

На карціне «Раніца 8 верасня 1514 года» старажытным дударом Алесь Пушкін намаляваў кіраўніка гурта «Стары Ольса» Зміцера Сасноўскага. Малады дудар грае на досвітку перад бітвай, уздымае змагарны настрой ваяроў. Гэта была другая кампанія Маскоўскага княства супраць Беларуска-Літоўскай дзяржавы, як піша ў кнізе гісторык А. Грыцкевіч. Гетман ВКЛ Канстанцін Іванавіч Астрожскі ўдалым манеўрам перамог 30-тысячным войскам ВКЛ 80 000 маскоўскіх дружыннікаў.

У мастака Пушкіна цікавыя і яскравыя падзеі часоў сярэднявечча заўсёды абуджаюць энтузіязм. Яго аднадумца Зміцер Сасноўскі — апантаны музыка, аўтар кніг пра гісторыю музыкі, збіральнік сярэднявечных хрысціянскіх традыцый. Ён выходзіць на сцэну ў густа-чырвоным строі, з дудой і захоплівае слухачоў магутнай хваляй музыкі.

Гурт «Стары Ольса» быў заснаваны ў 1999 годзе і выконвае творы эпохі Рэнесансу і ранняга барока.



*Зміцер Сасноўскі*

Асаблівай шляхетнасцю вызначаюцца адносіны музыкаў да старажытнага нотнага збору «Полацкі сшытак».

Зміцер Сасноўскі — гісторык па адукацыі. З 19-ці гадоў ён захапляўся збіраннем старых музычных інструментаў, а потым навучыўся рэстаўраваць і пачаў на іх граць. З яго сяброў і ўтварыўся гурт «Стары Ольса».

Акрамя тых, якія ў іх ужо ёсць, музыкі хочуць дадаць яшчэ тамбур, некалькі іншых відаў лютні, томбамарын, літаўры, іншыя віды колавых лір, шалмей высокі, цымбалы старой канструкцыі, гадулку, шукаюць вялікі гонг, сярэднявечную арфу, шлемападобныя гуслі і іншыя інструменты. Пэўную ўвагу хацелі б яны звярнуць на старадаўнія смычковыя інструменты.

Калі гурт грае вельмі моцна, натхнёна, гучна, на памяць прыходзяць біблейскія радкі з кнігі Ісуса Навіна. Перад узяццем Іерыхона было загадана, каб сем святароў моцна дудзелі ў трубы, а потым у рашучы момант народ выгукнуў ва ўвесь голас.

Хлопцы з гурта старадаўняй музыкі граюць натхнёна, рашуча, уздымаюць дух грамады. Відавочна, што праз музыку, нацыянальную культуру прыйдзе гартаванне беларускага народнага духу, прыйдзе той час, калі рухнуць сцены дыктатуры, як абрушыліся муры старажытнага Іерыхона.

**Эла Дзвінская**



*«Злата Прага», 2004 г.*

# Жаночыя вобразы ў творчасці Пушкіна

*Хвалююць сэрца нам дзявочыя пастаці*
*І душы мацярэй нас могуць чараваці,*
*Вышэйшая краса — ў іх злітнасці жывой.*

Максім Багдановіч

Хараство жанчыны, унутраны свет яе душы — ці гэта не адна з улюбёных тэмаў мастакоў? У Алеся Пушкіна — больш двух дзясяткаў партрэтаў дамаў розных стагоддзяў. Жанчынам на партрэтах Пушкіна ўласцівая велічнасць, высакароднасць манер, прыцягальнасць, грацыёзнасць, цвёрды характар. З іх жыццём звязаны легенды і паданні. У партрэты ўнесены элемент гістарызму. Князёўны і дамы ўзвышаюцца над паўсядзённасцю, плывуць над часам, захоўваючы сваё хараство і рысы натуры ў вяках: Сафія Слуцкая, Белая Панна, Барбара Радзівіл, Ганна на фоне вежаў Вільні.

— Удзел у Першым міжнародным пленэры Фердынанда Рушчыца натхніў мяне на напісанне партрэта Белай Панны. Тады мы наведвалі Баруны, Гальшаны, Багданава, Вішнева. Белую Панну я пісаў у 2000 годзе ў былой келлі Гальшанскага кляштара, філіяле Нацыянальнага мастацкага музея з дазволу дырэктаркі Чаславы Акулевіч. Сядзеў начамі і чакаў, ці з'явіцца яна да мяне, — узгадвае творца.

Павал Стэфан Сапега завяршаў будаўніцтва францысканскага кляштара ў 1618 годзе. З тых часоў існуе паданне пра Белую Панну, жонку муляра, якая, згодна легендзе, была замураваная ў сцяне як ахвяра. Душа маладой жанчыны абараняе сцены кляштара. Карціна «Белая Панна» знаходзіцца ў Гродзенскай галерэі «Крыга» Юрася Мацко.

Вядомая ліцвінская прыгажуня Барбара Радзівіл, дачка князя Юрыя Радзівіла, была нашчадкам уладанняў Гаштольдаў. У 1547 годзе пры падтрымцы роднага і стрыечнага братоў Мікалая Радзівіла Рудога і Мікалая Радзівіла Чорнага яна патаемна ўзяла шлюб з Жыгімонтам ІІ Аўгустам. У 1548 годзе Жыгімонт Аўгуст стаў каралём Рэчы Паспалітай і запатрабаваў прызнаць польскай каралевай сваю жонку Барбару Радзівіл. Адчайна паўстала супраціў гэтага яго маці — Бона Сфорца. Польскія вяльможы засцерагаліся ўплыву Радзівілаў — прыхільнікаў незалежнасці Літвы ад Польшчы. 7 мая 1550 года маладая каралеўна Барбара Радзівіл памерла. Ёсць гіпотэзы, што яна была атручана Бонай Сфорцай.

Рамантычная гісторыя кахання і яркая фігура Барбары Радзівіл сталіся матэрыялам некалькіх празаічных, вершаваных і драматычных твораў на польскай, беларускай і літоўскай мовах.

Выстава «Жанчыны ў творчасці Пушкіна» дэманстравалася ў 1998 годзе ў гарадской выставачнай зале Оршы. У экспазіцыі былі прадстаўлены партрэты маці, жонкі і іншых жанчын. Адна з гераінь — Таццяна Цыбульская, спявачка.

— Партрэт кандыдаткі мастацтвазнаўства Ганны Барвёнавай я напісаў па просьбе Лявона Юрэвіча, які жыве і працуе ў ЗША ў інстытуце навукі і мастацтва, — узгадвае Алесь Пушкін.

Сярод жанчын на партрэтах ёсць асобы гераічныя і рашучыя. Такія рысы перадае партрэт Тамары Чарамшагінай, дэсантніцы, гераіні антысавецкага супраціву, якая загінула ў гады вайны. Пра



*«Ганна», 2001 г.*

лёс сваёй каханай, вайсковай сяброўскі распавёў мастаку 85-гадовы Мікола Вайтовіч, жаўнер Беларускай самаахoвы. Фотаздымак Тамары захоўваўся дома ў спадара Міколы ў рамцы.

Замілаванне выклікаюць вобразы маладых паненак, якія чакаюць дзіця. Жанчына ў белым сядзіць на беразе возера, яе рукі складзены на жываце, яна прыслухоўваецца да таго, што адбываецца ў ёй, як выспявае будучае жыццё. Яна адчувае сябе ў мірным сугуччы з прыродай. Удумлівасць, няспешнасць прачытваюцца ў яе рухах.

Дзве чэшскія дзяўчыны паслужылі вобразамі вольнай Чэхіі на карцінах пад назвамі «Дзень» і «Ноч». У той час Пушкін правёў месяц у Чэшскім Крумлаве.

— Характэрнымі архетыпамі чэшскай прыгажосці з'яўляюцца цёмныя вочы, пышныя валасы, даволі акруглы бюст, таму што ў краіне прынята ўжываць больш піва. Беларускія жанчыны — больш светлыя, сціплыя, верныя, — лічыць Пушкін.

**Эла Дзвінская**



*«Замак у Чэшскім Крумлаве», Крумлаў, 2005 г.*

# У Чэшскім Крумлаве

**Алесь Пушкін — мастак еўрапейскага духу. Ён увасобіў у сваіх творах уплывы эпохі Адраджэння, погляд фламандскіх майстроў, у яго карцінах адчуваецца велічная вечнасць.**

Калі глядзіш на яго карціны з выявамі гатычных шпіляў еўрапейскіх гарадоў, згадваецца казачны свет Ганса-Хрысціяна Андэрсэна і Сельмы Лагерлёф, карціны Пітэра Брэйгеля. Сам Пушкін — нібы персанаж скандынаўскай сагі — высокі, статны, у капелюшы з пяром. У яго карцінах гістарычныя сюжэты пераплятаюцца са старажытнымі легендамі.

Мастак падарожнічаў па Чэхіі, спыняўся ў Празе.

— Удзячны лёсу, што давялося два тыдні правесці ў сярэднявечным Чэшскім Крумлаве, дзе захавалася забудова XIII–XV стагоддзяў, — казаў творца. — Туды мяне запрасіў адвакат Сяргей Скаруліс. Ён зняў мне невялічкую кватэру вокнамі на пляц, фарбы я прывёз з сабой...



*«Чэшскі Крумлаў раніцай», 2005 г.*

— У Чэхіі прываблівае роднасць культуры і пашана да мастацтва. Кожны дом у Празе ўпрыгожаны мазайкай альбо вітражамі ці мастацкім кавальствам на лесвічных клетках.

Штовечар можна было наведаць у адным з касцёлаў канцэрт класічнай музыкі з ўдзелам вядомых еўрапейскіх арганістаў і піяністаў.

Пушкін з прыемнасцю заўважыў, што Прага ці не лепш за ўсе гарады Еўропы захавала свой гістарычны цэнтр. Дагэтуль на фасадах розных будынкаў красуюцца цэхавыя знакі, гербы, скульптурныя выявы з дзіўнымі назвамі: «Каля трох белых ружаў», «У зялёнай жабы», «Ля двух залатых мядзведзяў». Яго зачараваў прыгажосцю Каралеўскі палац са мноствам забудоваў і сабор св. Віта. Як Міланскі ці Кёльнскі саборы, гэты храм перабудоўваўся тысячу гадоў. Закладзеная з XIV стагоддзя рымская базіліка паступова ператварылася ў гатычны сабор.

Высокі чалавек у капялюшы спыніўся ля будынку на Старамесцкай плошчы.

Куранты на будынку Ратушы ідуць ужо больш за 500 гадоў. Яны створаны таленавітым механікам Ганушам у XV стагоддзі. Кожную гадзіну, як толькі стрэлка дойдзе да дванаццаці, пачынаецца



*«Плошча Згоды», 2005 г.*

лялечная дзея: ідуць дванаццаць апосталаў, падобныя да сялян. Певень крычыць пра тое, што жыццё працягваецца.

Ён прайшоў па Карлавым мосце праз раку Влтаву, углядаючыся ў фігуры. Будаўніцтва маста пачалося ў 1357 годзе пры каралі Карле IV. Мост мае 516 метраў у даўжыню і амаль 10 метраў у шырыню, трывае на 16 апорах. Некалькі разоў мост цярпеў напор навадненняў. Алея з 30 статуй і барочных скульптур, разгорнутая на балюстрадзе, сфарміравала непаўторную сувязь мастацкіх стыляў з гатычным стылем моста.

Большасць скульптур былі ўсталяваны паміж 1683 і 1714 гадамі. Яны сімвалізуюць розных святых абаронцаў, якіх ушаноўвалі ў тыя часы. Самыя вядомыя багемскія скульптары таго часу бралі ўдзел ва ўпрыгожванні моста, сярод іх — Маціяс Браун, Ян Бракоф і сыны — Міхал Ёзеф і Фердынанд Максімілян.

У выніку дзейнасці Пушкіна ў Чэхіі былі адчынены 2 выставы: першая — у Дамініканскім касцёле, другая — у Арт-Мап-гэлэрыі на вул. Длуга, 12. Прыор Дамініканскага кляштара айцец Пётр Кшыштофяк паказаў госцю манастыр і прапанаваў выканаць роспіс.

Адна з фігур, якую намаляваў мастак у Празе, — помнік святому Вацлаву Чэшскаму.



*«Карчма Шатлавска», 2005 г.*

Малады князь Вацлаў (Вячаслаў) паходзіў з дынастыі Пшэмыслоўцаў. Ён нарадзіўся ў 907 годзе і гадаваўся ў фартэцыі Будзеч, якая знаходзіцца на захадзе ад Прагі. Ён выхоўваўся ў хрысціянскім духу і рыхтаваўся кіраваць краінай. Настаўнікам яго быў прэсвітар Павал, вучань свяціцеля Мяфодзія, якога шануюць усе славяне. У тыя часы яшчэ не было падзелу паміж хрысціянамі на заходні і ўсходні абрад.

Перыяд праўлення князя Вацлава быў часам значнага росквіту чэшскай дзяржавы. Ён быў чалавекам добразычлівым, кіраваў дзяржавай разумна, справядліва і з усёй адказнасцю. Яго лічылі дбайным хрысціянінам, які вызваляў зняволеных, падаваў міласціну, суцяшаў хворых.

Князь Вацлаў урачыста перавёз у Прагу мошчы св. пакутніка Віта. Абставіны вымусілі яго стаць васалам нямецкага караля Генрыха I па мянушцы «Птушкалоў» і плаціць яму даніну. Вацлаў разумеў, што яго маленькая дзяржава можа лёгка стаць ахвярай варожых суседзяў, таму ён вырашыў добраахвотна стаць сюзерэнам нямецкага караля, каб захаваць сваю краіну.

Аднак малодшы брат князя Баляслаў, які быў блізкі да паганства па выхаванні, палічыў гэта становішча ганебным і ўчыніў здрадніцкі замах на свайго брата ў 936 годзе (у чым потым пакаяўся). Дзень смерці Вацлава з таго часу ўспамінаецца на дзяржаўным узроўні. Вацлаў карыстаўся вялікай любоўю свайго народа. Пасля смерці ён быў кананізаваны і стаў патронам Чэхіі. Магіла св. Вацлава ў Празе стала аб’ектам паломніцтва. Яго парэшткі, шлем, меч і панцыр ушаноўваюцца як святыні.



*«Старамесцка плошча», Прага, 2005 г.*

І заходнія, і ўсходнія хрысціяне сёння шануюць св. Вацлава. У адным з каталіцкіх гімнаў апавядаецца аб тым, як «добры кароль Венсэслаў» аднойчы ўбачыў, як селянін збіраў хворост у страшэнную завіруху. Ён даведаўся, дзе жыве селянін, і разам са слугой пайшоў да яго праз заснежаны лес, узяўшы з сабой дровы, хлеб, мяса і віно ад княжацкай трапезы. І калі слуга ўзмаліўся аб тым, што ён не мае сілаў ісці далей, св. Вацлаў загадаў яму ступаць дакладна па яго слядах. Добрае сэрца князя лучыла цяпло і растапіла снег, саграваючы зямлю.

Адзін з партрэтаў пэндзля мастака адлюстроўвае Францішка Скарыну ў Празе. Праз гатычныя формы вокнаў льецца святло. На другім плане вымалёўваецца сілуэт сабора св. Віта, чарапічныя дахі, пагоркі. Першадрукар — у пурпурным адзенні, задумліва сканцэнтраваны. У руцэ яго — васілёк, сімвал Радзімы. Ён спакойны і ўпэўнены ў неабходнасці сваёй справы.

Францішак хацеў лячыць душы чалавечыя мудрым кніжным словам, а целы — надзейнымі і добрымі лекамі. Біблія, якую ён пачаў выдаваць у 1517 годзе з кнігі «Псалтыр», была другой па ліку друкаванай славянскай Бібліяй, значна апярэдзіўшы падобныя выданні другіх народаў. Паколькі наклад выданняў Скарыны сягаў больш за паўтысячы асобнікаў, за два з паловай гады з ягонай



*«Святы Фелікс»*

друкарні выйшла звыш 10 тысяч кніг. Такую бібліятэку не змаглі адолець і сто перапісчыкаў за 10 гадоў.

Апошнія гады жыцця Скарыны прайшлі ў Празе. Там ён працаваў садоўнікам караля і акрамя таго набыў славу добрага лекара. Помнік Францішку Скарыне знаходзіцца каля ўвахода ў Каралеўскі Батанічны сад, дзе ён служыў. Пушкін неаднаразова звяртаўся да вобраза Францішка Скарыны і пісаў яго (гэтак жа, як і яго настаўнік Гаўрыіл Харытонавіч Вашчанка).

Той прысвяціў першадрукару тры карціны. Першы раз Скарына адлюстраваны ў роспісе «Асветнікі», дзе ён ідзе з разгорнутай кнігай. Другім зваротам да асобы першадрукара стаў яго партрэт пад назвай «Роднае слова». Трэцяя карціна — «Вяртанне» — перадае полацкі перыяд жыцця Скарыны.



*«Наваградак», 2003 г.*

*Мастак — у край здзіўлення пілігрым...*

«Я думаў, што Пушкін — гэта скандаліст, піжон, хуліган. Дзе Пушкін — там нешта забараняюць. Аказваецца, ён — выдатны мастак, які піша добрыя карціны, роспісы, абразы.

Так бывае ў жыцці, што некаторыя асобы звонку дэманструюць і бравуюць, а ўнутры ў іх — спакойны і гарманічны свет».

Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі



*Алесь Пушкін, 1989 г.*

# Лідар новага мастацтва

Алесь Пушкін — легендарная асоба сярод пакалення маладых творцаў Беларусі. Ён абраў сабе цярністы шлях адкрыцця ў мастацтве праўды, якую не так лёгка казаць, за якую трэба пакутаваць. Але гэтая праўда звязана з сумленнем, з пачуццём адказнасці інтэлігента за свой народ, за родную нашу зямельку-пакутніцу. А яна вартая найвялікшых ахвяраванняў. І прыклад Алеся Пушкіна — гэта прыклад ахвярніцтва. Шчырага, мужнага, непадкупнага. Ён заваяваў права быць сярод першых адраджэнцаў роднай культуры, бо першым з моладзі паспытаў грубыя фізічныя здзекі цемрашальскіх паслугачоў і маральныя абразы розных бессаромных пісак, здольных запусціць у масавую свядомасць самую брудную ідэалагічную атруту. Яго маральны дух і гуманістычныя маральныя сродкі аказаліся мацнейшымі за прыгнёт «інквізітараў», якія так жадалі вяршыць над ім судзілішча.

Алесь Пушкін — мастак, якому па сілах любыя тэмы і новыя задачы. Ён раскрыўся як адораная асоба, што жывіцца неўміручым духам нацыянальнай

культуры, вельмі рана, яшчэ ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па выяўленчым мастацтве, дзе рос як творца, апярэджваючы не толькі аднагодкаў, але і старэйшых калегаў. Ён спалучаў у сваёй творчасці рысы высокага прафесіяналізму, духоўнай шчырасці і няўтольнай прагі наватарства. Пра гэта засведчылі яго творы на рэспубліканскіх выставах, яго хэпінінг у гонар 71-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі, які стаў мастацкай і палітычнай сенсацыяй, і яго не менш сенсацыйная дыпломная работа. Гэтая размалёўка «Парнат», зробленая ў рэспубліканскай школе-інтэрнаце па выяўленчым мастацтве і прысвечана гісторыі беларускай культуры. Яна адзінадушна прызнана высокім дасягненнем сучаснага беларускага манументальнага мастацтва.

Малады мастак набраў патрэбную вышыню, расправіўшы крылы. Мы чакаем кожнага яго твора як новай праўды, новага адкрыцця, якое апярэджвае грамадскія і культурныя перамены. Яму можна верыць, бо мастак яшчэ ніколі не зманіў, не пацягнуўся да лёгкага хлеба, не збіраецца супакоіцца пад гукі фанфараў.

Яго першая персанальная выстава — згустак накіпелых праблем грамадства, клопатаў, трывог, спадзяванняў, якія толькі мастацтва можа выказаць і выявіць іх сутнасць. Але іх вырашэнне павінна адбывацца ў новых мастацкіх сродках выразу. Тут мы бачым сінтэтычнае спалучэнне вядомых і яшчэ не вядомых нашаму гледачу прыёмаў, якія найбольш аголена і праўдзіва даносяць да кожнага сутнасць узнятых мастаком складаных праблем.

Яго выстава артэфактаў у шырокім кантэксце новага дэкларатыўнага мастацтва, якое нарадзілася ў апошнія гады на хвалі культурнага і палітычнага адраджэння, уключае ў сябе фотадакументы, відэамастацтва, інсталяцыі, творы жывапісу, перформансу, плакатнай графікі і іншых галін сучаснага мастацтва. Выстава прысвечана адзначэнню 73-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.

Няхай гэтая выстава мастака з палымяным сумленнем, высакароднай верай у сваю ахвярніцкую місію будзе данінай гэтаму святу і новай мастацкай сенсацыяй, якая яшчэ больш паскорыць працэсы духоўнага адраджэння беларускай нацыі і яе культуры.

**Мастацтвазнаўца Яўген Шунейка,**
**сакавік 1991 года**



*На выставе ў Палацы мастацтва*

# Сто твораў ХХ стагоддзя.
## Алесь Пушкін. «Эпітафія дзеду»

**Гэта адно з першых палотнаў Пушкіна. Не зважаючы на ўзрост і яшчэ сціплы даробак учорашняга выпускніка мастацкага інстытуту, гэты твор быў адразу пастаўлены ў шэраг славутых і класічных. Яго шматкроць рэпрадукавалі, выстаўлялі, ды, нарэшце, прыдбалі ў Нацыянальны мастацкі музей.**

Сярод таго, што стваралася напачатку 90-х гадоў, творы Алеся Пушкіна, дый сама ягоная постаць, прыцягнулі ўвагу гледача сваёй сюжэтнасцю і натуралістычнасцю выяваў. Папярэдні савецкі перыяд аддаліў гледача ад мастака, найперш з-за адсутнасці мастацкае асветы, а па-другое, з-за адсутнасці рынку і, адпаведна, мастацкай крытыкі. Беларускі глядач не бачыў розніцы паміж Далі і Ісачовым, паміж Савіцкім і Ароска. Мастакам не падабалася публіка. Публіцы былі не даспадобы мастакі. А вось жа карціна Пушкіна спадабалася ўсім. Чым?

Найперш тым, што ў яе можна ўзірацца доўга і ўважліва, складаючы сабе розныя аповеды, цешачы свае ўспаміны ці гледзячы ў люстэрка свайго ж побыту. Нанізаныя, нібы пацеркі на нітку, розныя сюжэты складаюцца ў адзіны ружанец, перабіраючы які, мы перабіраем і фрагменты свайго жыцця...

Кампазіцыя складаецца са звычайных, нават банальных для нашага мастацтва элементаў. Нацюрморт: ссохлыя зёлкі, цыбуля, часнык, бабы... Пейзаж: местачковы краявід, без нейкіх адрасных прыкметаў... Людзі: нясуць труну на капцы, а ваду дахаты, колюць дровы і кабана... Птушка: нейкая расцярушаная паўгалка-паўварона, рыхтык як у Брэйгеля, ляціць скрозь чорныя каруны галля... Усё як паўсюль, але на тым і палягае абаяльная прыцягальнасць «Эпітафіі» — на яе ўніверсальнасці.

Белая драпіроўка абруса, элеганцкі скамечаная, сыходзіць з першага плану ў далягляд, распускаючыся ў снягах. Холад абрусу на шэрым коле стала падкрэслены звонкімі барвамі залатых цыбулінаў ды лісцікаў-пісяжкоў леташняе травы. Гэтак проста — хата астывае. Хата, дзе быў дзед. А там, там, у сінеючай імжы блізкае адлігі, туды, куды яго знеслі, па-ранейшаму варушацца, жывуць людзі... Рэзкае спалучэнне розных планаў, занадта блізкіх ды бясконца далёкіх, утварае ілюзію невераемнае манументальнасці невялікага станкавага палатна.

Сціплая каляровая гама (тры-чатыры колеры) пры бліжэйшым разглядзе аказваецца цэлым калейдаскопам паўтонаў ды адценняў. Сама жывапісная тэхніка Пушкіна ў гэтым палатне цікавая: нешта працёрта, як у лаках, недзе прадрапана, нібы на гравюры, а недзе, нібы акварэллю, пакладзены празрысты блік. Пазней Пушкін звяртаецца да розных прасцейшых тэхнікаў: алей, тэмпэра, уласная кроў... Зрэшты, гэты, ужо іншы Пушкін, ставіць сабе іншыя задачы...

Ён запамінаецца ўсім па-рознаму. Для адных ён — рэстаўратар унікальных роспісаў XVIII стагоддзя Станіславаўскага касцёлу ў Магілёве і аўтар роспісаў царквы ў сваім родным Бабры. Для іншых — мастак-авангардыст, які стварыў у Віцебску галерэю ўласнага імя і здолеў-такі здзівіць места Шагала ды Малевіча сваімі бязлітаснымі перформансамі. А для кагосьці... Запомніўся, найперш, элегічнай і нягучнай «Эпітафіяй».

**Сяргей Харэўскі, «Наша Ніва»**



*Фрагмент. Пленэр на Беларусі, 2000 г.*

# Алесь Пушкін — аўтапартрэт праз творчасць

**Выразнае мастацкае слова нярэдка нараджаецца на мяжы, дзе кантактуюць разнастайныя нацыянальныя культуры і розныя віды і жанры мастацтва, адрозныя шляхі выказвання. Няхай дазволіць мне чытач пачаць гэты артыкул пра вядомага мастака і перформера Алеся Пушкіна з кароткага ўспаміну пра мой асабісты візіт у Новы Арлеан, сталіцу амерыканскага блюзу і джазу.**

Менавіта там, у гэтым незвычайным горадзе, дзе спалучаюцца белая і чорная Амерыка, крэольская культура і культура старых французскіх імігрантаў, якія ў некаторых вёсках вакольнага штата Луізіана дагэтуль гавораць на мове парыжскіх прыгарадаў XVIII стагоддзя, менавіта там нараджаецца непаўторны новаарлеанскі музычны стыль. Жыве тут і магічная афраамерыканская культура вуду, і шмат

што іншае — таксама ў стылістыцы мясцовага выяўленчага мастацтва, старога і сучаснага. Якраз у музеі Новага Арлеану, дзе ёсць вялікая калекцыя каталіцкага мастацтва XVII–XVIII стагоддзяў школы Куска з Калумбіі, я ўбачыў творы, якія запамінаюцца беларусу назаўсёды, бо кранаюць таемны механізм уздзеяння культуры на чалавека, што быў выпрацаваны таксама і ў нас. Уявіце абраз св. Архангела Міхаіла — намаляванага ў шляхетным дарагім строі, падобным на яскравыя строі беларускіх магнатаў, са стрэльбай замест мяча! А ў іншага Архангела вогненны меч... Так, як нярэдка бывала і ў беларускіх абразах. Вось гэты культурны код блізкі нам, як і далёкім паўднёваамерыканскім прапаведнікам трохсотгадовай даўніны ў Паўднёвай Амерыцы, і віруючай супрацьлегласцямі культуры Новага Арлеану: сапраўдным можа быць толькі мастацтва ў меру дыдактычнае, якое гаворыць на зразумелай мове, пераконвае, а часам дзеля выразнасці выходзіць за межы і законы жанру.

Архангел Міхаіл стаіць са стрэльбай або вогненным мячом, каб слова Божае ясней разумелася неадукаваным туземцам. Як і лялькі вуду ў Луізіяне — не проста дэкаратыўная пластыка, а частка магічнага тэатру, які валодае надзвычайнымі сродкамі ўздзеяння.

Можа, я памыляюся, але ў беларускім мастацтве мінулых стагоддзяў выкарыстанне падобных, асабліва да школы Куска, выразных прыёмаў тлумачыцца часам натуральнай, часам правакаванай звонку паліфанічнасцю, прысутнай нават у межах хрысціянскай культуры — праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, пратэстанцкай. А як быць мастаку XX–XXI стагоддзя, які звяртаецца да свайго гледача ў Беларусі, здзічэлай ад двух з лішкам стагоддзяў культурнай каланізацыі і дэградацыі ў межах Расіі—СССР? Як звярнуцца да людзей, якія не падрыхтаваныя разумець нават уласнай мовы? Я не маю на ўвазе літаральна сродку камунікацыі, я кажу пра культурны код, які альбо моцна забыты, альбо цалкам знішчаны.

Падаецца, што прыкладна чвэрць стагоддзя таму малады беларускі мастак Алесь Пушкін, убачыўшы гэтую парадаксальную і гранічна трагічную сітуацыю ў зносінах «мастак-глядач» у Беларусі вачыма маладога максіміліста, вырашыў дзеля сябе: «Пушкін — гэта наша ўсё». І пачаў распрацоўваць універсальную, часам дыдактычную і правакацыйную (часцей у інсталяцыях і

перформансах), часам рэнесансна-заспакоеную ў мастацкіх абагульненнях (у вялікіх карцінах ці роспісах) мову, якая збольшага адлюстроўвае... беларускі ўніверсум, беларускі сусвет. І закранае асноўныя каштоўнасці нацыянальнай тоеснасці і культуры.

Часам атрымліваюцца парадаксальныя рэчы — жывучы ў кантэксце беларускай культуры, даводзіцца тлумачыць суайчыннікам, у полі гэтай культуры маргіналізаваным, элементарныя рэчы метадам экстрапаляцыі. «Альгерд Бахарэвіч — гэта сучасны беларускі Кафка», — неяк сказаў Пушкін беларускай журналістцы Ціне Клыкоўскай, бо ёй, меркаваў ён, так лягчэй зразумець. Ціна пакрыўдзілася і напісала артыкул «Пушкін і пустэча» — маўляў, беларус Пушкін — піяршчык кшталту расейца-літаратара Пялевіна. Надышоў час пакрыўдзіцца Пушкіну. Яскравы ўзор — беларусы патлумачыліся спасылкамі на іншыя культурныя кантэксты. Аднак збольшага мастак Алесь Пушкін спрабуе звяртацца да глыбінных філасофскіх, этычных і эстэтычных з’яў, не абапіраючыся на цытаты, а перажываючы іх непасрэдна. Падаецца істотным зразумець гэты ўжываны ім механізм «актуалізацыі культурнага коду».

Прыкладам, падчас знаходжання ў Віцебску, пасля размеркавання з Акадэміі мастацтваў і да вяртання ў роднае мястэчка Бобр, паміж 1991 і 1997 гадамі, адным з самых яскравых яго перформансаў была мастацкая акцыя ў гонар святога Ясафата (у 1995 годзе). Найвялікшага беларускага грэка-каталіцкага святога, які марыў пра рэлігійнае адзінства народу і быў забіты збунтаваным віцебскім плебсам у 1623 годзе. А потым апаганенага стагоддзямі расійскай прапаганды і зараз амаль забытага. Хто з беларусаў памятае зараз, што гэты святы быў патронам паўстання Каліноўскага?

Пушкін перажыў і прайшоў у перформансе апошнія моманты жыцця святога — ад месца яго забойства (побач з віцебскай майстэрняй Пушкіна, арандаванай у 1990-я), басанож па ранняму лістападаўскаму снегу ў белай кашулі, абліваны халоднай вадой — чорнага, чырвонага і белага колераў, як знак эмоцый і пачуццяў, якія віравалі калісьці ў Віцебску 1623 года. Пушкін ішоў басанож аж да лодкі, каб быць сплаўленым без вёслаў і прыплыць да берага Дзвіны, як калісьці прыплыло цела Ясафата. Містычнае і небяспечнае падарожжа змерзлага мастака пад палаючым крыжам, усталяваным на чоўне, праз халодны лістападаўскі туман скон-

чылася, на шчасце, бясшкодна для мастака. Эфектам было памастакоўску прамоўленае Слова, выяўлены сэнс, які адкладаецца ў галовах, сэрцах, душах людзей і заклікае да роздуму і рэфлексіі.

Прыгадаем 25 сакавіка 1989 года, хэпінінг-перформанс «Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі». Шэсце маладых людзей на чале са студэнтам-мастаком Алесем Пушкіным па цэнтральным праспекце сталіцы ад Беларускай акадэміі мастацтваў (тагачаснага тэатральна-мастацкага інстытута) з плакатамі. З перакрэсленым сцягам БССР і бел-чырвона-белым беларускім штандарам. З надпісамі: «У гэты дзень 71 год назад была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка!», «Свабоду Беларусі!», «Дзяржаўнасць беларускай мове!» (і выявамі Коласа, Купалы і Багдановіча з завязанымі ратамі). Пра што многія ўжо і не маглі думаць, бо выхоўваліся ў духоўнай пустэчы савецкай прапаганды. Самае дзіўнае — перад маніфестацыяй Алесь Пушкін паведаміў у Мінгарвыканкам, што рыхтуе несанкцыянаваную антыўрадавую акцыю. Нязвыклая перакананасць чалавека ў праўдзівасці і непахіснасці сваёй пазіцыі! Іншыя кажуць: і незвычайнае для савецкай культурнай прасторы разуменне законаў піяру. Толькі прыгадайма — той піяр мог скончыцца для мастака доўгімі гадамі за кратамі. Але імперыя ўжо развальвалася, і Пушкін атрымаў «мінімум»: два гады ўмоўна і пяць год паражэння ў правах. Ад мінскага суддзі Чамрукова — імёны непрыяцеляў Пушкін імкнецца не забываць. З інстытута маладога мастака не зволілі — занадта рэзананснай была акцыя, занадта ссумаваліся людзі таго часу па вяртанні да справядлівасці. Нават аўтар гэтых радкоў, далёкі ад сучаснага мастацтва тых часоў супрацоўнік Акадэміі навук, ведаў і прысутнічаў на перформансе — чуткі вокамгненна абляцелі горад. Беларускія савецкія газеты дапамаглі Пушкіну зрабіць тое, да чаго ён імкнуўся, — сотні тысяч асобнікаў газет выйшлі з артыкуламі, хай сабе паклёпніцкімі, пра святкаванне ім угодкаў БНР!

Потым было згаданае размеркаванне ў Віцебск, агульнабеларуская вядомасць, падтрыманая працай першай беларускай прыватнай мастацкай галерэі «У Пушкіна» з дзясяткам мастацкіх праектаў, якія курыравалі цягам 1993–1996 года Ларыса Міхневіч і Міхась Баразна. Першае ў Беларусі каранаванне помнікаў Марксу і Леніну (у Віцебску) цернямі з калючага дроту 17 год таму. І зноў — адносна беспакарана, калі не лічыць затрымання міліцыяй.

Яшчэ да адкрыцця галерэі ў 1991 годзе ў Віцебску Пушкін наладзіў выставу экзатычнага для Беларусі соц-арту «Артэфакты дэкларатыўнага мастацтва». Побач з цудоўнымі манументальнымі палотнамі, як «Лёс майго бацькі», «Эпітафія дзеду», «Партрэт маці» экспанаваліся актуальныя інсталяцыі. «Беларусь народная» — постаць у вышываным нацыянальным касцюме. «Беларусь савецкая» — нязграбны калгаснік у ватоўцы. Калі выстава даехала да Мінску (пасля забароны ў прамежкавым пункце маршрута, у Гродне), дадалася «Беларусь сучасная» — паўаголеная постаць, абклееная дробнымі грашыма і талонамі на муку, цукар, гарэлку.



*Аўтапартрэт, 1983 год*

(Актуальнае развітанне «з найлепшым у савецкай спадчыне», ад чаго дагэтуль не можа адмовіцца сучаснае кіраўніцтва Беларусі. За што яно на 5-годдзе яго кіравання 21 ліпеня 1999 года атрымала ад Пушкіна падарунак падчас чарговага перформансу вазок каровінага гною. Кажуць, ахова прыняла яго... за фларыста, а не за «бамбіста». А тым больш не за мастака. Ужо ў гарадскім судзе мінскі перформер Віктар Пятроў здолеў давесці, што Пушкін учыніў не палітычную, а мастацкую акцыю.)

Нават звяртаючыся да выключна класічных мастацкіх форм, Пушкін звычайна застаецца актуальным. Чэрвень 2007 года, разам з сябрамі Алесь малюе старую Гародню. Малюе не для турыстаў, а таму, што сучасныя рэстаўратары, як і іх савецкія папярэднікі, руйнуюць стары беларускі горад. Зробім невялікую заўвагу — для чытача, які можа зацікавіцца, а як жыве мастак у нашай краіне з яе эрзац-савецкай афіцыйнай свядомасцю? Ён не атрымлівае прафесарскіх акладаў. Яму не прадставілі майстэрні ў Віцебску, якую ён меў атрымаць як сябар Саюза мастакоў, замест гэтага здымаючы памяшканне сваім коштам. Як ён жыве — у сябе на Радзіме,

у Бабры, гадуючы двух дзетак і клапоцячыся пра жонку, з якой павянчаўся ў 1997 годзе ва ўласнаручна распісанай фрэскамі мясцовай царкве?

А жыве як мастак — з рамяства. Так стагоддзямі жылі яго папярэднікі. Распісвае храмы — адзін з першых і самых значных яго фрэскавых цыклаў паўстаў у Магілёве пры рэстаўрацыі і частковым аднаўленні роспісу сабора Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (1992–1996). Алесь Пушкін — мастак-манументаліст паводле адукацыі, і яму найбольш «з рукі» рабіць роспісы. Бываюць замовы і свецкіх, і рэлігійных устаноў і асобаў. Неўзабаве Алесь скончыць мазаіку на франтоне новага касцёла ў Серабранцы ў Мінску. А апрача таго — ён выконвае і афармленне спектакляў, і кніжную графіку. Ніколі не працягвае руку дзяржаўнаму дзядзьку — ні беларускаму, ні замежнаму.

Можа таму Пушкін дазваляе сабе ў станкавых карцінах, якія мне асабліва падабаюцца, глядзець на навакольны свет як бы трошкі з вышыні. З пункту гледжання салдата воінства, ачоленага прыгаданым напачатку артыкула Архангелам Міхаілам. Гэта спецыфічны погляд, добра вядомы яшчэ па карцінах Піцера Брэйгеля ці па абразах — погляд зверху, калі краявід у кампазіцыі пачынае нагадваць панараму альбо дэталізаваную, павялічаную карту зямлі. І тады карціна набывае рысы абраза — як гэта добра відаць на ўжо прыгаданых партрэтах маці і бацькі мастака. Намаляваных, ці не наўмысна, у тэхніцы іканапісу — тэмперай.

Можа, у гэтым і ёсць загадка прыцягальнасці творчасці Алеся Пушкіна — у здольнасці сказаць пра надзённае і важнае асабістым, уласцівым толькі яму, але зразумелым для многіх голасам — падкрэсліўшы пры гэтым першынство адвечных чалавечых і нацыянальных каштоўнасцяў.

**Аляксей Хадыка**



# Ільвінае сэрца

Пушкіна вельмі любяць жанчыны і вельмі не любяць улады. Жанчыны любяць Алеся за тое, што тактоўны і гаспадарлівы, дасціпны і вынаходлівы, любяць за рамантычны арэол (нават у натоўпе здалёк відаць шырокі капялюш мастака з фазанавым пяром) і за тое, што не ўжывае тытуню і гарэлкі (аргумент, вядома, спрэчны). Але ўсё ж галоўны сакрэт абаяльнасці Пушкіна найбольш трапна сфармулявала мая маці: «Алесь — з тых людзей, на якіх трымаецца свет». Мне даспадобы гэты вобраз мастака як метафізічнага атлета, трох сланоў у адной асобе.

Свет трымаецца на тым, хто сам трымаецца за яго. Пушкін — рэаліст у вышэйшым сэнсе гэтага слова. Ён не наракае на лёс, не хаваецца ў нірвану чорных квадратаў альбо ў сувенірнае мастацтва, каб перачакаць нашэсце шклоўскіх барбараў, а ўжо потым рабіць штосьці ад шчырага сэрца. Гэта адзін з нямногіх мастакоў у нашым «згубленым» пакаленні, які жыве ўсур'ёз, жыве ва ўсю глыбіню душы паўсюль, куды б яго ні закінула карма.

Паводле натуры Алесь — вечны нацыяналіст. Калі б нарадзіўся ў іншую эпоху альбо ў іншай краіне — рабіў бы штосьці адэкватнае абставінам, каб праславіць сваю новую радзіму. Калі б нарадзіўся расейцам — стаўся б вялікадзяржаўным шавіністам, калі б нарадзіўся габрэем — маляваў бы перамогу Давіда над Галіяфам арабскага свету. Патрыётамі былі ўсе класікі, на якіх Пушкін арыентуецца ў сваёй манументальнай творчасці (гэта, найперш, італьянцы ад Рафаэля да Т'епала і Джакома Манцу). Не менш паўплывала на яго і служба ў Афганістане. Алесю пашчасціла нікога там не забіць, ён даглядаў гелікоптары (мабыць, таму Алесь потым скарыстаў разбіты гелікоптар у сцэнаграфіі спектакля «Кароль Лір» Віцебскага драматычнага тэатра), але ўсё ж пачуцця віны перад афганскім народам хапіла, каб узненавідзець канаючую імперыю і адмовіцца ад дзяржаўных узнагарод.

Я служыў у войску ў тыя самыя гады, што і Пушкін (1984–1986). На Каўказе, дзе я служыў, тады яшчэ не стралялі, але ўсё адно падалося, што трапіў на іншую планету. Тагачаснае савецкае войска, дзе маладога салдата магло абараніць ад свавольства «дзядоў» альбо іншапляменнікаў толькі заступніцтва землякоў, ператварылася ў кузню нацыяналізму (найбольш салідарнымі былі, вядома, хлопцы з паўднёвай крывёю — казакі і горцы). Ледзь не першае пытанне, з якога пачыналі размову незнаёмыя салдаты, было: «Ты хто паводле нацыі?». Менавіта ў тыя гады разам з гарбачоўскай перабудоваю пачаўся распад СССР, газеты сталі навыперадкі выкрываць злачынствы бальшавіцкага рэжыму, моладзь падзялілася на секты «нефармалаў», выбухнуў Чарнобыль... Мы вярнуліся са службы не ў тое жыццё, з якога нас забралі ў войска. Памятаю, шмат месяцаў я не мог чытаць кнігі і спакойна слухаць лекцыі ў інстытуце: мне здавалася, што ўсе «гаспадары думак» — пісьменнікі, выкладчыкі, палітыкі — альбо хлусяць, альбо памыляюцца. Напэўна, тое самае адчуваў і Алесь.

Бальшыня нашых раўналетак па вяртанні з войску страціла сэнс жыцця. Давялося шукаць яго самім — у рэлігіі, грошах, палітычнай барацьбе альбо ў каханні і дзецях. Пушкін знайшоў сябе ў палітычным мастацтве. Свой тагачасны стыль Алесь называе «беларускім соц-артам». Легальныя творы мастацтва тады мусілі мець «нацыянальную форму і сацыялістычны змест». Пушкін вынайшаў цалкам супрацьлеглае сацрэалізму эстэтычнае

рэчышча: нацыяналістычны змест, паяднаны з постмадэрновай формай.

Дарэчы, на вайну Алесь мог і не трапіць: дастаткова было сказаць на перасыльным пункце, што вучыўся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце (нас прызвалі пасля першага курсу) на мастака, і мог бы спакойна служыць пісарам пры якім-небудзь штабе. Пушкін выдатна разумеў гэта, але хавацца ад небяспекі за чужымі спінамі — не ў ягоным характары. Ён назваўся акторам — і, па вялікім рахунку, не схлусіў, бо ўжо праз некалькі гадоў стаўся найбольш вядомым беларускім перформерам.

Некаторыя калегі называюць перформансы Пушкіна занадта эпатажнымі і дэкларатыўнымі: маўляў, перформанс — мастацтва суперэлітарнае, ягоная ідэя павінна заставацца няўцямнай не толькі для публікі, але і для самога аўтара. Алесь згодны, што яго вулічныя акцыі эстэтычна не надта дасканалыя. Але гэта для яго не галоўнае: ён паказвае людзям не абстрактныя праблемы абстрактнага свету, а цалкам рэальны боль сваёй душы — боль за радзіму, што тры стагоддзі курчыцца «пад расейскімі ботамі» (назва адной з ягоных карцінаў).

«Я шукаў вялікую ідэю, якую можна было б кінуць у натоўп, і знайшоў яе ў БНР. Праблема незалежнасці Беларусі дагэтуль застаецца нявырашанай. Я выбраў сваю, зямную ідэю, за якую можна пазмагацца. У свой час, напэўна, так паўстала хрысціянства: прыйшоў на зямлю Хрыстос са сваёй ідэяй, яго закатавалі, але ягоную ідэю падхапілі іншыя людзі, якія таксама потым прынялі пакутніцкую смерць — і так разгойдаўся маятнік. Чым больш было рэпрэсіяў — тым далей распаўсюджвалася новая вера. Тое, што адбылося 25 сакавіка 1989 года, — гэта таксама першы штуршок маятніка. Дастаткова было зрабіць плакаты, прайсці з імі 30 метраў — і тым самым утварыць прэцэдэнт: далей маятнік рушыў сам, бо ідэя (напэўна, Бог мяне асяніў) была вартая».

Прэзентацыя беларускага соц-арту — хэпінінг «Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі» — адбыўся напярэдадні першых адносна свабодных выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Каб забяспечыць максімальны рэзананс, Пушкін прайшоў у гарадскі выканкам і папярэдзіў улады, што рыхтуе несанкцыянаваную антыўрадавую маніфестацыю (гэтым прыёмам ён не аднойчы карыстаўся і пазней). Падобным жа чынам нашыя продкі-варагі калісь дасылалі

непрыяцелю, каб дэмаралізаваць яго, папярэджанне: «Сцеражыся, я іду!» (усе ведаюць пра балцкі субстрат беларускага этнасу, але не варта забываць і пра скандынаўскі (рускі) суперстрат).

Мабыць, не выпадкова было абранае і месца для акцыі: паміж Тэатральна-мастацкім інстытутам і старым Домам друку, дзе тады месціліся рэдакцыі цэнтральных газет. («Выставаў і фестываляў ладзіцца шмат, яшчэ больш лунае ў паветры ідэяў, але бальшыня з іх бясследна знікае ў пясках часу. 70% усялякай справы — засведчыць яе дакументальна. Пакуль будзем штосьці рабіць і не афармляць — застанемся ў гісторыі белаю плямай».) Ужо назаўтра ўсе дзяржаўныя газеты надрукавалі (вядома, з санкцыі ЦК КПБ) падрабязны рэпартаж пра хэпінінг. Не абазнаныя ў сучасным мастацтве, журналісты назвалі невядомы ім жанр «хэпі-эндам», хоць насамрэч канец акцыі быў далёка не шчаслівы.

Падчас хэпінінгу Пушкін сапраўды моцна рызыкаваў, бо тады яшчэ ўсё магло здарыцца. Алесь думаў тады не пра мастацкую выкшталцонасць хэпінінгу, а пра подзвіг купкі людзей, якія ў 1968 годзе адважыліся выйсці на Чырвоную плошчу ў Маскве з патрабаваннем свабоды Чэхаславаччыне. Побач з перакрэсленай выявaю сцягу БССР Пушкін наклеіў гістарычны трыкалор і напісаў: «Досыць «сацыялістычнай», адродзім Народную Беларусь!». Гэты плакат цяпер — сімвал той эпохі: ён меў мільённыя наклады ў газетах — гэта рэч, якую ўсе бачылі».

Некаторыя мастацтвазнаўцы, ангажаваныя ў справу нацыянальнага адраджэння, лічаць лепшай беларускай карцінай канца XX стагоддзя твор «З мінуўшчыны» (1989).

Пушкін ледзь было не пераўтварыў сваё цела і ў другі нацыянальны сімвал — герб «Пагоню». Алесь планаваў праехаць конна па Ленінскім праспекце на чале чарговай антыўрадавай дэманстрацыі, нерухома трымаючы над галавою рыцарскі меч. Ён ужо быў дамовіўся пазычыць каня ў адным з калгасаў пад Мінскам і даспех свайго памеру знайшоў, але пра гэты праект даведаліся ўлады і напярэдадні акцыі строга забаранілі калгасу пазычаць Пушкіну каня. Крыху пазней Алесь часткова рэалізаваў тую мару ў Віцебску: праехаў па цэнтральнай вуліцы на вosліку — без зброі, але з аркестрам (ад міліцыі мастака абараніў натоўп дзяўчат).

У Віцебску, беларускім прадмесці расійскага Пецярбургу, Пушкін адразу стаўся энергетычным цэнтрам неафіцыйнага ма-

стацтва і зубным болем для чыноўніцтва. Пералічу назвы некаторых ягоных перформансаў: «7 лістапада» (Алесь меркаваў каранаваць бюсты Маркса і Леніна перад абкомам КПБ вянкамі з калючага дроту, але быў затрыманы міліцыяй), «Віцебск за кратамі», «Вясна, Вольнасць, Каханне». Бадай, найбольш небяспечным з іх быў перформанс, прысвечаны памяці святога Ясафата, забітага віцяблянамі ў XVII стагоддзі перад будынкам, дзе Пушкін зняў сабе майстэрню.

Яшчэ ў 1991 годзе Пушкін наладзіў першую ў Віцебску выставу соц-арту «Артэфакты дэкларатыўнага мастацтва», дзе экспанаваліся відэазапісы ягоных перформансаў, плакаты, карціны, інсталяцыі. Прыгадваецца дыптых «Адзенне Беларусі народнай» і «Адзенне Беларусі сацыялістычнай». Першая частка — маляўнічы народны строй з музею, другая — пудзіла тыповага калгасніка ў ватоўцы. Калі выстава экспанавалася ў мінскім Доме літаратара, да гэтай пары далучыўся голы манекен з наклеенымі дзе-нідзе дробнымі грашыма і талонамі на харчаванне («Адзенне Беларусі сучаснай»). У карцінах імпанавала павага аўтара да жоўтых фарбаў, да якіх многія айчынныя мастакі ставяцца з пагардай. Некалькі твораў з мінскай выставы былі скрадзеныя. Яшчэ да гэтага мастак прывёз выставу ў Горадню, але тамтэйшыя ўлады яе забаранілі (потым такое здаралася і ў іншых гарадах).

У 1993 годзе Алесь заснаваў першую ў Віцебску прыватную галерэю «У Пушкіна». У галерэі была сабраная адна з лепшых калекцыяў беларускага андэрграўнду 90-х гадоў. Сярод найбольш паспяховых, нацыянальнага маштабу, імпрэзаў «У Пушкіна» можна згадаць выставы «Postмадэрністы» і «Барока на Беларусі», фестываль авангарднага мастацтва «Art-прагноз'96» (адным з ягоных удзельнікаў быў і я).

Усе 10 выставачных праектаў галерэі Пушкін ажыццявіў на ўласныя сродкі, заробленыя манументальным жывапісам, па дапамогу да дзяржаўных установаў і замежных фундацый, у тым ліку тагачаснага «ценявога Міністэрства культуры» — Беларускага Фонду Сораса, — ён пастанавіў сабе прынцыпова не звяртацца.

Паралельна віцебскім выставам і перформансам Пушкін у 1992–1996 гадах бярэ ўдзел у рэстаўрацыі роспісаў магілёўскай архікатэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Тамсама піша ў стылі барока новыя фрэскі «Святая Цэцылія, патронка

музыкі і спеваў», «Сваты Арханёл Міхаіл, заступнік зямлі беларускай», «Сваты Антоні Падуанскі», «Сваты апостал Юда-Тадэвуш» і «Глорыя кардыналу Свёнтку». Кардынала Алесь уславіў неадэкватна: той загадаў завесіць рыззём выявы бел-чырвона-белага сцягу, Канстытуцыі 1994-га года і лідара нацыяналістаў Зянона Пазьняка.

Дома, у Бабры, Пушкін распісвае (на ўласныя сродкі і сціплыя ахвяраванні суседзяў) новазбудаваную царкву св. Мікалая Цудатворцы. Роспіс атрымаўся экуменічны — з элементамі праваслаўнага канону, каталіцкага протарэнесансу і антысавецкага соц-арту. Дамінуюць улюбёныя колеры Пушкіна — карычневы і шэра-блакітны, колеры хлеба і дажджу.

Яшчэ ў Віцебску ён адрэстаўраваў два старыя абразы для царквы святых Кірылы і Мяфодзія, і абодва праз два гады пачалі міраточыць (плакаць) — для іканапісца гэтая ўзнагарода важыць больш за ўсялякі ордэн ад зямных уладаў. Ужо шмат гадоў Алесь марыць зрабіць роспісы і вітражы ў полацкім Сафійскім саборы — у храме, бадай, найбліжэйшым да нашага неба.

Амерыканскія беларусы запрасілі Пушкіна распісаць новазбудаваную царкву Божае Маці Жыровіцкае ў мястэчку Стронгсвіль (Strongswill), штат Агаё. Улады не адразу далі яму дазвол на выезд з краіны «роўных немагчымасцяў». Аздабляць святыню паехаў аднакарэнны Пушкіну паводле стылю і духу мастак старэйшае генерацыі Аляксей Марачкін. Былы старшыня суполкі «Пагоня» стварае (разам з сынам Ігарам) іканастас і вітражы паводле ўласнага праекту, а сцены распісвае паводле эскізаў Пушкіна.

Алесь аформіў культавы альбом рок-аранжыровак старых і новых гімнаў «Я нарадзіўся тут» і кнігі беларускіх паэтаў.

21 ліпеня 1999 года скончыліся легітымныя паўнамоцтвы першага прэзідэнта Беларусі. Пушкін, натуральна, не мог не адсвяткаваць такую светлую дату. Дакладна апоўдні ён — у вышыванай народнай кашулі і ў белых пальчатках — падкаціў да прэзідэнцкага палацу чырвоны возік свежага гною. Да возіку была прымацаваная шыльдачка з надпісам: «За пяцігадовую плённую працу!».

Алесю пашчасціла, што міліцыянты спачатку палічылі яго фларыстам, які збіраецца саджаць кветкі. Па вялікім рахунку, яны не памыліліся. Алесь мяркуе, што вобраз гною мае не толькі зневажальны, але і аптымістычны сэнс: «Гэта тое, што ўгноіць

парасткі дэмакратыі ў народзе, з гэтага вырасце новая Беларусь». Навіна пра хэпінінг імгненна трапіла ў зводкі буйнейшых інфармацыйных агенцтваў, і толькі таму Алеся ў той самы вечар адпусцілі з пастарунку пад падпіску аб нявыездзе. Выкліканы ў якасці эксперта ў гарадскі суд вядомы перформер Віктар Пятроў здолеў давесці, што Пушкін учыніў не палітычную, а мастацкую акцыю. Алесю прысудзілі два гады ўмоўна, а праз год амніставалі разам з усімі асуджанымі.



*З архіва галерэі «У Пушкіна»*

Каштоўнасць многіх кніг і музейных экспанатаў (і чым яны старэйшыя — тым у большай ступені) палягае менавіта ў тым, што яны адлюстроўваюць эпоху, у якую яны выйшлі з нябыту ў наш свет. Пушкін — патрыёт не толькі сваёй зямлі, але і той эпохі, якой належыць ягонае цела. Але ці будуць ягоныя перформансы цікавыя нашым нашчадкам? Ці ёсць у іх нейкі надбеларускі вечны элемент? Спадзяюся, яны захаваюць актуальнасць паўсюль, дзе людзі будуць змагацца за сваю і чужую свабоду.

**Мастацтвазнаўца Юрась Барысевіч**



*«Карона Міндоўга», 1999 г.*

# Мастак, надзелены гістарычным мысленнем

Пісьменнік Уладзімір Арлоў, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра, а таксама Міжнароднай літаратурнай прэміі «Еўрапейскі паэт Свабоды», чые творы перакладаліся на больш чым на 25 моваў, лічыць Алеся Пушкіна вельмі блізкім яму па духу.

**— Чым вам як гістарычнаму пісьменніку блізкі А. Пушкін? Ці будуць калі-небудзь яго партрэты Францішка Скарыны, Багуслава Радзівіла, Ефрасінні Полацкай вісець у Нацыянальным мастацкім музеі? Ці ўвойдуць у нацыянальны гераічны пантэон выявы Міхала Вітушкі, Уладзіслава Родзькі, Расціслава Лапіцкага?**

— Алесь Пушкін — мастак, надзелены гістарычным мысленнем. Ён глыбока ведае нацыянальную мінуўшчыну, і гэта дапамагае яму тварыць дзеля будучыні

Беларусі. Ён увайшоў і застанецца ў летапісе нашага сучаснага мастацтва сваімі выставамі, перформансамі.

Большасць «гістарычных» партрэтаў ужо вядомыя, ім прысвечаныя публікацыі нашых мастацтвазнаўцаў, артыкулы сучаснікаў.

А такія выбітныя асобы антысавецкага супраціву, як Міхал Вітушка і Расціслаў Лапіцкі, адначасова з'яўляюцца і героямі маёй кнігі «Імёны Свабоды». Дарэчы, Расціславу Лапіцкаму прысвечаная кніга вядомага гісторыка Міхася Чарняўскі «Як пошуг маланкі», якая нядаўна выйшла ў серыі «Нашы славутыя землякі». Той, хто цікавіцца гісторыяй антысавецкага беларускага супраціву, названыя імёны ўжо даўно ведае.

**— Якія асацыяцыі ў Вас выклікаюць карціны Пушкіна? Магчыма, сярод іх ёсць ваш любімы твор? Верагодна, ёсць тое, што вы не прымаеце?**

— Я адчуваю роднасць нашых душ і светапоглядаў. Мой улюбёны твор Пушкіна — «Сон Міндоўга». Алесь падараваў мне гэтую жывапісную працу на 50-годдзе, і яна вісіць у мяне на сцяне. Яна адметная глыбокім метафарычным і алегарычным зместам. Сярод іншага карціна нагадвае пра сон гістарычнай памяці вялікай часткі нашых суайчыннікаў — нашчадкаў Міндоўга, Альгерда, Вітаўта, якія забыліся, адкуль наш род, і лічаць сваімі гістарычнымі героям Пятра I і Аляксандра Суворава.

Між тым, Пётр са сваімі прыдворнымі забіваў уніяцкіх манахаў у Полацкім Сафійскім саборы. Расійскі імператар і ягоныя салдаты былі ў Паўночнай вайне нашымі саюзнікамі, але паводзілі сябе на Беларусі як захопнікі, ад якіх наш край зазнаў гора не менш, як ад шведаў. Ну а Сувораў, як вядома, душыў вызвольнае паўстанне Т. Касцюшкі...

У мяне дома захоўваецца яшчэ адзін твор мастака. Гэта своеасаблівы аўтапартрэт. Ён перадае рамантычнае аблічча натхнёнага юнака, якое асацыюецца з каханнем, фізічным і духоўным чалавечым хараством.

**— Чым Вам спадабаўся Бобр і ваколіцы?**

— Мястэчка Бобр узгадваецца ў летапісах з 1516 года. Яно належала князям Друцкім, Жыгімонту Старому, магнацкім родам Хадкевічаў, Агінскіх. Але для сучасных беларусаў Бобр найперш



*Казімеж Дольны, 2007 г.*

звязаны не з гістарычнымі падзеямі, а з асобаю Пушкіна. Бобр на карце Беларусі нагадвае пра яго дзейнасць.

Бобр для мяне , упершую чаргу, — гэта Алесева хата над ракой, ягоная гасцінная сям'я, жонка Яніна. Сімпатычныя, адкрытыя дзеткі. Прызнаюся, што Яніна Пушкіна — мая даўняя чытачка. Калі ёй верыць, менавіта мая кніга «Дзень, калі ўпала страла» прывяла некалі Яню на гістарычны факультэт.

**— Чым Вам блізкі Алесь Пушкін як асоба?**

— Найперш — сваім нязводным аптымізмам. Ён шчодра надзелены вераю ў сябе, іроніяй і самаіроніяй, тонкім гумарам. Разам з вялікім талентам гэтыя якасці дораць яму ўсё новых сяброў і прыхільнікаў.

**— Над якім выданнем Вы зараз працуеце?**

— Мы з мастаком Зм. Герасімовічам зараз рыхтуем да выдання англійскае і расейскае выданні кнігі «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя». Я рады, што сярод дзвюх тысяч ілюстрацый там ёсць і гістарычныя рэканструкцыі Алеся Пушкіна.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*На пленэры*

# Нацыянальны рамантык

**Альміра Усманава, кандыдат філасофскіх навук, прафесар акадэмічнага дэпартамента медыя Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта**

**— Якое месца, на вашу думку, у кантэксце сучаснага беларускага мастацтва займае творчасць Алеся Пушкіна?**

— Яго дзейнасць выходзіць за рамкі мастацтва. Ён, канешне, мастак, але ён таксама і арт-актывіст. Мастацтва палітычнага жэсту — частка яго амплуа. На мой погляд, Алесь Пушкін — ці не ўнікальны мастак на Беларусі, якога можна назваць «грамадскім» (Pablic Art) — гэта што датычыцца яго перформансаў, бо ў іх ёсць палітычны пасыл.

Ён адчувае заангажаванасць у такім накірунку дзейнасці. У яго выдатнае адчуванне свайго прызначэння і запатрабаванасці.

**— Што вам больш імпануе ў творчасці мастака? Ці не ў тым сакрэт яго поспеху, што ён моцна трымаецца за родныя карані, служыць народу там, дзе жыве?**

— Я б ахарактарызавала яго погляды як рамантычны нацыяналізм. Я не падзяляю яго традыцыйна-патрыярхальных поглядаў, але паважаю важныя для яго каштоўнасці.

Па роду дзейнасці ў мяне ёсць патрэба ахопліваць аглядам і аналізам транснацыянальны кантэкст. Для мяне звужэнне гарызонту непрымальнае — у тым сэнсе, што мастацтва сёння не можа быць толькі «нацыянальным». На Беларусі ёсць мастакі, для якіх уключэнне ў транснацыянальны кантэкст і ўвага да глабальных тэндэнцыяў з'яўляецца найбольш важкім, чым традыцыйная беларуская культура. Але, разам з тым, я паважаю Алеся Пушкіна за яго натхнёнасць і нацыянальную накіраванасць.

**— Нагадайце, калі ласка, дзе вам даводзілася супрацоўнічаць з мастаком?**

— Я пазнаёмілася з Алесем зусім нядаўна, вясной 2011 года. Я планавала супрацоўнічаць з ім, калі ў якасці даследчыка ад Беларусі я збірала матэрыял для вялікага міжнароднага праекта, прысвечанага 20-годдзю падзення Бярлінскай сцяны «Gender Check Masculinities and Feminisites in Eastern Europe» (выстава была адчынена ў 2009 годзе). Галоўны куратар вырашыў запрасіць да ўдзелу 250 мастакоў з 24 краінаў, якія прадставілі больш за 400 разнапланавых прац у розных жанрах. Ад Беларусі былі запрошаны Руслан Вашкевіч, Ганна Каўшар і фатограф Андрэй Лянкевіч. Праца Алеся Пушкіна — постар «За свабоду» — не ўвайшла, паколькі тая частка экспазіцыі пра «вобразы нацыі» не склалася.

**— У 90-я гады Алесь быў адным з першых арганізатараў вольных выстаў і адкрыцця галерэі постмадэрністаў.**

— У той час уся культурная сцэна прыйшла ў жывы няспынны рух, усё вакол віравала. Пушкін быў не адзін, такіх культурных дзеячаў і мастакоў было шмат, алё ён выдатна адчуваў свой час, сваю адпаведнасць часу.

**— Як вам падаецца, чаму частка творцаў дасягнула поспехаў у сваім рамястве, і іх патэнцыял, развіты ў тыя гады, прынёс вялікі**

**плён? А другая частка знікла з поля зроку, страціла цікавасць да сваіх ідэй, не дала такіх вынікаў?**

— Мы не можам дакладна ацэньваць гэту з’яву, таму што не ведаем, колькі мастакоў эмігравала, бо такіх была вялікая колькасць. Я б вызначыла тры групы творцаў. Адны, верныя свайму пакліканню, засталіся ў прафесіі, дасягнулі грунтоўных вынікаў, запатрабаваныя на радзіме. Іншыя — эмігравалі і паспяхова рэалізуюць свае творчыя праекты там. Трэція — у душы засталіся мастакамі і працуюць, але не так заўважна, не ўдзельнічаюць у агульным культурным абмене, сышлі са сцэны.

Каб мастаку паспяхова арганізоўваць выставы дома і ў замежжы, патрабуецца непасрэдны кантакт з мастацтвазнаўцамі і куратарамі выстаў, прычым рух з абодвух бакоў павінен быць актыўны, патрэбна актыўнасць саміх творцаў, веданне замежных моў, карыстанне інтэрнэтам, мэтанакіраваны пошук. На Беларусі яшчэ недастаткова развіта структура арт-прасторы.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Аляксей Марачкін і Алесь Пушкін*

# Алесь Марачкін: «Духоўная асоба выкрывае зло»

**Мастак, жывапісец, графік, Аляксей Марачкін з 1990 па 1997 год узначальваў кафедру жывапісу БелАМ. Асноўнымі тэмамі яго творчасці з'яўляюцца гістарычная і нацыянальная. Творчы прынцып у спадара Марачкіна нязменны: мастак мусіць даступнымі яму выяўленчымі сродкамі ды сілай прыроднага таленту казаць праўду жыцця.**

**— Раскажыце, калі ласка, як была створана творчая суполка «Пагоня»? З чаго пачыналася яе дзейнасць?**

— Суполка Саюза мастакоў існуе ўжо 21 год. Зараз у суполцы «Пагоня» 76 мастакоў. Яе ўзначальвае Генадзь Драздоў. Мы аб'ядналіся на аснове любові да беларушчыны, на аснове нашых ідэалаў, выказаных 25 сакавіка 1918 года. Першапачаткова існаваў такі касцяк: Кулік, Купава, Маркавец, Крукоўскі і я. Быў

вялікі ўздым у грамадстве, была перабудова, якая несла змены. Пушкін таксама ўвайшоў у нашу творчую суполку «Пагоня», на некаторы час адыходзіў ад яе, зараз ён зноў з намі, і я гэтаму рады.

Раней мы перыядычна рабілі выставы. У нас была такая традыцыя: кожны год суполка «Пагоня» робіць выставу, так было да 1995–1996 года, пасля нам забаранілі іх праводзіць. Толькі да 20-годдзя нам дазволілі правесці выставу ў Палацы мастацтваў, але зрабілі рэвізію, праполку. Кіраўніцтва Саюза мастакоў настаяла, каб зняць 6 твораў. Творы Пушкіна не былі знятыя. Мы паказалі рэпрэсаваныя творы на сядзібе БНФ.

**— Што Вас аб’ядноўвае як творцаў з Алесем Пушкіным?**

— Я б абазначыў гэта — творчасць нон-канфармістаў, якія імкнуцца да таго, каб быць свабоднымі, супрацьстаяць дыктату, выказваць супраціў сродкамі выяўленчага мастацтва. Напачатку іх было крыху болей, цяпер не так шмат. На першым месцы — Пушкін.

Яшчэ калі ён быў студэнтам, на пачатку 90-х гадоў, выходзіў з плакатамі за незалежнасць. Мастакі суполкі «Пагоня» нават у тыя савецкія часы паўставалі супраць дыктатуры.

Самымі выразным сродкамі былі плакаты. Адзіны, хто і зараз робіць плакаты ў такім накірунку, — Уладзімір Крукоўскі. Яшчэ адзін наш калега — Юры Хілько. Уладзімір Вішнеўскі выказваўся ў метафарычнай форме, асацыятыўныя малюнкі былі ў яго. Гэта цэлая плынь, пра якую мастацтвазнаўцам можна пісаць цэлую дысертацыю. У той жа плыні ствараў свае карціны Іваноўскі, які жыве ў Гародні. Што здарылася ў асяродку калегаў?

Ціск апошніх 18 гадоў нейтралізаваў некаторых мастакоў.

Хілько замаляваў свае працы, там, дзе былі адрасныя супрацьстаянні. (Казёл вядзе статак баранаў). Вішнеўскі ўжо не з’яўляецца на акцыях пратэсту. Завуалявана такія матывы прысутнічаюць. На гэтым фоне засталіся два мастакі — Пушкін і, з вашага дазволу, я. Заўсёды я яго падтрымліваю, ён не здрадзіў сабе. Паслядоўна выказвае пратэст праз творы мастацтва.

**— Нагадайце, калі ласка, пра Вашы сумесныя мерапрыемствы апошніх гадоў.**

— Хочацца прыгадаць апошнія важныя акцыі. Мы робім выставы ў замежжы. Адна з іх праходзіла ў сценах Амерыканскага Кан-

грэсу ў 2010 годзе. Сумесная экспазіцыя была арганізавана ў Осла (у 2009), 4 гады таму — у Кіеве (2007)

Мае работы, а таксама Пушкіна, Драздова з іншымі творамі мастацтва былі паказаны ў Беларускім доме. Зараз мы якраз едзем на Міжнародны пленэр у Польшчу, дзе будуць дэманстравацца жывапіс, графіка, удзельнічаць мастакі з Беларусі, Украіны, Польшчы. Нам прыемна, што нас падтрымліваюць і выстаўляюць за мяжой.

Яшчэ раз хачу пажадаць здароўя і моцы Алесю Пушкіну, бо ён адкрыта, не хаваючыся, выказвае свае адносіны да сённяшняга рэжыму сродкамі выяўленчага мастацтва. Паўтаруся яшчэ раз — няшмат такіх у нас.

**— Як Вы ставіцеся да стварэння Пушкіным партрэтаў ваяроў, рэпрэсаваных святароў, звароту да гістарычных персанажаў розных эпохаў?**

— Не кожны возьмецца за тое, за паказ такіх асобаў, якія нават пры акупацыі змагаліся супраць бальшавізму. Ён іх паказвае, ён іх малюе.

Сёння стварыць партрэт Булах-Балаховіча і, скажам, Наталлі Арсенневай — гэта праца на будучыню. Зараз музей іх не закупіць. У Пушкіна цэлы шэраг такіх партрэтаў. У яго быў перформанс, ён паказваў гэтыя партрэты, яго арыштоўвалі ў ліпені 2003 года.

**— Вы, напэўна, моцна перажываеце за яго, калі яго садзяць на суткі, цягнуць у суд?**

— Ён як лакмусавая паперка нашага змагання за свабоду. Яго садзяць перад кожнымі выбарамі.

**— Вы таксама былі арыштаваныя, у выніку чаго з'явілася арыгінальная паэма «Акрэсціна»?**

— Да 90-годдзя БНР я рыхтаваў цэлую праграму: «Мастацтва на вуліцы». Я ведаў, што будзе дэманстрацыя, і што гэта будзе дазволена, і рыхтаваў партрэты дзеячаў, харугвы, цэлая майстэрня была запоўнена імі. Пра тое сказаў у інтэрв'ю Радыё «Свабода» напярэдадні.

У майстэрню ўварваліся міліцыянты, калі я там быў, арыштавалі ўсе творы, і дагэтуль не вярнулі. Прыйдзе час — усё стане на месца.

**— Як атрымліваецца сумяшчаць змагарную дзейнасць з паўсядзённай карпатлівай працай мастака над партрэтамі, выявамі, ілюстраваннем кніг, выкладаннем студэнтам?**

— Я нідзе не працую афіцыйна, Мікола Купава — таксама вольны мастак. Не дужа ідуць нам заказы. Яны праходзяць праз сіта. Дзесяць гадоў таму, калі я рабіў персанальную выставу, з Міністэрства культуры да мяне тайна прыходзілі прадстаўнікі і ціснулі руку.

Цяпер я свядома буду паказваць на сваёй персанальнай выставе тое, што думаю. Я самацэнзурай займацца не буду. У мяне ёсць майстэрня, атрыманая яшчэ пры Шушкевічы на набярэжнай Свіслачы, ёсць дзе працаваць.

Раней я рабіў ілюстрацыі да твораў Васіля Быкава ў часопісах. Спадарыня Цітова ў 2003 годзе праявіла найвялікшую смеласць, прыйшла да мяне ў майстэрню і сказала: «Мы будзем выдаваць для 6–7 класаў падручнік па беларускай літаратуры, хачу аздобіць яго вашымі творамі. Яна ўціснула мае работы на вокладку: Францішка Скарыну і ўсярэдзіне работ пяць — Ефрасіння Полацкая, Рагнеда і іншыя.

Хутка прыйшло тайнае прадпісанне выключыць ілюстрацыі з праграмных кніг, як і скараціць творы Р. Барадуліна і В. Быкава ў школьнай праграме, скараціць ілюстрацыі М. Купавы.

У мяне ёсць тая кніжка з харошай цвёрдай вокладкай. Ёсць чалавек — значыць, ёсць магчымасць нешта зрабіць.

**— Як Вы думаеце, як удаецца Вашаму калегу Пушкіну спалучаць барацьбу за гістарычную праўду, бой з цемрай, з працай над роспісамі, якая патрабуе ўнутранага спакою, міру, любові?**

— Ён перш за ўсё — хрысціянін. Яго хрысціянскія погляды трывалыя, ён выдатны прафесіянал, добра ведае гісторыю хрысціянскую культуру, канфесіянальны кантэкст, ён трапяткі бацька. У іх сям'і захоўваецца традыцыя веры, якую ён успрыняў ад бацькоў. Ён адчувае, што царква — духоўна-сакральны асяродак, які ўплывае на душу.

Бывае пытанне: чаму духоўны чалавек займаецца палітыкай? Гэта не зусім палітыка. Хрыстос, калі бачыў, як гандлявалі ў храме, з храму зрабілі вертэп, не ўпрошваў іх — браў вяроўчыну і разганяў іх. Так і ён.

У царкве таксама гаворыцца пра барацьбу дабра і зла. Ёсць Страшны суд, ёсць злыдні і грэшнікі, вырачаныя на пекла, ёсць праведныя людзі, якія дабрадзейнічалі, пакутавалі, цярпелі, — яны атрымаюць вянец Боскай славы.

Алесь вельмі перажываў, калі царква ў родным Бабры згарэла ад рук ілжэсведкі і манюкі. Ён уклаў сваю энергію ў гэтую царкву.

Ён — адзін з тых, хто пастаянна гутарыць са святарамі, з людзьмі, пераконвае, каб служба і казанні вяліся на беларускай мове.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Генадзь Драздоў і фрагмент з нізкі «Беларускае барока»*

# Мастацтва павінна адстойваць нацыянальныя інтарэсы

**Генадзь Драздоў ачольвае суполку «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў. Мастак нарадзіўся 11 сакавіка 1959 года ў вёсцы Паддуб'е Гомельскай вобласці Рагачоўскага раёна. З 1983 па 1989 год ён вучыўся ў Беларускай акадэміі мастацтваў на аддзяленні станкавай графікі. Мастак працуе ў галіне графікі, жывапісу, керамікі. Мы пагутарылі са спадаром Генадзем пасля яго вяртання з Дзён беларускай культуры ў Вроцлаве, на выставе «Паралельная размова» ў Мінскай бібліятэцы імя Пушкіна.**

— Дні незалежнай беларускай культуры ладзіліся другі год запар, і мы ўдзячныя іх арганізатарам. На іх былі запрошаныя мастакі суполкі «Пагоня». Прымалі ўдзел Аляксей Марачкін, Кацярына Сумарава і я. Адбылася выстава, палякі і беларусы горача прымалі Віктара Шалкевіча, Лявона Вольскага і гурт «Рэха».

Нашай мэтай было прапагандаванне беларускага мастацтва за межамі Беларусі. У тыя ж дні ў Вроцлаве ладзілася палітычныя канферэнцыя з удзелам А. Мілінкевіча, дзе абмяркоўвалася палітычная і эканамічная сітуацыя — цэлы комплекс праблем, якія ёсць у нас у краіне, — а таксама культурніцкія пытанні.

**— Як Вы ацэньваеце інтарэс да мастацтва ў Польшчы?**

— Глабальная праблема сёння ў тым, што цікаваць да выяўленчага мастацтва падае. У свеце зачыняецца шмат галерэяў — і ў Амерыцы, і ў Маскве.

Падае ўзровень культуры ў грамадстве, змяняюцца каштоўнасці, зніжаецца інтарэс да выяўленчага мастацтва як да формы культуры. У Вроцлаве ёсць некалькі маленькіх галерэяў, аднак арт-рынак слабы. Мастакі арыентуюцца на суседнюю Нямеччыну.

**— З нядаўняга часу Вы ўзначалілі суполку «Пагоня». Ці ёсць у Вас пэўная праграма дзейнасці?**

— Мы абапіраемся на нацыянальную царкву, мову, гісторыю, літаратуру.

Лепшыя мастакі суполкі — Мікола Купава, Аляксей Марачкін, Георгій Скрыпнічэнка, Алесь Пушкін — грунтоўна зарэкамендавалі сябе як асобы ў беларускім мастацтве, якія свядома стаяць на пазіцыях нацыянальных каштоўнасцяў у выяўленчым мастацтве. Кожныя тры гады ў нас адбываюцца перавыбары старшыні суполкі.

З Алесем Пушкіным мы адначасова паступалі вучыцца ў інстытут, разам жылі ў інтэрнаце, нас звязваюць даўнія таварыскія і сяброўскія адносіны.

**— Як Вы сябе адчуваеце пасля інцыдэнту ў Смаргоні?**

— Чатыры мастакі загадзя напісалі партрэты Расціслава Лапіцкага, прыехалі ў Смаргонь, замовілі паніхіду ў храме. Прайшлі па тым горадзе, дзе герой жыў. У 50-я гады юнак наважыўся стварыць моладзевую суполку, якая змагалася са сталінізмам. Менавіта такія героі ствараюць сапраўдную гісторыю, гісторыю супраціву русіфікацыі.

Пасля таго, як мы прайшлі з партрэтамі Лапіцкага па Смаргоні, жыхары горада пабачылі, што ёсць мужныя і смелыя мастакі, якія не баяцца выказваць свае думкі.

Мы атрымалі штрафы (а Пушкін — 10 сутак арышту) за шэсце, гэта сведчыць пра тое, што дзяржава не зацікаўлена ў свядомых ге-

роях, яна рэкламуе пустышкі, а не тых, каму сапраўды трэба ставіць помнікі. Каб паставіць помнік, патрэбна грамадская ініцыятыва і згода мясцовага кіраўніцтва.

У кожнай нацыі ёсць такія героі, якія адстойваюць незалежнасць краіны, іх імёны ўшаноўваюцца належным чынам, іх партрэты вісяць у музеях.

Зараз ідзе здрада краіне па многіх пазіцыях: эканамічнай, палітычнай і культурнай. Ідзе размыванне нацыі, русіфікацыя ў сферы адукацыі, у СМІ...

**— Якія ідэі ў творчасці для Вас найбольш важныя?**

— Нас, беларусаў, можа выратаваць толькі вернасць нацыянальнай ідэі і хрысціянства. У мяне ў творчасці шмат хрысціянскіх і біблейскіх тэмаў. У бліжэйшыя дні буду адчыняць выставу ў Музеі гісторыі і атэізму ў Гародні на духоўную тэму.

У 90-я гады мінулага стагоддзя мы ездзілі з калегамі па Польшчы, пісалі іканастасы, цалкам распісвалі цэрквы ад пачатку і да канца. Гэта праца вельмі цяжкая фізічна і адказная, досвед за плячыма — вялікі.

Сёння ёсць такая тэндэнцыі ў беларускім і ў замежным мастацтве — так званае актуальнае мастацтва (contemporary art). У яго ўкладваецца шмат фінансаў. Разам з выразнасцю абстрактных вобразаў яно нясе разбуральныя тэндэнцыі.

Ідзе вынішчэнне 2000-гадовай школы, якая вякамі напрацавала фундаментальныя эстэтычныя прынцыпы, і адмаўляцца ад базы акадэмічнага мастацтва вельмі небяспечна.

Калі разглядаць гэтыя тэндэнцыі з пазіцыі хрысціянскай, паўстае пытанне: а што б хацеў бачыць Бог? Што творыць мастак? Сілы зла стараюцца зрабіць дамінанту на актуальным мастацтве, каб выцесніць мастака, які думае пра тое, што адбываецца ў грамадстве, адказнага за жыццё, які мае вопыт, нясе ў свет станоўчае. Глыбокае мастацтва, якое разважае, хочуць падмяніць чыста забаўляльным. Такія тэндэнцыя бачны ў нас і ў свеце.

Беларускі саюз мастакоў не мае выхадаў на каналы беларускага тэлебачання. Сёння неабходна інфармаваць грамадства пра падзеі ў мастацкім жыцці.

**Гутарыла Эла Дзвінская,**
**«Наша слова», кастрычніка 2012 года (у скарачэнні)**



*Мікола Купава*
*і сцяг харугвы*

# Героі беларушчыны і вобразы Караткевіча

**На дзень Беларускай вайсковай славы 8 верасня адчыніў выставу сябра суполкі «Пагоня» Мікола Купава. Экспазіцыя знаходзіцца ў Галерэі Саюза беларускіх мастакоў па вул. К. Маркса, 4 ў Менску.**

Адно з цэнтральных месцаў займае каляровая літаграфія гетмана Канстанціна Астрожскага. Вобраз беларускага ваяра адбіўся на паштоўках, якія можна набыць ў галерэі. Выстава знаёміць з ілюстрацыямі на тэму казак Уладзіміра Караткевіча.

Спадар Мікола Купава праілюстраваў кнігу казак У. Караткевіча «Лебядзіны скіт» у 2007–2008 гадах. Кніга выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў канцы 2009 года. Трохтысячны наклад хутка разышоўся па розных гарадах. Мастак хацеў бы, каб частка асобнікаў патрапіла ў Оршу, на радзіму пісьменніка.

«Для кнігі я зрабіў 57 ілюстрацый: застаўкі, канцоўкі і вокладку, — пракаментаваў Мікола Купава. — Лагічна прысутнічае на вернісажы акварэль «Альшанскі замак», яна тэматычна звязана з У. Караткевічам. Ён любіў вандраваць, неаднаразова бываў у пушчы. У пушчы я адкрыў дом графа Тышкевіча, які вы бачыце, прадстаўніка Гарадзенскай галіны роду Тышкевічаў, паўстанца 1861 года. Ён пераследваўся, будынак быў не ў добрым стане, але захоўваецца, адноўлены. Для нас важны дух памяці і асаблівасці архітэктуры, яны нагадваюць пра гісторыю.

У адной з казак я асацыятыўна паказаў наш стары Менск. Вядомая казка «Скрыпка дрыгвы і верасовых пустэчаў» натхніла не толькі музыкаў, але і мяне. Тут вы бачыце паліфанію, шмат чаго з казачнага палатна Караткевіча. Казкі Караткевіча сталі класікай, якая пранікае ў іншыя жанры».

У мінулым годзе Мікола Купава разам з Алесем Пушкіным удзельнічаў у падарожжы мастакоў на Грунвальдскае поле. Беларускія мастакі адрадзілі сцягі трох харугваў — Віленскай, Менскай, Вялікага Княства Літоўскага. Алена Лось, мастачка па бацiку, удзельнічала ў рэканструкцыі сцяга.

Тэма князя Вітаўта — у мастака ў распрацоўцы. Спадар Мікола стварыў 4 партрэты князя. Некалькі з іх дэманстраваліся на Грунвальдскай выставе ў Менску ў Палацы мастацтва і ў Оршы ў 2010 годзе.

«Творчасць Міколы Купавы заўсёды вызначалася высокай нотай патрыятызму і духоўнасці, — пісала мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская. — Па меры паслядоўнасці, маштабу і грунтоўнасці грамадзянскага мыслення кніжная і станкавая графіка М. Купавы не можа быць пераацэнена. Графікам закладзены высокі камяртон служэння справе асветы, культуры, рэстаўрацыі страчаных старонак беларускай мінуўшчыны».

Карціны мастака ўдзельнічалі ў 90 персанальных, нацыянальных і міжнародных выставах. Пераможца конкурсу «Вечныя гарады», ён быў узнагароджаны паездкай у Рым.

**Эла Дзвінская**
**«Наша слова», 15 верасеня 2011 года**



*Пленэр у Гародні, 2008 г.*

# Краявіды сталі гісторыяй дзякуючы мастакам

Да грамадзянскай кампаніі «Выратуем Гародню» далучыліся беларускія і замежныя мастакі. У нядзелю, 10 чэрвеня, у Гародні адбыўся адкрыты мастацкі пленэр-акцыя **«Мастакі супраць разбурэння Гародні»**.

Узяць удзел у пленэры выказалі жаданне больш за 20 айчынных мастакоў — Алесь Пушкін, Аляксей Марачкін, Міхал Анемпадыстаў і інш. Група творцаў прыехала з краінаў Еўразвязу. Мастакі пакінулі на палотнах выявы Старога горада, гістарычныя будынкі, якія гродзенскія ўлады вызначылі пад знос. Алесь Пушкін, мастак з вёскі Бобр, на пленэры «Мастакі супраць разбурэння Гародні» не толькі маляваў, але і зладзіў перформанс.

«Маляваў я толькі ўдзень, а калі сцямнела, зладзіў невялікі перформанс. Называўся ён «Захаванне». Сцэнар наступны: мастак у сярэднявечным строі побач са сцяною, на якую падаецца святло, захоўвае ў



*«Шляхетны дворык у Сухэй»*

зямлі камень або аскепак ці капсулу. Гэта сімвалізуе захаванне для будучых пакаленняў энергетыкі Старой Гародні. Усё адбылося пад спевы Віктара Шалкевіча. Наша сіла — у тым, што творчыя людзі аб'ядналіся дзеля такой вартай справы».

Мінскі мастак Аляксей Марачкін лічыць, што такім чынам мастакі падтрымаюць у першую чаргу моладзь, якая бароніць старасветчыну Гародні. Мастак прыгадвае гісторыю, што здарылася з ім у Гурзуфе ў 70-я гады. Ён маляваў старыя вулкі, што вельмі захапілі сваёй непаўторнасцю. Мінак зрабіў яму заўвагу, маўляў, што вы гэту старызну малюеце, даўно ўжо яе трэба было зруйнаваць! На пытанне, чаму ж дагэтуль не зруйнавалі, месціч адказаў: «У 20-я гады тут вядомыя рускія мастакі малявалі, то пасля гэтыя краявіды сталі гісторыяй, і іх не даюць чапаць». Аляксей Марачкін упэўнены, што калі б не Напалеон Орда ды Язэп Драздовіч, сучасныя беларусы шмат бы чаго не пабачылі з гістарычных помнікаў.

**«Наша слова», 2008 год**




*Выстава «Міленіум Літвы», 2009 г.*

# Міленіум Літвы

**З 22 кастрычніка па 15 лістапада ў сталічным Палацы мастацтва праходзіла выстава твораў жывапісу, графікі, скульптуры і фотамастацтва, прысвечаная 1000-годдзю наймення Літва.**

*Літва, бацькоўскі край,*
*Тугою па табе тут вобраз твой ствараю,*
*О, ты — заступніца прачыстая над намі...*

Гэтымі пранікнёнымі паэтычнымі радкамі Адама Міцкевіча з паэмы «Пан Тадэвуш» народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка адкрыла выставу, прысвечаную 1000-годдзю ўзгадак у пісьмовых крыніцах Літвы. Навукоўцы называюць нават дакладную дату першай згадкі Літвы ў пісьмовых крыніцах — 9 сакавіка 1009 года. У літоўскім пасольстве ў Мінску прайшла навуковая канферэнцыя, была наладжаная выстава «Літва: культура і гісторыя». Грандыёзныя святкаванні адбыліся 6 ліпеня, у дзень каранацыі караля Міндоўга ў Вільні.



*На выставе*

У праграму выставы, якая праводзіцца сумесна з Беларускім саюзам мастакоў і размясцілася ва ўсіх залах палаца, уключаны мастацкі конкурс для дзяцей і моладзі «Літва тысячагадовая — наш родны край», рыцарскі турнір, а таксама фестываль беларускай музыкі, песні і паэзіі. Сярод мерапрыемстваў фестывалю — конкурс «Прэм'ера твору» (31 кастрычніка), канцэрт аўтарскай песні (8 лістапада) і заключны канцэрт (15 лістапада).

Паводле слоў старшыні аргкамітэта, доктара гістарычных навук прафесара Анатоля Грыцкевіча, мілeніум у большай ступені тычыцца Беларусі, чым Літвы. Гаворка ідзе пра першае летапіснае згадванне не дзяржавы, а племені «літва», гістарычная тэрыторыя якога знаходзілася на захадзе сучаснай Беларусі, падкрэсліў вучоны. Ён адзначыў, што толькі ў канцы 1230-х — пачатку 1240-х гадоў на тэрыторыі сучаснай Беларусі стварылася дзяржава Вялікае Княства Літоўскае і Рускае са сталіцай у Навагрудку. «Таму менавіта ў Беларусі быў створаны аргкамітэт «Міленіум Літвы», каб нагадаць усім: у свой час нашы продкі зваліся не беларусамі, а русінамі або літвінамі», — падкрэсліў Анатоль Пятровіч Грыцкевіч.

Намеснік старшыні Беларускага саюзу мастакоў Рыгор Сітніца адзначыў: «Я шчыра радаваўся, калі нашыя браты па гісторыі, нашыя суседзі-літоўцы ўлетку святкавалі гэтую дату. Мы не мусім забывацца, што гэта наша агульнае свята, бо з гэтым народам, як і з іншымі суседзямі, мы прайшлі агульную славутую гісторыю. І гэтая гісторыя не скончылася, яна працягваецца, і будзе працягвацца наступныя тысячу гадоў».

Існуе шмат канцэпцый утварэння ВКЛ, няма згоды паміж гісторыкамі наконт лакалізацыі Літвы, ёсць розныя погляды і

меркаванні. «Некалькі дзён таму мне давялося быць на канферэнцыі ў Нясвіжы. І там прадстаўнік вялікага роду Радзівілаў сказаў: «Я адчуваю сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага». Крыху раней гэта сказаў Чэслаў Мілаш: «Я — грамадзянін краіны, якой не існуе — грамадзянін ВКЛ». Я думаю, шмат хто можа так сказаць. Але Вялікае Княства Літоўскае ўсё ж існуе — выстава, якая зараз адкрываецца, паспрыяла таму, каб ВКЛ разумелася не як далёкае мінулае, а як рэальнасць, якая дапамагае жыць нам і сёння. Жыве Беларусь!» — адзначыў доктар гістарычных навук Юры Бохан.

Экспазіцыя выставы да 1000-годдзя Літвы прадстаўленая не толькі жывапісам, графікай і скульптурай. Тут і народныя строі, і інсталяцыі, і дзіцячыя малюнкі. На сценах палаца — рэпрадукцыі мапаў межаў ВКЛ у розныя часы і гербы гарадоў, што мелі Магдэбургскае права. Выстава, прысвечаная 1000-годдзю першага летапіснага згадвання Літвы, уяўляе больш за тысячу твораў 160 мастакоў. Сярод мастакоў, якія ўдзельнічаюць у «Міленіуме», — Аляксей Марачкін, Арлен Кашкурэвіч, Алесь Пушкін, Уладзімір Вішнеўскі, Леў і Сяргей Гумілеўскія.

Гэта сведчыць аб тым, што тэма айчыннай гісторыі блізкая «не якой-небудзь жмені» мастакоў, а многім майстрам выяўленчага мастацтва.

Экспазіцыя «ўразіла ўяўленне» шматлікіх наведвальнікаў, нягледзячы на эпідэмію грыпу, сказаў Я. Шунейка. Яна адрозніваецца «шчырасцю, радасцю і замілаваннем беларускай гісторыяй пры адсутнасці самаўзвялічвання і самалюбавання», падкрэсліў мастацтвазнаўца.

Паводле яго слоў, вялікім плюсам выставы з'яўляецца шэраг мерапрыемстваў, праведзеных у рамках творчай акцыі і накіраваных на пашырэнне сувязяў мастакоў з грамадствам.

*Па-над гледачамі — гербы гарадоў, што мелі Магдэбургскае права.*

Адзін з ініцыятараў фэсту, кіраўнік мастацкай суполкі «Пагоня» Аляксей Марачкін заўважыў: «Гэта выстава зробленая выключна на энтузіязме мастакоў. Абсалютна дзяржава не парупілася, каб хоць крышачку дапамагчы ў арганізацыі. Я, канечне, хацеў тут бачыць міністра культуры ці ягоных намеснікаў, але, відаць, у іх ёсць больш важныя справы. На жаль. Але мы — аптымісты, мы можам шмат чаго яшчэ здзейсніць, бо сёння спадзеў толькі на культуру».

На выставе былі заўважаныя амбасадар Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас, амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан, амбасадар Чэхіі Іржы Карас.

Шмат дзеячаў беларускага мастацтва, літаратуры, музыкі за ўнёсак у развіццё агульнай культуры былі ўзнагароджаныя *адмысловымі медалямі да 1000-годдзя згадак Літвы*. Сваімі ўражаннямі пра выставу падзяліўся народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч: «На маю думку, выстава атрымалася харошая. Яна зноў пацвярджае высокі стан беларускага мастацтва, менавіта прафесійнага мастацтва».

**Іна Студзінская**



*Алесь Пушкін
і яго аднакурснік
Сцяпан Янкоўскі*

# Пушкін у Гародні

**2 красавіка 2011 года ў Гародні пачалася выстава Алеся Пушкіна. У прыватнай галерэі «Крыга» выстаўленыя пятнаццаць палотнаў мастака. А ў падворку на дрэве — ягоныя шпакоўні, зробленыя па-мастацку разнастайна.**

Мастак узгадаў, што першую сваю гарадзенскую выставу аформіў у Сенатарскай залі Новага замку ў апошнія дні існавання СССР — улетку 1991-га. Аднак яна не адбылася: яго змушалі зняць некалькі карцінаў, ён адмовіўся. І вось Алесю Пушкіну ўдалося выставіцца ў Гародні праз дваццаць гадоў. Адкрыццё атрымалася вельмі цёплым, прыйшлі ягоныя сябры па мастацкай школе-інтэрнату імя Ахрэмчыка, затым — па тэатральна-мастацкім інстытуце: **Ірына Сільвановіч, Ірына Радкевіч, Сцяпан Янкоўскі, Сяргей Грыневіч.**

Пасля на вуліцы гукалі вясну, хадзілі карагодам вакол дрэва са шпакоўнямі, Алесь Пушкін са сваёй сям’ёю таксама.



*Удзельнікі юбілейнай вечарыны ў Калінінградзе. Фота Ігара Шаховіча.*

# Радкі Багдановіча над Балтыйскімі хвалямі

**120-годдзе М. Багдановіча шырока адзначалася ў снежні 2011 года як на Беларусі, так і ў замежжы.**

Імпрэза, прысвечаная юбілею Максіма Багдановіча, прайшла 11 снежня ў Калінінградзе з удзелам прадстаўнікоў беларускай культуры. Старшыня суполкі беларусаў у Калінінградзе Ігар Шаховіч запрасіў прыехаць мастака Алеся Пушкіна, спевака Змітра Вайцюшкевіча і маладога паэта Віталя Рыжкова. Ігар Шаховіч звярнуўся ў Гарадскую думу з просьбай падтрымаць імпрэзу нацыянальнай меншасці ў дадзеным рэгіёне і атрымаў дапамогу. Сам ён аформіў сцэну выявамі генія беларускай літаратуры, радкамі з яго вершаў, бел-чырвона-белым сцягам.

Для юбілейнай вечарыны была прадастаўлена зала на 300 месцаў у Армянскім культурным цэнтры, які знаходзіцца ў раёне «Паўночная гара».

Святкаванне прайшло на высокім міжнародным узроўні. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўкраінскай і армянскай дыяспары. Калінінградскіх беларусаў наведаў генеральны консул Літвы Вацлаў Станкевіч.

З навуковым дакладам выступіў выкладчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта, былы дырэктар музея М. Багдановіча Мікола Трус. Ён прэзентаваў калінінградскім беларусам новую энцыклапедыю, прысвечаную Максіму Багдановічу, якая была ўпершыню прадстаўлена чытачам 9 снежня ў Мінску.

Вечарына паэзіі разгарнула свае крылы, паліліся чытанні вядомых вершаў Багдановіча, самых вытанчаных і далікатных яго радкоў.

Землякоў прадстаўляў адзін з самых папулярных і модных маладых паэтаў, якому толькі 25 гадоў, Віталь Рыжкоў. Гэты факт, напэўна, усцешыў бы Максіма Багдановіча.

З глыбокім пачуццём выканаў спевы Зміцер Вайцюшкевіч. Гучна і велічна заспявалі на вечарыне мічманы — прадстаўнікі ансамбля песні і танцу Балтыйскага флоту.

Алесь Пушкін прадэманстраваў на імпрэзе дзве свае працы ранейшага перыяду — партрэт М. Багдановіча, напісаны алеем, і карціну «Пагоня». Яшчэ ў маладосці мастака кранула хараство лірыкі паэта, яго далікатнасць і віртуознасць.

*І прад высокаю красою,*
*Увесь зачараваны ёй,*
*Скланіўся я душой маёй,*
*Натхнёнай, радаснай такою.*
*А ў сэрцы хораша было,*
*Там запалілася святло.*

М. Багдановіч, «Вераніка»

«У тыя часы, да 90-годдзя паэта, Петр Пятровіч Шарыпа заахвоціў нас, навучэнцаў каледжа мастацтва, наблізіцца да творчасці Багдановіча. Ён актыўна далучаў да культурных пластоў. У той перыяд я вывучыў на памяць 6 вершаў Багдановіча, многа думаў над імі. Узяў удзел у конкурсе жывапісных прац і як пераможца атрымаў каробку фарбаў».

Знаёмства з паэтычнай спадчынай паэта, які выспяваў далёка ад Радзімы, але вёў няспынную працу над пашырэннем свайго кругагляду, над узбагачэннем памяці выдатнымі здабыткамі паэтычнай культуры, перакладаў на родную мову творы Гарацыя і Авідзія, Гейнэ і Шылера, Верхарна і Верлена, натхняла маладых творцаў ва ўсе часы.

Жыццялюб і гуманіст з абвостранай цікавасцю да ўнутранага, духоўнага свету людзей, да пачуццяў жывой чалавечай душы, Багдановіч навяваў філасофскі роздум, вучыў адчуваць прыгажосць. У алегарычных вобразах ён расказваў пра шматпакутны лёс Беларусі на працягу стагоддзяў і выказваў надзею на перамены да лепшага. Сталыя грамадзянскія пачуцці, якія так рана ўзрунелі ў душы паэта, клопат пра лёс Радзімы заўсёды блізкія сучасным творцам.

Госці з Беларусі наведалі помнік герцагу Альбрэхту, заснавальніку Кёнігсбергскага ўніверсітэта, і магілу Канта, пабывалі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора.

«Шкада, што ў Беларусі няма выхаду да мора. Пабачыць неабсяжную прастору, вольную стыхію, паслухаць шум мора, гул і рокат хваляў у буру — гэта тое, што неабходна, каб адчуць сябе цвёрдым і манументальным мужчынам», — заўважыў мастак.

Алесь Пушкін вярнуўся з вандроўкі акрылены і задаволены сяброўскімі і творчымі кантактамі.

**Эла Дзвінская**



*На выставе ў Вільні з Ю. Юркевічам*

# Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка

У сакавіку 2012 года Алесь Пушкін дапамагаў у афармленні выставы ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце да 94-й гадавіны заснавання БНР. Былі аформлены 17 вялізных стэндаў, прысвечаных малавядомым дакументам з архіваў БНР. На выставу Пушкін перадаў тры ранейшыя карціны: партрэты Антона і Івана Луцкевічаў, выяву генерала Станіслава Булах-Балаховіча, напісаныя некалькі гадоў таму.

Яшчэ ў студэнцкія гады Пушкін упершыню прачытаў кнігі, прысвечаныя айцам-заснавальнікам БНР: Вацлаву Ластоўскаму, Васілю Захарку, Пётру Крычэўскаму, Кастусю Езавітаву. З таго часу тэма не пераставала хваляваць мастака.

«Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт і Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў запрасіў наведвальнікаў на выставу гістарычных дакументаў, нядаўна адкрытых у Літоўскім дзяржаўным архіве «Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка», — паведаміла Радыё Свабода.



*На выставе ў Вільні*

На выставе экспануюцца дакументы, датычныя гісторыі Беларусі 1914–1918 гадоў, нядаўна адкрытыя Інстытутам гістарычных даследаванняў Беларусі Еўрапейскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Літоўскім дзяржаўным архіве. Гэта тагачасныя архіўныя фонды, якія былі закладзены для незалежнай беларускай дзяржавы.

Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчаная ў 1918 годзе, аднак хутка інкарпараваная ў Савецкі Саюз. Інтэлектуалы, вымушаныя працаваць за мяжой, сфармавалі на чужыне многія палітычныя і культурныя арганізацыі. Сярод іх — Урад БНР, які працягвае існаваць да сённяшняга дня. Нядаўна адкрытыя дакументы з’яўляюцца надзвычай важнымі для фармавання Беларускай дзяржавы і служаць падмуркам беларускай незалежнасці, якая была адноўлена ў 1990 годзе.

Сярод знаходак — аўтабіяграфія і заяўка на навучанне ў ЗША беларускага навукоўца Барыса Кіта, які стаў у Злучаных Штатах адным з самых знакамітых даследчыкаў космасу ў свеце. Экспазіцыя ў ЕГУ доўжылася з 23 сакавіка па 1 красавіка. Выстава дэманстравалася на Беларусі і ў іншых краінах».

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*Пленэр у Сухэй, 2009 г.*

# У даліне Ліўца. Пленэры ў Польшчы

Алесь Пушкін удзельнічаў у чатырох польскіх пленэрах, якія ён узгадвае з замілаваннем.

Першы з іх праходзіў у 2003 годзе. Мястэчка называлася Старая Суша пад Варшавай, паблізу знаходзіцца гарадок Вэнгрув. Пленэр арганізоўваў мясцовы аддзел культуры разам з прадпрымальнікамі. Лукаш Левандоўскі, адзін з польскіх мастакоў, стаў героем карціны. Выніковая калектыўная выстава прайшла ў ваяводскай бібліятэцы на вул. Кошыковай у Варшаве.

Другі пленэр называўся «Dolina Liwca». У ім бралі ўдзел мастакі з Літвы, Украіны, Беларусі, Расіі. Яны былі запрошаны, каб увасобіць у сваіх творах гэтыя чароўныя краявіды. Рэчка Лівец — прыток Буга, берагі яе мяняюцца ад высокіх схілаў да водмеляў, дзе адкрываецца цудоўны від на велізарныя маляўнічыя лугі і пашы. Даліна пакрытая лугамі з рэдкімі



*На пленэры*

прыбярэжнымі алешынамі і хваёвымі дрэвамі. Тут знаходзяць прытулак каля 20 відаў вадаплаўных птушак.

Пленэр завяршыўся вернісажам, частка карцін была выстаўлена на продаж. Праявіла цікавасць да гасцей польская мастачка Іаланта Снежка.

Шэраг карцінаў (партрэт Багуслава Радзівіла, Кашталяна з легенды і Сакальнічага) назаўсёды засталіся ў шляхетным гатэлі «Эверэст» гарадка Вэнгрув, іншыя працы аздобілі інтэр'ер старажытнага замка Ліў.

Адзін з супольных пленэраў завяршыўся выступленнем Пушкіна і яго сяброў у Варшаўскім вышэйшым інстытуце сацыяльных і паліталагічных даследаванняў «Collegium Civitas» перад студэнтамі-каліноўцамі ў ліпені 2009 года.

У 2010 годзе ў Польшчы ўрачыста адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння Фрэдэрыка Шапэна. У Варшаве быў адкрыты Цэнтр імя Ф. Шапэна для маладых музыкаў і кампазітараў. Акрамя традыцыйных штогадовых акцый праходзіла серыя спецыяльных канцэртаў у гонар кампазітара. А ў кастрычніку 2010 года адбылася адно з самых прэстыжных спаборніцтваў піяністаў — 16-ы Міжнародны фартэпіянны конкурс імя Ф. Шапэна.



*Мастак працуе ў Масцібродах*

У свеце было вызначана каля двух тысяч розных падзей, звязаных з музыкай вялікага паляка. У Познаньскай філармоніі завяршыўся фестываль «Шапэн — наш сучаснік». У адным з канцэртаў Даніэль Альбрыхскі чытаў лісты Шапэна, у іншым «The Swingle Singers» спявалі апрацоўкі яго знакамітых твораў, а ў адным з найстарэйшых сабораў Еўропы — Познаньскам саборы — была зладжана імша з тэлетрансляцыяй на ўвесь свет, дзе мелодыі Фрыдэрыка гучалі ў харавых і арганных версіях.

«Мастакоў з розных краінаў запрасілі на цудоўны пленэр, прысвечаны кампазітару, пад назвай «Шапэн, барвамі зайграны», — апавядае Алесь Пушкін. — Дзея праводзілася ў Шапэнаўскі год, у сакавіку 2010-га, у фальварку Масціброды.

Мы малявалі непаўторныя краявіды, пісалі на ўлонні прыроды. Была ранняя вясна, навокал яшчэ ляжаў снег. Нас размясцілі ў сядзібе, частавалі, 10 дзён мы слухалі Шапэна, натхняліся яго далікатнай музыкай і стваралі яго выявы.

Пленэр арганізавалі польскія прамыслоўцы, як не дзіўна — вытворцы кілбасаў. Культурным арганізатарам была Малгажата Баркоўска, жонка аднаго з вытворцаў.



*«Шапэн і Пушкін», 2010 г., алей, 80*×60

Гучала тонкая цудоўная музыка, высокаінтэлектуальная, рафінаваная, я так люблю яе!

Вобраз Шапэна мне дарагі. У тыя дні было такое прыгожае надвор'е, так пісалася ад душы!

Я вучуся ў палякаў, як яны ладзяць культурныя мерапрыемствы, як захоўваюць памяць пра знакавых асобаў.

Шапэнаўскі пленэр — самы мой любімы, гэта быў выключна мастацкі, некамерцыйны пленэр, я прывёз дадому карціны «Партрэт Шапэна», «Пушкін слухае Шапэна», «Пушкін і Шапэн». Яны належаць Беларусі».

Карціна «Пушкін і Шапэн» захоўваецца ў прыватным зборы ў старэйшай дачкі Алеся Пушкіна Ганны Аляксандраўны Сталбоўскай. Ёй бясконца дарагі гэты твор, як і іншыя працы яе таты. Дваццацігадовая дзяўчына вывучае вэб-дызайн у Інстытуце сучасных ведаў імя Шырокава ў Мінску.

**Эла Дзвінская**



*Швецыя, Лофта, ф'ёрды, 2009 г.*

# Шведскія пейзажы

**Вольны незалежны мастак, які думае па-еўрапейску, Алесь Пушкін перадаў эстафету лаўрэата прэміі «За Свабоду думкі» старшыні Культурна-адукацыйнага цэнтра імя Я. Драздовіча Адзе Райчонак.**

За мінулы год у жыцці стваральніка свабодных пленэраў адбыліся важныя падзеі. Адной з іх стала правядзенне персанальнай выставы з 14-ці карцін у шведскім горадзе Кальмар у музеі сучаснага мастацтва. Спадар Пушкін распавеў пра знаёмства з суседняй паўночнай краінай.

— Такая нечаканая прапанова з'явілася для мяне падчас візіту ў Бобр Акі Карлсан, сябра Партыі Зялёных Швецыі ў 2008 годзе. Яна, як і я, жыве ў рэгіёне, таму ёй хацелася паглядзець наш кут. Госця распавяла пра музей сучаснага мастацтва, які існуе ў іх горадзе. Пазней высветлілася, што гэта адна з самых сучасных галерэй, дзе кожныя тры месяцы змя-

няецца экспазіцыя з дэманстрацыяй твораў нямецкіх, шведскіх, амерыканскіх мастакоў.

Мною былі абраны 17 прац. Асаблівае значэнне меў партрэт Георгія Бортніка, святара, расстралянага ў 1951 годзе за тое, што ён вёў казанні на роднай мове. Яшчэ мне хацелася паказаць свае вясновыя шпакоўні, да якіх прыклалі руку розныя вядомыя асобы.

Выставу ў горадзе Кальмар прадстаўляў куратар Марцін Шыблі. Пяць мясцовых газет надалі ўвагу экспазіцыі беларускага мастака.

«Алесь Пушкін, — нагадаў шведскім гледачам Марцін Шыблі,— заснавальнік першай постмадэрнісцкай галерэі сучаснага мастацтва ў Віцебску, горадзе, які ўвабраў традыцыі Марка Шагала і Казіміра Малевіча. Незалежнае мастацтва з'яўляецца моцнай зброяй супраць дыктатуры. У шведаў значны інтарэс выклікала інфармацыя пра перформансы, якія ладзіць Алесь Пушкін як форму пратэсту. Адзін з іх праходзіў на прыступках Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі. Мастак хацеў аддаць належную даніну героям антыгітлераўскага і антысавецкага супраціўлення, імёны якіх незаслужана забыты, і звярнуўся да кіраўніка музея У. Пракапцова з просьбай правесці выставу партрэтаў барацьбітоў, у чым яму было адмоўлена».

Для творцы магчымасць пазнаёміцца з традыцыямі Швецыі — удзячная глеба для назіранняў і параўнанняў.

— Я пабываў у некалькіх гарадах — працягнуў гутарку спадар Алесь, — наведаў Вестэрвік, Гамлебі і іншыя, пабываў на радзіме Астрыд Ліндгрэн. Мне хацелася паглядзець шведскія дзіцячыя садкі, школы. Дзетак яны аддаюць у садок вельмі рана, у 1–2 годзікі, але садок бясплатны, там самыя сучасныя цацкі і абсталяванне. У школе — бясплатныя падручнікі, бясплатнае харчаванне.

Я пабываў на свяце Святой Люцыі, павандраваў па краіне, агледзеў ф'ёрды, старадаўнія малюнкі на камянях — гэта мяне вельмі ўразіла. Важным было знаёмства з мясцовымі нобілямі. Я пабываў у сядзібе «Блэк Хаус» — арыстакратычным доме, які падтрымлівае сувязь з баронамі ў розных еўрапейскіх краінах, займаецца дабрачыннасцю, сустрэўся з князем Эдвардам Нардэнфолькам.

У Стакгольме я наведаў Мастацкую школу, паназіраў, як студэнты рыхтуюцца да паступлення ў Стакгольмскую акадэмію

мастацтваў. У аснове іх жывапісу часта выкарыстоўваюцца фальклорныя матывы. Midsummer — у іх такое ж свята, як наша Купалле. Яно нараджае шмат легендаў, якія кладуцца ў аснову сюжэтаў карцін.

Шмат увагі яны надаюць дызайну. У навучальным парадку я выканаў з натуры партрэт студэнткі Амеліі. Тэмперай і акварэллю напісаў некалькі шведскіх пейзажаў. Раскідзісты дуб, мох, камяні, скалістыя выступы. Тую карціну я падарыў кампаніі «Будзьма».

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Осла, City Hall, 2009 г.*

# Беларускія мастакі ў Осла

**З 29 кастрычніка па 5 лістапада ў гарадзкой ратушы Осла праходзіла выстава беларускіх мастакоў нон-камфармістаў «Мастацтва супраць дыктатуры».**

На выставе прадстаўлена 32 працы адзіннаццаці беларускіх мастакоў, якія жывуць у Беларусі і ЗША: **Аляксея Марачкіна, Алеся Пушкіна, Алеся Шатэрніка, Ягора Батальёнка, Генадзя Драздова, Міколы Купавы, Юліі Шатэрнік, Юрыя Платовава, Янкі Рамановіча, Алены Тылькінай і Сяргея Ардэна.**

На адкрыцці выставы ў будынку мэрыі горада Осла 29 кастрычніка прысутнічала каля 200 гасцей, выступалі вядомыя нарвежскія палітыкі, прадстаўнікі ліберальнай і сацыялістычнай парты Нарвегіі, беларускія мастакі і дысідэнты: Алесь Шатэрнік, Алесь Пушкін, Алена Тылькіна і Павел Марозаў. Мерапрыемства асвятлялася нарвежскім тэлебачаннем і радыё. Выставу падтрымалі беларускія музыкі —

на адкрыцці са сваім музычным шоу выступала этна-джаз група «Акана-НХС», якая мела вялікі поспех у публіцы.

Каардынатар выставы, лідар Кангрэса новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША Павел Марозаў адзначыў:

*«Выстава “Мастацтва супраць дыктатуры” рэалізуецца з лета 2008 года. Яна прэзентуе альтэрнатыўную Беларусь, краіну вольна думаючых, творчых людзей, змешчаных у кантэксце еўрапейскай культурнай традыцыі, сваёй творчасцю апануючых існым у Беларусі палітычным і сацыяльным рэаліям. Яна прыцягвае ўвагу да праблем свабоды культурнай дзейнасці і самавыяўлення, да правоў чалавека ў Беларусі. Бо немагчыма змяніць Беларусь, наблізіць яе да Еўропы толькі палітычнымі захадамі, але магчыма зрабіць гэта праз культуру, прышчапляючы культурныя каштоўнасці і практыкі нашаму грамадству. Сёння мы маем магутны культурны рух мастакоў, музыкаў, іншых творчых асоб, якія бачаць нашу краіну вольнай і еўрапейскай».*

За гэты час выстава паспела пабываць у Парламенце Эстоніі, музеях і вядомых фундацыях Нью-Ёрка і Вашынгтона, дзе прыцягвала ўвагу публікі да праблем беларускай культуры і сітуацыі ў Беларусі.

Ратуша Осла — сімбалічнае і значнае месца ў Нарвегіі, дзе ўручаецца Нобелеўская прэмія міру. 10 снежня 2011 года дадзеная прэмія менавіта тут будзе ўручана прэзідэнту ЗША Бараку Абаме. А крыху раней адбудзецца яшчэ адна падзея, якая злучыць Беларусь і ЗША: выстава беларускіх мастакоў нон-канфармістаў адкрыецца 23 лістапада ў Кангрэсе ЗША ў Вашынгтоне.

Выстава ў нарвежскім Осла арганізавана Кангрэсам новай беларускай дыяспары Эстоніі і ЗША ў партнёрстве з «Маладымі лібераламі» Нарвегіі, Беларускім музеем у Нью-Ёрку, эстонскай арганізацыяй «Новы Шлях для Беларусі», Беларускім моладзевым рухам Амерыкі і супольнасцю «Трэці Шлях».

**www.belmuseum.org**



*Рукі беларускага музыкі, 2006 г.*

# Выстава ў ЗША

**23 лістапада 2009 года ў холе Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША, будынку Рэйбурн (Вашынгтон), адкрылася выстава беларускіх мастакоў «Мастацтва супраць дыктатуры».**

На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Амерыцы, працаўнікі Кангрэса ЗША, Дзяржддэпартамента, амерыканскіх няўрадавых арганізацый, прэса і прыватныя калекцыянеры сусветнага сучаснага мастацтва.

На выставе дэманструецца каля сарака палотнаў і графічных лістоў адзінаццаці мастакоў, якія жывуць у розных краінах свету: Алеся Пушкіна, Алеся Шатэрніка, Аляксея Марачкіна, Рыгора Батальёнка, Генадзя Драздова, Міколы Купавы, Юліі Шатэрнік, Юрыя Платонова, Янкі Рамановіча, Алены Тылькінай і Сяргея Ардэна, а таксама скульптурныя кампазіцыі Алеся Шатэрніка, у тым ліку бюсты вядомых беларускіх дзеячаў — Тадэвуша Касцюшкі,

Ефрасінні Полацкай і Васіля Быкава. Тэма твораў — Беларусь і яе гісторыка-культурная спадчына.

Арганізатарамі экспазіцыі выступілі Кангрэс новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША, Беларускі музей у Нью-Ёрку і суполка «Трэці шлях». Выстава арганізаваная пры падтрымцы Фонду Джорджа Маршала і Хельсінскай камісіі Кангрэса ЗША.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*Пушкін у Польшчы*

# «Варштаты культуры» ў Любліне

**У верасні 2011 года група прадстаўнікоў беларускай культуры наведала Люблін ў рамках сустрэчы пад дэвізам «Białoruś — artyści jeszcze są». Яны прынялі ўдзел у выставе, сустрэліся з рэдактарам польскага інтэрнэт-часопіса «Kultura Enter» Паўлам Лаўферам.**

— Калі немагчыма рабіць штосьці ўнутры краіны, трэба звяртацца да асяродкаў па-за яе межамі, каб вынесці творчы працэс вонкі, — распавёў Павел Лаўфер. — У нас была сустрэча з некаторымі вашымі мастакамі, журналістамі і пісьменнікамі, на якой былі Алесь Пушкін, Севярын Квяткоўскі, Таццяна Нятбаева, Максім Жбанкоў. Сустрэча мела назву «Мастакі яшчэ ёсць». У вашай сітуацыі, калі няма нармальных умоваў для працы, культуру можна ствараць у іншых краінах, куды мастакі выязджаюць, напрыклад, вучыцца, і там ствараюць карціны, робяць сабе партфоліа.




*Пушкін у Любліне, 2011 г.*

А потым надыходзіць час, калі гэтае мастацтва вяртаецца з эміграцыі дамоў, бо запатрабаванае на радзіме. Але ствараць мастацтва, культуру за мяжою можна з дапамогай партнёрскіх арганізацый, якія, як мы, напрыклад, могуць знайсці сродкі ў еўрапейскіх фондах і падзяліцца з вамі. Можна гэта зрабіць у межах сеткі, у якую мы ўваходзім, што дае магчымасць прэзентаваць творы ў розных краінах, на розных мастацкіх пляцоўках. Зноў жа, у сучасным свеце існуе выдатны інструмент, дзякуючы якому можна прасоўваць уласныя праекты, — інтэрнэт. Тое, што ваша культура не цікавая ўладам, не азначае, што ёй не цікавяцца ў іншых краінах. Беларуская культура, як мне падаецца, жыве ў платонаўскай пячоры.

Гадоў сем таму я напісаў праграмны дакумент пад назвай «Капітал ці комплекс?». Гаворка ў дадзеным выпадку пра Люблін як «усходні» горад, што доўгі час было нашым комплексам (некалі Люблін называлі другасным горадам, Польшчай «Б», «усходняй сцяной»). Цяпер гэта зрабілася нашым капіталам, брэндам, мы вядомыя ў Еўропе. А адбылося гэта дзякуючы культурным акцыям.

У нас змянілася стаўленне да культуры, калі Польшча ўвайшла ў Еўрасаюз, тады змяніліся акцэнты. Люблін зразумеў, што мусіць зрабіць пэўную рэвізію і рэфармаваць сябе і з боку культуры.

Асабліва відавочна змены праявіліся ў 2007 годзе, калі распачалася падрыхтоўка да ўдзелу ў конкурсе «Еўрапейская культурная сталіца — 2016».

Мы зразумелі, што сродкі, укладзеныя ў культуру, потым вяртаюцца. Выдаткі на культуру былі павялічаныя ў тры разы. Хоць мы і не перамаглі, але цудоўна сябе зарэкамендавалі, таму што быў прадстаўлены вельмі добры план, ёсць досвед. І цяпер у Еўрасаюзе ведаюць, што Люблін — адзін з найважнейшых партнёраў у праграме Усходняга партнёрства, — адзначыў Павел Лаўфер.

Пасля сустрэчы з польскімі сябрамі Алесь Пушкін даў інтэрв'ю для **«Gazety wyborczaj»**.

У сваім артыкуле Гжэгаж Ёзэфчук назваў мастака *«zawsze usmechniety Puszkin»* за яго аптымізм.

— Гэта першы беларускі мастак, перформанс якога ў 1999 годзе паказала ва ўсіх галоўных навінах польскае тэлебачанне, — узгадаў Вальдэмар Татарчук, дырэктар люблінскай галерэі «Лабірынт». Польскія крыніцы паведамлялі, што славуты артыст Алесь Пушкін вядомы як выдатны спецыяліст манументальнага мастацтва і рэстаўратар.

**Паводле матэрыялаў інтэрнэта**



*Бобр, 2008 г.*

# «Я не забыў, дзе мой выток»

*Калі хочаш магутнаю быць,*
*Беларусь, свае таленты беражы!*

Генадзь Бураўкін

Сцяжынка ад станцыі да дому на вуліцы Горнай вядзе праз вільготны імшысты лес. На купінах пад дрэвамі восенню чарнеюць россыпы брусніцаў. Вялізныя вольхі і цёмныя яліны ціха перашэптваюцца. Сядзіба над ракой Бобр падобна на музей. З гары адкрываецца маляўнічы краявід.

— Вось чаму Пушкін не з'язджае ні ў Галандыю, ні ў Польшчу, ні ў Нямеччыну! — каментуе гаспадар сядзібы, стоячы над крутым узгоркам, пад якім выгінаецца плынь ракі Бобр. — Тут, у Бабры, карані нашага роду. Мой прадзед, дзед і бацька жылі тут. Міколка — гэта ўжо пятае пакаленне.

Да 500-годдзя Бабра я прапанаваў мясцовым уладам праект рэканструкцыі і добраўпарадкавання. Хацеў бы зрабіць мазаіку, герб мястэчка згодна з выявай 1762 года. Ёсць ідэя стварыць скульптуру — фан-

тан «Мажны Бабёр», можна арганізаваць пленэр скульптуры — запрасіць скульптараў, аб'явіць тэндэр для распрацоўкі эскізаў дзеля ўпрыгожвання парку ў цэнтры мястэчка. Каб мастацтва ўплывала на рэгіянальнае развіццё.

Я прапаную адрэстаўраваць былую сталовую і пераабсталяваць яе пад моладзевы цэнтр, побач стварыць Цэнтр дзіцячай творчасці імя М. Агінскага. Маю жаданне прыцягнуць мастакоў, скульптараў, фітадызайнераў дзеля комплекснага добраўпарадкавання. Наша справа — сеяць разумнае, добрае, вечнае. Дзейнічаць не рэвалюцыйна, а эвалюцыйна.

Планшэт з праектам Пушкіна размясцілі ў будынку сельсавета на абмеркаванне. Мы ідзём па вуліцы Горнай ад дома Пушкіных да цэнтру мястэчка, каб паглядзець яго.

— Першыя ўзгадкі аб мястэчку датуюцца 1516 годам. У 1900 годзе ў Бабры жылі 3 тысячы чалавек, — распавядае Пушкін, калі мы праходзім міма сквера, крамы і бібліятэкі. — Цяпер у Бабры 1100 жыхароў, з якіх 78% — пенсіянеры. 50 чалавек знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі. Тут ёсць ферма, на якой жанчыны працуюць даяркамі і свінаркамі. Недалёка ад цэнтру жыве ветэрынар — паважаны чалавек на вёсцы. Ёсць сярэдняя школа, якая мае 120 гадоў і носіць імя наркома Луначарскага, ёсць дзіцячы садок. 1 мастак, сябра Саюза беларускіх мастакоў прыходзіцца на 32 000 жыхароў, на Талачынскі і Крупскі раён, адзін Пушкін, — са скрухай канстатуе гаспадар. — Раней у цэнтры мястэчка на плошчы ўзвышаўся касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. За рэчкай знаходзіліся дзве сінагогі. У былыя вякі ў гарадку ішоў бойкі габрэйскі гандаль. Ёсць звесткі, што ў мястэчку Бобр жыў цадзік — праведны габрэй. На могілках знаходзіцца яго магіла. Слова «цадзік» уваходзіць у склад біблійнага імя Мельхіседэк. Лічылася ў габрэяў, што цадзік, які выконваў запаведзі Торы, асвячаў зямлю, на якой жыў, і служыў як бы талісманам мястэчка, адпрэчваў Боскую кару. У хасідызме цадзікі ператварыліся ў духоўных лідараў (рэбэ), да якіх людзі ішлі за парадай. Хасіды наведвалі цадзікаў па суботах, на святы і ў дзесяць дзён пакаяння...

Не аднойчы Пушкін настойліва раіў мясцоваму кіраўніцтву заняцца добраўпарадкаваннем Бабра. Безыніцыятыўнасць і маруднасць сяльчанаў змусілі яго на незвычайны крок. Імправізатар і аматар розных прыгодаў, ён перад выбарамі ў снежні 2010 года




*Праект рэканструкцыі Бабра*

склаў ультыматум, дзе напісаў, што можа спыніць цягнік Саратаў — Берлін, і тым самым нагадаць пра пастаянны транзіт праз нашу тэрыторыю, які мог бы прыносіць сродкі для ўпрыгожвання зямлі, і даслаў ліст ў сельсавет.

За той «жарт» Пушкін атрымаў 13 сутак арышту. Начальства, ведаючы пра яго перформансы, успрыняло ліст сур'ёзна і вырашыла ізаляваць Пушкіна на час выбараў.

Дзеля затрымання Пушкіна быў выкарыстаны неаднаразова судзімы Віктар Лазарэвіч. Ён быў падасланы ў двор Пушкіных і пачаў набівацца да Алеся з размовамі. Яніна Пушкіна кажа, што той спрабаваў справакаваць яе мужа на ўжыванне сілы. Мастак на правакацыю не паддаўся і акуратна выставіў яго за вароты. Мясцовыя міліцыянты, зацікаўленыя ў затрыманні Пушкіна, пару разоў стукнулі ў нос Лазарэвічу. І той у хуткім часе пісьмова засведчыў, што яго пабіў Пушкін. Мастак быў змешчаны ў пастарунак і прывезены ў суд.

Пра той выпадак падрабязна пісала ў газеце «Народная воля» ў студзені 2011 года Алена Малочка.

Цяпер Пушкін падыходзіць да справы сур'ёзна, паколькі яго хвалюе будучыня мясціны, у якой ён жыве, растуць яго дзеці. Яму неабыякава, якім будзе навакольнае асяроддзе, якія паўстануць культурныя дамінанты. Пушкін распрацаваў дэталёвую канцэпцыю добраўпарадкавання, напісаў афіцыйны ліст старшыні Бобрскага сельсавета Бучылку К. В. і старшыні Крупскага райвыканкама Часныку І. М. Праект размясцілі ў залі пасяджэнняў, дзе збіраюцца дэпутаты сельсавета на свае нарады. Вядома, што і яны захочуць бачыць Бобр шляхетным і чыстым.



*«Дзеці зімой», 2009 г.*

Увасобіць праект у жыццё магчыма з дапамогай сяброў, грамадскіх арганізацый, варта было далучыць мясцовых прадпрымальнікаў ці іншых выхадцаў з гэтых мясцінаў.

Пушкін звяртаўся да мясцовай інтэлігенцыі, да дырэктара школы, праваслаўнага святара і евангельскага пастыра, каб пашырыць ужытак беларускай мовы ў царкве і ў школе. Не! — сказалі яны. Не! — сказалі бацькі дзяцей. Яны баяцца. Пушкін настаяў, каб яго сын навучаўся па-беларуску. У гэтым пытанні дырэктар згадзілася і аддала загад навучаць хлапчука на роднай мове. Пушкін заахвочвае іншых бацькоў праявіць патрыятычныя пачуцці.

У 2008 годзе Пушкіна моцна збілі маладыя мясцовыя хуліганы, нядаўнія выпускнікі школы за тое, што ён размаўляў па-беларуску. Адпакутаваўшы некалькі дзён ад болю, Пушкін не стаў заводзіць на хлапцоў крымінальную справу і дараваў ім, але намовіў прыйсці ў царкву пакаяцца і прычасціцца. Для маленькага мястэчка гэта важна, і калі людзі пакаяліся пры ўсім народзе, гэта добрае настаўленне іншым.

**Эла Дзвінская**



*«Дома», 1986 г.*

# Бацькоўскі кут — прытулак роздуму і натхнення

*Быццам матуля ішла да крыніцы,*
*Выліла ў полі вядро сырадою.*
*Пахне чаборам і медуніцаю,*
*Пахне вашчынаю маладою...*

Г. Бураўкін

У бацькоўскім доме па вуліцы Барсукова, які належыць сястры Святлане, знаходзіцца майстэрня Пушкіна. Перад хатай з разнымі налічнікамі квітнеюць фіялетавыя дэкаратыўныя качаны, унутры — утульна, чыста. Насустрач выбягае і ласціцца сабачка Жужа.

Тут гадаваліся трое дзетак Пушкіных, тут прайшло іх дзяцінства. На падлозе з шырокіх дубовых дошак дзеткі гуляліся. Бацька Мікалай быў электрыкам, усё ён рабіў сваімі рукамі: будаваў хату, гаспадарчыя прыбудовы. На фатаздымку — чалавек з адкрытым шчырым тварам. Маці — з тоўстай касой,



*«Сняданак», 2002 г.*

укладзенай над ілбом, у саматканым белым платку. Яна працавала ў леспрамгасе.

У гаспадарцы бацькоў былі карова і цяляты, авечкі і парсючкі, куркі. Маці ткала на кроснах, шыла, вязала хусткі і карункі. Мастак паказаў яе за швейнай машынкай, у атачэнні белага абрусу.

— Мама была спагадлівай, душэўнай. Кожны вечар малілася. Гумар таксама ад яе. Яна ўмела добра расказваць смешныя гісторыі, заўважала яскравыя моманты ў паўсядзённым побыце. Мама пражыла 77 гадоў, яна чакала ўнука Міколку. Калі ён з'явіўся на свет, скора яна адышла. Нарадзілася Марылька — адышоў і тата. Ад яго мне дастаўся гарачы характар, часам запальчывасць. Бацька стварыў пры жыцці Бобрскі Камітэт па адраджэнні мясцовай царквы, групу з дваццаці чалавек. Калі будынак быў узведзены, бацька сказаў: «Распісваць будзе мой сын!»

У дзяцінстве мы з мамай ездзілі ў храм у Барысаў, у Бабры тады яго не было. Гэтаму быў прысвечаны цэлы дзень. Я прывучаўся цярпець, маліцца, выстойваць усю службу. Потым гэта стала маёй унутранай патрэбай. На зваротным шляху мы з мамай заязджалі на кірмаш, набывалі ўсё неабходнае. У 10 класе я напісаў першы ў жыцці абраз Казанскае Божае Маці. Шчаслівая мама падарыла яго ў Барысаўскую царкву.

У 1991 годзе ў Віцебску я напісаў карціну Маці Сусвету. Хацеў адлюстраваць гісторыю Віцебска-Полацкай епархіі. Таксама напісаў партрэт святога Ясафата Кунцэвіча. Да мяне ў майстэрню зайшоў епіскап Віцебскі Дзмітрый. Агледзеўшы карціны і праекты, ён сказаў, што яшчэ не прыйшоў час пра гэта казаць голасна.


*Творы, якія захоўваюцца ў майстэрні*

Вось пад шклом стэнд з фотаздымкамі, схемамі Афганскай кампаніі. На адным са здымкаў — маладзенькі шчуплы салдацік Пушкін у фуражцы, зусім хударлявы. З 5 лістапада 1984 па 16 кастрычніка 1986 года ён служыў у 40-й агульна-вайсковай частцы ў Афганістане. Тут на здымку засняты іх верталётны полк, а побач — сябры з мотастралковага палка. Кабул, Палац Аміна. Тут салдат Алесь Пушкін сфатаграфаваны каля Мамаева кургана пад Валгаградам. Дым, горыч, абсурд і гора вайны давялося яму перажыць.

— У войску я вёў дзённік, — узгадвае Алесь. — У ім я напісаў, як непрыемна і сорамна адчуваць сябе акупантам у чужой краіне. За гэты дзённік я патрапіў на 10 дзён на гаўпвахту. Старшыня сказаў, что мае думкі не адпавядаюць лініі партыі ў афганскай інтэрнацыянальнай палітыцы. За дзесяць гадоў савецкай прысутнасці ў Афганістане загінула 2 мільёны афганцаў і 35 000 савецкіх салдат і афіцэраў.

Алесь выносіць з другога пакоя і дэманструе свае карціны. Па адной ён прытуляе іх да сцяны і расказвае гісторыі, звязаныя з іх стварэннем. З папяровага пакунка акуратна дастае невялічкі абраз Мадоны Кутнай гары.

— Гэта ікона напісана мной у Чэшскім Крумлаве, дзе знаходзіцца Кутная гара. Там у Чэхіі былі сярэбраныя руднікі. Адбываліся гусіцкія войны, ішлі эпідэміі, шмат народу змерла. Таму паміж двума гатычнымі касцёламі я напісаў абраз Божае Маці, якая вы-



*«Светлы дзень», 2009 г.*

ношвае Збаўцу — Ісуса Хрыста, як сімвал перамогі жыцця над смерцю. Ёй пакланяюцца святая Барбара і рудакоп. Яна атуляе ўсіх сваёй любоўю. Пісаў тонкім пэндзлем, пад лупай. Хацеў бы, каб твор калі-небудзь захоўваўся ў рамцы ў касцёле.

«Раніца 8 верасня 1514 года».

— З 1992 года пад Оршай, што недалёка ад нас, на Крапівенскім полі традыцыйна праходзіў фестываль, на які з'язджаліся барды, мастакі, моладзь. Мы ўсе гады туды збіраліся.

Зразумейце, была сеча, кіпела бітва, а цяпер гісторыя, пераплаўленая ў мірныя сродкі мастацтва, з'ядноўвае людзей, абуджае ў іх патрыятызм. Усе гэтыя гады мы ставілі намёты, чыталі вершы, спявалі ля вогнішча. Пасля таго, як тры разы міліцыянты пахваталі людзей і пасадзілі за краты, барды ездзіць сталі менш, людзі пачалі засцерагацца, традыцыя стала згасаць. Цяпер гістарычнае поле баявой славы ўвогуле зааралі, каб зарастала бур'янам. Цяжка туды праехаць трактару, каб падвесці дровы, ваду, харчаванне для супольнасці. У якой жа краіне гэта бачна, каб поле гістарычнай славы занядбалі?

«Вясковая настаўніца». Партрэт пані Яніны ў чырвоным паліто з газетамі і кнігамі ў руках. Яна з годнасцю і далікатнасцю трыма-



*«Напрадвеснi», 2010 г.*

еццa на фоне панарамы вёскі. А ў кутах, на перыферыі, у маленькіх групавых сюжэтах высвечаны праблемы вёскі. У адным куце б'юцца п'яніцы з бутэлькамі ў руках. У другім — павешаны чалавек (праблема суіцыду). Простыя рыбакі ловяць рыбу, мужчына збірае хворaст, дзеці гуляюць, моладзь робіць археалагічныя раскопы.

«Пленэр на Беларусі. 2000 год». Мастак намаляваў самога сябе, у капялюшы на фоне прыроды.

— У мастака душа гарыць, — каментуе сам аўтар — ды яе тушаць з бранзбойтамі (унізе ля ботаў статнай фігуры ў капелюшы намалявана купка пажарнікаў з лесвіцамі.)

Высокія, маштабныя палотны ён транспартуе на выставы то машынай, то на падводзе аднаго знаёмага пенсіянера.

Раз на год разгортвае экспазіцыю ў цэнтры мястэчка для мясцовых жыхароў.

Улюбёнымі тэмамі мастака таксама з'яўляюцца зімовыя і веснавыя сюжэты. Зімовы краявід на карцінах «Светлы дзень», «На зімнягa Міколу», «Зазімак на Бабры» спакойны і ціхі. Прысыпаныя снегам галінкі застылі ў чароўным сне. Елкі апранулі велічныя пуховыя строі.

На далёкім плане — раскінуліся заснежаныя халмы, паросдыя маладымі дрэвамі. Па берагах раку скаваў лёд, а ў сярэдзіне моцная плынь віруе і імчыць, не зважаючы на сцюжу.

У зімовых пейзажах вада — застылая, у аддаленых паваротах ракі — цёмная і густая, на асветленых прасторах — надзвычай бя-



*«Вечар», 1997 г.*

люткая і ціхая. Невялічкі храм з двума купаламі на другім беразе прываблівае вандроўнікаў.

Некаторыя сюжэты творца падае з дзіцячага, непасрэднага, радаснага і гарэзлівага ўспрыняцця свету: «Дзеці зімой», «Залатая Рыбка». Вольнасць і бадзёрасць дыхаюць у іх.

У веснавых сюжэтах святло лучыцца паўсюль. На карціне «Напрадвесні» ручай нясе абагрэтыя сонечным цяплом воды.

У сюжэце «Сакавік» бярозы поўняцца сокам. Ствалы іх бялюткія і стройныя.

Святло выпраменьвае белы колер банкі з малаком. Блакітны колер перагукаецца з белым, як неба ў канцы сакавіка схіляецца над покрывам напалову расталага снега. Свежыя пралескі, сонкветкі, васількі цешаць вока сціплым харáством.

Белы і блакітны колеры ствараюць своеасаблівую гаму ў творы «Сняданак».

Ільняны рушнік, малако ў кубку, кавалак мёду ў сотах насычаюць вока спакоем і замілаваннем, уносяць прасветлена-спакойны акорд.

Васількі — сімвал чысціні, душэўнасці і адкрытасці — частыя матывы ў карцінах Пушкіна. Сінява іх пялёсткаў увабрала ў ся-

бе фарбы неба, возера і вачэй людзей. Васількі ствараюць частку нацюрмортаў, аздабляюць партрэты вядомых асобаў. У карціне «Вятрак і валошкі» маленькі букецік палявых красак нагадвае старому ветраку пра яго маладосць.

Майстэрства жывапісца праяўляецца ў тым, як ён перадае колеры вады. Адна з галоўных прыродных субстанцыяў, якая служыць жыццю і нясе ачышчэнне, вымалёўваецца на палотнах празрыстай, нябеснай, крыштальнай.

У летніх сюжэтах, такіх, як «Вечар», «Чаканне», яна напоўнена залатым і бурштынавым ззяннем, цеплынёй і лагодай, разлітай па ўсім наваколлі разам з бясконцай верай у дабрыню самога жыцця. Пэндзлем мастака кіруе аптымізм і захапленне харавством. На карціне «На возеры Сялява» водны прастор перадае прыродны абсяг свабоды, які пітае душэўныя сілы чалавека.

Сутыкненне з прыгажосцю, з вышэйшымі памкненнямі чалавечай думкі ўзбагачае не толькі з пункту гледжання веры, але наогул узбагачае гледачоў.

Увосень, калі працы ў Вішневе прыпынены на зімовы перыяд, мастак працуе над некаторымі іконамі для гарадзенскіх касцёлаў.

— Пішу выяву св. Губерта, яго культ распаўсюджаны ў Гародні. Святы Губерт, епіскап Льежскі, сын Бертрана, герцага Аквітанскага, жыў у VIII стагоддзі. Ён лічыцца апекуном паляўнічых. Гісторыя яго навяртання да веры звязана з тым, што ён сустрэў у лесе цудоўнага аленя, у якога быў крыж паміж рагоў. Выява цудоўнага аленя з'яўляецца гербам Гародні. Гарадзенскія мастакі з галерэі «Крыга» ў лістападзе 2011 прысвяцілі выставу Дню св. Губерта і распавялі яго гісторыю жыхарам горада ў карцінах і ляльках.

**Эла Дзвінская**



*Алесь і Яніна,*
*Міколка і Марылька*

# Яе Вялікасць Гісторыя і гліняныя збанкі гаспадыні

**Дом, дзе жыве сям'я мастака, узвышаецца над ракой Бобр. Побач паважна стаяць некалькі старых раскідзістых тапаляў, на драўляных слупах вісяць арэлі. Сядзіба абнесена каменнай агароджай, у палісадніку размешчаны драўляныя скульптуры, вялізныя валуны ледавіковага перыяду, на яблыні развешаны адмысловыя шпакоўні розных колераў. У двары пануе акуратнасць і чысціня. Познім восеньскім днём няма ніводнага сухога лісточка, ускалмачанага ветрам, ля парога і каля клумбаў.**

Хата аздоблена карцінамі і малюнкамі Алеся Пушкіна і рэпрадукцыямі нідэрландскага мастака XVII стагоддзя Яна Вермеера. Дома ёсць старажытная фамільная ікона св. Мікалая ў металічным акладзе.

На сцяне — тканы габелен, у кутах кампазіцыі з ракушак і каменьчыкаў, букеты з сухіх кветак. На



*Алесь і Яніна, 2003 г.*

кухні на палічках захоўваецца шмат керамічнага посуду, сцяну ўпрыгожваюць сплеценыя з цыбулі косы. Перыядычна ў кухню просяцца котка і кацяня.

Дзеткі гарэзліва скачуць па хаце, чытаюць вясёлыя вершыкі на беларускай мове, малююць у чароўным альбоме, які тата прывёз з Польшчы. У вялікім пакоі — стэлажы з мноствам кніг нашых асветнікаў і гісторыкаў.

Гаспадыня ласкава прыгатавала ў печы бульбяную бабку ў гліняных гаршчочках, пачаставала гарачым супам з капустай. Яна любіць гатаваць па-хатняму пярловую кашу з фасоляй і з малаком і іншыя стравы.

Яніна Дэмух нарадзілася ў Стаўбцоўскім раёне. Яна выкладае гісторыю ў 5–11 класах у Бобрскай сярэдняй школы. Строгая, сур’ёзная, патрабавальная. У 80-я гады ў школе вучыліся 800 вучняў, зараз займаюцца 150 дзяцей. Прашу гаспадыню распавесці пра сябе і пра сям’ю.

— З дзяцінства я марыла стаць археолагам, і мая мара часткова спраўдзілася. У юнацтве выпісвала часопіс «Археалогія СССР», спрабавала прабіцца праз складаную навуковую тэрміналогію. Ця-



*Хрышчэнне Марылькі*

пер кожнае лета мы з вучнямі ездзім на раскопкі. Мая мама Марыя Іванаўна была ўдавой, прытрымлівалася каталіцкіх традыцый. Яна шмат працавала, была занятая на сваёй дзялянцы. Выхаванне я атрымала строгае, вясковае. Дапамагала маці, а ў вольны час сядзела на печы і чытала кніжкі, ні на якія дыскатэкі не хадзіла. Мама казала: «Дзе ж ты сабе жаніха знойдзеш?» А я вазьмі ды скажы: «У храме сустрэну!» Так яно і здарылася!

Мая цётка працавала ў Магілёўскім педуніверсітэце, і я паехала туды вучыцца. Першы курс гістарычнага факультэта скончыла ў Магілёве. Стрыечная сястра запрасіла мяне наведаць касцёл святога Станіслава. Пушкін якраз вёў там рэстаўрацыю. Так мы і пазнаёміліся.

Я адчула ў ім падабенства нашых каранёў, сугучнасць інтарэсаў. Наша вянчанне адбывалася ў Бабры. Алесь спачатку прыехаў за мной ў Стоўбцы, мама дабраславіла нас іконай, і мы паехалі ў Бобр. У шлюбнае падарожжа мы адправіліся ў Львоў.

На другім курсе я перавялася ў Мінск. Аднойчы ўбачыла ў вестыбюлі аб'яву, напісаную чырвоным шрыфтам: «Запрашае гурт «Нашчадкі», і адчула, што сутыкнулася з вельмі роднасным для сябе. Гурт узначальваў сп. Генадзь Сагановіч, у 1990 годзе яго калектыў дзейнічаў ужо 10 гадоў.

Аднойчы Алесь адправіўся са мной і з вучнямі ў вандроўку на возера Кромань. Мы ішлі пешшу з намётамі, дзе-нідзе пад'язджалі на папутным транспарце. Яшчэ гадоў 7 таму дзеці вельмі любілі хадзіць у паходы, толькі кінь кліч — адразу збіраліся з энтузіязмам!

Настаўнікі на сто адсоткаў паспяхова выкарыстоўвалі гэты метад, каб заахвоціць юнакоў да вучобы, даследаванняў, больш іх зразумець і мець кантакт з імі. Тады ў нас быў рытуал прыёму ў падарожнікі, навучанне паходным прыёмам. Цяпер іх больш захопліваюць тэлефоны і кампутары, яны знаходзяцца ў палоне



*Сям'я Пушкіных у Гародні*

электроннай культуры, і выкладчыку не так проста прыцягнуць іх увагу.

Пяць гадоў я займалася дома са сваімі дзеткамі, а потым зноў з вялікай прагай уключылася ў выкладанне гісторыі. Вырашыла прымяніць інтэрактыўныя метады, збірала дзяцей у гурток, працавала індывідуальна. У іх загарэліся вочы, ім стала зноў цікава. Праз паўгады працы выпускны клас напісаў некалькі цёплых радкоў у раённую газету.

Цяпер мы супрацоўнічаем з нашым сябрам, краязнаўцам Андрэем Аляхновічам з Крупскага раёна. Другі наш аднадумец, Рыгор Ануфрыенка, старэйшы за Пушкіна, цікавіцца гісторыяй і краязнаўствам.

Больш за 10 гадоў мы праводзім раскопкі гарадзішча жалезнага веку на возеры Сялява. Да працы далучыліся студэнты, скаўцкая харугва. У летні перыяд яны вядуць раскопкі, узімку супрацоўнікі ў Акадэміі навук вывучаюць назапашаны матэрыял. На сваім зямельным участку над ракой, калі ўскопваю агарод, я закранаю сярэднявечны культурны слой. Перыядычна то тут, то там знаходзяцца керамічныя рэчы. Калі вада размывае дарогу, дзеці знаходзяць у Бабры старажытныя манеты часоў ВКЛ.



*Нацюрморт са шчупаком*

Сын Міколка ўжо заангажаваны ў раскопкі. Што ён знойдзе, прыносіць на экспертызу. Я захоўваю скрынкі з керамічнымі парэшткамі наверсе на паліцах.

Мае вучні далучыліся да навуковай працы. У трох кіламетрах ад мястэчка Бобр мы знайшлі гарадзішча эпохі жалезнага веку. На Беларусі каля 1000 такіх гарадзішчаў. Мой вучань з дапамогай настаўнікаў падрыхтаваў даклад да раённай канферэнцыі і абараніў яго. Выпускнік Валеры Арцюховіч з Крупскага раёна скончыў універсітэт і вярнуўся настаўнічаць у свой раён. На жаль, такіх няшмат.

Алесь у вольны час чытае дзецям казкі, гуляе з імі ў мячык, глядзіць «Animal planet». Міколка ходзіць у трэці клас, ён смелы, настойлівы. На дзіцячых вечарынах выходзіць у ролі хлопчыка-беларуса, гучна чытае вершыкі, у яго ёсць святочны касцюм, які ён апранае.

Алесь любіць пілаваць дровы, займацца з зямлёй, звычайны вясковы клопат надае спакой душы.

Мы ходзім з дзецьмі ў лес, бярэм тэрмас з гарбатай, знаходзім у гушчы лесу нашу альтанку, адпачываем у ёй, п’ем грабату іназіраем за прыродай.

**Гутарыла Эла Дзвінская**



*Шпакоўні*

# «Адкуль у вырай вымкнулі вясёлыя шпачкі»

**Першы раз я ўбачыў шпакоўні Алеся Пушкіна, калі разам з тагачасным славацкім амбасадарам Любамірам Рэгакам ездзіў у родную для Алеся Пушкіна вёску Бобр. Менавіта тады і зразумеў, што гэта не проста творчы капрыз, а сапраўднае захапленне.**

**— Чаму менавіта шпакоўні?**

— Тут усё вельмі проста. Я рыхтаваўся сустрэць 90-годдзе БНР. Была халіпа, снег, завеі. Верыў, што ўсё гэта пройдзе, непазбежна прыйдзе вясна, прыляцяць шпакі. Безумоўна, усе нашы людзі ведаюць, калі ты робіш шпакоўні, гэта заўжды вялікі аптымізм — чаканне шчабятання, чаканне птушанят, чаканне любоўных спеваў. Я вырашыў, што будзе цудоўна адзначыць свята тым, што выставіць у сярэдзіне вёскі featherрознакаляровыя, яркія шпакоўні, прынесці туды



*Шпакоўні ў двары*

торт, частаваць ім людзей, слухаць музыку. Прастаяў роўна адну гадзіну дваццаць хвілін: больш не далі міліцыянты.

Неардынарная ідэя атрымала далейшае развіццё. Я падумаў, а што было б, калі б у нашай краіне кожны гаспадар, які мае ўласны домік, размясціў каля яго шпакоўні?

Шпакам усё роўна, дзе жыць. Ім галоўнае, каб не даставалі сарокі і каты, і каб было цёпла, утульна. А нам, людзям, не ўсё роўна, якія ў нас шпакоўні.

**— Наконт катоў усё зразумела. А сарокі?**

— Калі дзірачка вялікая, бывае так: падлятае сарока, сядае і лапай выцягвае птушанят, а шпакі лётаюць, пішчаць, бывае, дзяўбуць. Аднойчы я назіраў сам, як сарокі крадуць птушанят.

Я падумаў: кожны гаспадар клапоціцца пра прэстыж свайго дома (мікрараён, архітэктура), калі ён жыве ў горадзе, а калі не, то ёсць розніца, у якім ты пасёлку жывеш — у Шабанах ці Драздах. Так і са шпакоўнямі.

Таму ў маёй калекцыі ёсць шпакоўні для Драздоў, для аграгарадкоў, для тых, хто за адмену смяротнай кары альбо супраць мірнага атаму, што ў апошнія часы вельмі актуальна.

А вось яшчэ адна. Што арыгінальна падарыць дзяўчыне на 8 сакавіка? Не проста мімозу альбо якую-небудзь кветку. А тут — цэлая шпакоўня. Сапраўдны падарунак сапраўднага мужчыны. Усю вясну яго каханая цешылася б спевамі шпакоў, іх сямейнымі клопатамі і думала б: калі мне гэты мужчына на 8 сакавіка падарыў шпакоўню, дык, можа, у яго намеры самыя сур’ёзныя наконт стварэння агульнага дома?

Такія вось мне прыходзілі думкі, і я іх рэалізаваў. З радасцю адгукнуліся ўсе мае сябры. Пагадзіліся распісваць шпакоўні і зрабілі гэта вельмі цікава. Кіраўнік гурта «Палац» Алег Хаменка, зразумела, намаляваў палац. Зміцер Вайцюшкевіч распісаў шпакоўню прама на сваім канцэрце і зрабіў гэта з дзецьмі, якія былі яго слухачамі і гледачамі. Бачыце шпакоўню, дзе змяя і кветкі? Мастак Генадзь Драздоў намаляваў «цыклопа» — вока, вуха, нос.

**— А якая шпакоўня была самай першай?**

— Я зрабіў уласна 27 шпакоўняў. А яшчэ далучыў да гэтага праекта людзей, якіх люблю. Падкрэсліваю — люблю. З музыкаў — Варашкевіч, Вольскі, Хаменка, Вайцюшкевіч, з пісьменнікаў — Юры Станкевіч і Святлана Алексіевіч, з палітыкаў — Аляксандр Мілінкевіч, Вячаслаў Сіўчык і Наста Палажанка, з мастакоў — мой настаўнік Гаўрыіл Харытонавіч Вашчанка, Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, Леанід Дзмітрыевіч Шчамялёў, Генадзь Драздоў, Руслан Вашкевіч, Юра Мягкі.

...А гэту шпакоўню называюць «Еўрапейская», бо на ёй сцягі Расіі, Украіны і Беларусі. Веру, што рана ці позна так будзе. Гэта мой уласны погляд. Рэдка хто лічыць, што Расія апынецца ў Еўразвязе, бо гэта самадастатковая краіна, а я лічу, што, пэўна, выхаваны расійскі інтэлігент па сваёй сутнасці — еўрапеец. Не выпадкова там размешчаны сцягі, не каланіяльныя, а рэальныя. Не падпарадкаванне, а супрацоўніцтва.

Далей шпакоўня за адмену смяротнай кары. Так павінна быць. Бог дае чалавеку жыццё, і толькі ён мае рацыю яго забраць.

**— А якую можна назваць самай каштоўнай для сэрца?**

— Тая, што зроблена з саломы. Я не выпадкова вынес яе на першую старонку буклета. Яна вельмі звычная: скрыня, салома — і ўсё. А гэта зроблена з бярозы. Называецца «Руская», руская бярозка. Наступная назва — «Праваслаўная». Шпакоўня зроблена ў форме царквы.

Сціплая, падобная на скіт манаха, без афіцыёзу. Яна для Серафіма Сароўскага. Калі б гэты святы быў жывы, ён, думаю, змайстраваў бы менавіта такую.



*«Скрыпка дрыгвы»*

Вось цікавая «Экалагічная». Кара, ліпавае дрэва і леўказны, меланавы грунт. Ніякіх фарбаў і хімічных кансервантаў. Далей «Вечаровая» шпакоўня. Фіялетавая, зробленая з галінкамі бяроз. У пэўным сэнсе — гэта паўфабрыкат.

**— А што зрабіць хочацца яшчэ?**

— Там ёсць «Міколкава» шпакоўня. Яна зроблена менавіта для сына. Справа ў тым, што я выкарыстаў амаль усе яго цацкі. А на яго пытанне заўсёды адказваю: прададзім іншыя і купім цацак новых. Таму гэта, у нейкім сэнсе, яго ахвяра. З дапамогай кераміста і скульптара Андрэя Княжэвіча зробім керамічную. Павінна атрымацца даволі арыгінальна.

**Гутарыў Аляксандр Тамковіч**
**(у скарачэнні, поўны тэкст — у кнізе «Без палітыкі»)**



*«Сон-кветка», 2003 г.*

# Урокі прыгажосці

Некаторыя лічаць, што людзей гэтага тыпу ўжо няма на зямле. Што бязмежная дабрыня, бліскучы талент успрымання «калючай праўды», боль за Радзіму і душэўная прыгажосць не могуць спалучацца ў адной асобе. Што ўсё гэта загінула ў бруднай палітыцы, бізнэсе і ганебнай нянавісці адзін да аднаго.

Але гэта не так! Усё ж такі ёсць яшчэ такія людзі! Яны заўсёды знойдуцца сярод тысячаў, не — мільёнаў людзей. Ён не толькі таленавіты мастак і добры чалавек, але яшчэ і чалавек, які не баіцца выказваць свае меркаванні, несці праўду.

Так, я ведаю, што жыццё накладвае адбітак, што людзі змяняюцца, што схіляюць галовы, прайшоўшы палову шляху жыцця, што ў наш час святых ужо няма, і, мабыць, ужо больш не будзе, але для мяне ён — узор і прыклад, і зорка на небасхіле жыцця.

Мая бабуля Марыя Цімафееўна Капіістава, заўсёды з вялікай пяшчотай распавядала мне пра матулю Алеся — Ганну Іпалітаўну. Дабрыня, паважлівасць,



*Партрэт крупчанкі, 2005 год*

працавітасць гэтай жанчыны — лічыць бабуля, — перадаліся яе дзецям.

Любоў да матулі, любоў да жонкі, любоў да сына — яны прысутнічаюць у кожным слове, поглядзе, учынку Мастака.

— Я адзін з тысяч вясковых мастачкоў! — лічыць Алесь Мікалаевіч.

Але я мяркую, што не кожны мастак так любіць свой родны край, родныя мясціны, родных людзей, імкнецца зрабіць нешта добрае для ўсіх, клапоціцца пра будучыню, змагаецца з несправядлівасцю.

Гэта адметныя рысы Сапраўднай Асобы, Сапраўднага Чалавека.

Мне заўсёды вельмі цікава з ім: ці гутарым мы на сур'ёзныя тэмы, ці гарэзліва жартуем, ці займаемся маляваннем. Ніколі не адчуваеш сябе непатрэбнай у яго сям'і! Чуллівасць, дабразычлівасць Яніны Аляксандраўны прываблівають усіх, хто іх ведае.

Заняткі маляваннем з Алесем Мікалаевічам я не магу забыць ніколі! Бо гэта былі не проста ўрокі, перадача пэўнага вопыту ад настаўніка да вучня, а сапраўдны ўдзел у стварэнні Хараства і Прыгажосці! Алесь Мікалаевіч распачаў для мяне «Дзённік аднаго генія», і тое ўзвысіла мяне ў маіх вачах. Я імкнулася да лепшага, вучылася, мне было цікава. Так добра адчуваеш сябе толькі з сапраўды добрым чалавекам!

**Урывак з сачынення-роздуму Валянціны Ржэуцкай, вучаніцы 8 класа, СШ № 3, г. Крупкі, 2004 год**



# А цяпер — слова мастаку

Мне — 47 гадоў. Аглядаючыся на пражытыя гады, я бясконца ўдзячны Богу за тое, што нарадзіўся менавіта ў гэты няпросты, цікавы час на Беларусі. Што стаў мастаком...

Што жыву ў сваім Бабры, дзе спрадвеку жылі мае продкі, даглядаю іх могілкі, малюю ў царкве, якую адбудоўваем пасля пажару, жыву ў згодзе са сваёй жоначкай, чую беларускую мову з вуснаў маіх дзетак.

Працую вольна і натхняюся беларускім духам. Я — рэдкі вольны чалавек у нашай несвабоднай краіне. І я — дзіцё 1980–1990-х гадоў мінулага стагоддзя, гадоў Свабоды, Галоснасці, Новага Неба над Новай краінай. Гэту каштоўнасць я адчуваю і нясу ў сваім жыцці і творчасці, дзе б яна і ў якім бы жанры мастацтва ні была рэалізавана: роспісы і перформансы, жывапіс і татуіроўкі, тэатр і графіка...

І справа ў тым, што калі мы адчуем крыху пазней каштоўнасць і яркасць той эпохі канца мінулага стагоддзя, калі наша краіна пачала рабіць першыя крокі сваёй Незалежнасці рэальнай — то і мастацтва таго

часу нас зацікавіць... Тады і прыйдзе маё прызнанне. А рэакцыя ўлады на маю творчасць і грамадскую дзейнасць — усе гэтыя арышты, суды,ператрусы ды іншыя рэпрэсіі, гэта ўпартае ігнараванне і цкаванне — толькі робіць цікавейшай асобу мастака, прымушае больш пільна прыглядацца да яго творчасці ў кантэксце таго часу — калі старое, каланіяльнае мысленне змянілася незалежным, беларускім па духу, свабодным мысленнем.

Згадзіцеся, сапраўды варта быць удзячным лёсу за такое жыццё і ў такі цікавы час! Таму мне не зразумелыя мае калегі, якія — атрымаўшы талент ад Бога і дыхтоўную, высокапрафесійную, бясплатную адукацыю ў нашых ВНУ — з'язджаюць за мяжу працаваць! На каго ж вы кідаеце нашу кволую яшчэ ў культурным плане краіну?!

Хіба мала тут прастору для працы, адраджэння, культуры, няўжо ёсць пагроза фізічнага знішчэння, як гэта было ў 30-я гады мінулага стагоддзя?!

Наадварот, заходнія мастацтвазнаўцы і куратары часта казалі — як яны мне, уласна беларускаму мастаку з цвёрдай акрэсленай грамадскай пазіцыяй, шчыра зайздросцяць на рэакцыю і цікавасць грамадства і ўлады да маёй творчасці! Яна жывая, непадробная і па-свойму шчырая! Гэта і ёсць прызнанне, гэта і ёсць цікавасць жыцця і мастацтва ў кантэксце часу. І факт з'яўлення мастака, яго творчасць і жыццё, ужо колькі Бог адмерыць яму год, — ёсць сведчанне неўміручасці Беларускай ідэі, беларускага духу, прыклад таго, што мы можам адрадзіць нашу Беларусь, нашу культуру, самабытную, якая, нягледзячы ні на якія акупацыі і рэпрэсіі, будзе зноў і зноў падымацца з кален, горда і годна распраўляючы плечы, — глядзець смела і адкрыта ў Свет, несучы прыгажосць, хрысціянскія традыцыі, самабытнасць сваю! Было б толькі ўсвядомленае жаданне гэтага, Выбар і палітычная воля дзеля працы на будучыню!

Жыве Беларусь!
Жыве вечна!

**Алесь Пушкін, м. Бобр, 1 студзеня 2013 года**



*Нябёсы мастаку як ліхвяры*
*Час пазычаюць, каб паспеў адбыцца...*

Р. Барадулін

# Выставы

З 1986 года пачаў выстаўляцца на розных рэспубліканскіх штогадовых выставах у Палацы мастацтва ў Мінску.

1989 г. — Усесаюзная выстава студэнцкіх прац, Ленінград.

1989 г. — Выстава маладых беларускіх мастакоў, Ляйпцыг (Нямеччына).

1990 г. — I устаноўчы з'езд БНФ «Адраджэнне». Выстава маладых мастакоў, Вільня.

1990 г. — Усесаюзная выстава-конкурс дыпломных прац выпускнікоў вышэйшых мастацкіх установаў, Акадэмія мастацтваў, Ленінград.

1990 г. — Выстава «Скань» маладых беларускіх мастакоў у Маскве.

1991 г., сакавік — I персанальная выстава ў Віцебску «Артэфакты, інсталяцыі і аб'екты». АНМЦ народнай творчасці, вул. Леніна, 35 А; Куратар — Ларыса Міхневіч.

1991 г., чэрвень — Персанальная выстава ў Гродна ў залах гісторыка-археалагічнага музея. Зачынена з-за цэнзуры Абкама КПСС. Адказнасць за закрыццё ўзяла на сябе дырэктар музея Салаўёва А. А.

1992 г., сакавік — Персанальная выстава ў Доме літаратара, Мінск.

1992 г., кастрычнік — Персанальная выстава ў Магілёве, гарадская выставачная зала Саюза мастакоў Беларусі.

1993–1999 гг. — Штогадовыя выставы творчай суполкі «Пагоня», Мінск.

1994 г. — Рэспубліканская выстава сцэнаграфіі і мастакоў тэатра, Мінск, Палац мастацтва, Оперны тэатр.

1995 г., красавік — Выстава «Барока на Беларусі», Полацкі гісторыка-археалагічны музей-запаведнік, Сафійскі Сабор, Полацак.

1997 г. — Персанальная выстава «Біяграфія». Віцебск, Эстэтычны цэнтр «Маладзік».

1998 г. — Выстава беларускіх мастакоў у г. Штайнфурт (Stainfurt), (Нямеччына), галерэя «TREND».

1998 г., сакавік — Выстава «Жанчына ў творчасці Пушкіна», Орша, гарадская выставачная зала па вул. Леніна,18.

1999 г. студзень — Рэспубліканская выстава плаката, Мінск, Палац мастацтва.

1999 г., сакавік — Выстава «Нацюрморты Пушкіна», Орша, гарадская выставачная зала.

1999 г., травень — I Фэст беларускага духоўнага мастацтва, Мінск, Нацыянальны музей гісторыі Беларусі.

1999 г., верасень — I Міжнародны фестываль перформансу «Навінкі–99», Мінск, Палац мастацтва.

2000 г., 1–5 красавіка — Фестываль мастацтва Беларусі ў Познані (Польшча), галерэя «ARSENAL».

2000 г., 14–25 красавіка — Выстава «Адраджэньне–2000», Палац мастацтва, Мінск.

2000 г., 29 сакавіка — 8 красавіка — Выстава ў Новалукомлі, гарадская бібліятэка.

2000 г., 1–8 траўня — Выстава ў Коханава, Дом культуры.

2000 г., 2 ліпеня — Выстава «Nowa stuka Bielarusi», Варшава (Польшча), Замак Уяздоўскі.

2001 г., 25 сакавіка — Выставы «Перформанс вясны», «Панарама–2001», да 8-га з’езду Саюза мастакоў Беларусі, Мінск, Чырвоны касцёл.

2001 г., 13 снежня — Выстава «Не дазволена цэнзурай», Мінск, галерэя «Золата», вул. Сурганава, 16.

2002 г., вясна — Выстава ў Браславе, Дом рамёстваў.

2003 г., сакавік–красавік — «Пушкин и его Беларусь». Выстава ў Маскве, арганізаваная маскоўскай суполкай беларусаў «Скарына». Муніцыпальная галерэя «ВАРШАВКА», Паўночна-Заходняя акруга, Варшаўская шаша, 118.

2003 г., жнівень — Выстава ў Празе (Чэхія), галерэя «У Дамініканаў», Прага–1, вул. Дамініканска, 20, касцёл св. Іллі.

2004 г., кастрычнік — Выстава ў г. Вілейцы, выставачная гарадская зала імя Мікадзіма Сілівановіча.

2004 г., снежань — Выстава «Пушкін і яго Беларусь», Орша, музей У. С. Караткевіча.

2005 г., лістапад — Выстава ў Варшаве ў рамах акцыі «Беларускія спатканні», Варшаўскі ўніверсітэт.

2006, 2007, 2008 гг. — Штогадовая выстава дызайну «Дызайнбіржа», Мінск, Я. Купалы, 27, ВДНГ.

2007 г., 1–11 красавіка — Выстава «Разам», Мінск, Палац мастацтва.

2007 г., 19–28 красавіка — I Міжнародны пленэр у гарадку Вэнгрув (Польшча).

2008 г., 4–20 чэрвеня — Рэспубліканская выстава «Нацюрморт», Мінск, Палац мастацтва.

2008 г., 24 лістапада — Выстава да 50-годдзя душпастырскай дзейнасці айца Аляксандра Надсана, Мінск, Чырвоны касцёл.

2009 г., 22 лютага — 14 сакавіка — Выстава «Іконы былога воінаінтэрнацыяналіста», Орша, музей У. С. Караткевіча.

2009 г., 29 сакавіка — 19 красавіка — Выстава «Пушкін у Добрых Мыслях» — галерэя «Добрыя Мыслі», Мінск, вул. Магілёўская, 12.

2009 г., 20 мая — 1 чэрвеня і 22 ліпеня — 1 жніўня — Пленэры ў Польшчы. Вэнгрув, Суха Стара.

2009 г., 29 кастрычніка — 5 лістапада — Выстава «ART AGAINST DICTATORSHIP». Ратуша г. Осла (Oslo Sity Hall), Нарвегія.

2009 г., 23 лістапада — 23 снежня — «ART AGAINST DICTATORSHIP» — выстава ў Кангрэсе ЗША, Вашынгтон.

4 снежня 2009 — 10 лютага 2010 г. — Выстава «Галерэя А. Пушкіна з Беларусі», Музей сучаснага мастацтва г. Кальмар (Швецыя).

2010 г., 25 мая — Выстава «Мастацкая прастора Віцебшчыны», прысвечаная 40-годдзю Віцебскай абласной арганізацыі СМ Беларусі, Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва.

2010 г., 3–14 жніўня — Другі Міжнародны пленэр у Сухэ Старай (Польшча).

2010 г., 7 верасня — Выстава «Зямля пад белымі крыламі» — да 85-годдзя Першай агульнабеларускай мастацкай выставы (1925 г.), Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва.

2010 г., 7–21 лістапада — Міжнародны пленэр і выстава ў замку Ліў, Падляшша, (Польшча).

2011 г., 11–27 сакавіка — Выстава «Пагоня–20», Мінск, Палац мастацтва.

2011 г., 2–18 красавіка — Выстава «Беларусь Алеся Пушкіна», галерэя «Крыга», Гродна, вул. Савецкая, 3.

2011 г., 11 красавіка — 8 мая — Рэспубліканская выстава «Беларускі нацюрморт — лепшае за паўстагоддзя», Мінск, Палац мастацтва.

2011 г., 1–15 ліпеня — Выстава «100 білоруських художників», Львоў (Украіна), Палац Містецьтв, вул. Каперніка, 17.

2011 г., 30 ліпеня — Персанальная выстава і сустрэча аднаго дня — г. Верхнядзвінск, цэнтр «Рубон».

2011 г., 4–21 жніўня — Міжнародная Біенале «ШИРЯЕВО–2011», г. Самара (Расія). Куратар — Марцін Шыблі (Кальмарскі музей сучаснага мастацтва, Швецыя).

2011 г., 20 кастрычніка — 6 лістапада — Выстава «Манументальнае мастацтва Беларусі 2000–2011 гг.», Мінск, Палац мастацтва.

2011 г., 3 лістапада — 17 лістапада — Выстава «Горад святога Губерта», галерэя «Крыга», Гродна, вул. Савецкая, 3.

2012 г., 18–29 студзеня — «II Фэст беларускага духоўнага мастацтва», Мінск, Палац мастацтва.

2012 г., 27 студзеня — 10 сакавіка — «Sound of Silence. Art during dictatorship» — выстава ў галерэі EFA Project Space на Манхэтэне, Нью-Ёрк (ЗША).

2012 г., 28 студзеня — 9 красавіка — Выстава «*PAGANISM*» — *Кальмарскі музей сучаснага мастацтва, Швецыя.*

2012 г., кастрычнік-лістапад — Выстава «130 год Я. Купалу і Я. Коласу».

2012 г., 2–17 лістапада Выстава «Горад Святога Губерта», галерэя «Крыга», Гродна вул. Савецкая, 3.

# Тэатр

1993 г., лістапад — Афармленне сцэнаграфіі і касцюмаў VII міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі «IFMC — 93», Віцебск, КДЦ КІМ.

1994 г. — Сцэнаграфія, касцюмы, паліграфія да спектакля У. Шэкспіра «Кароль Лір» у Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа, Віцебск. У фае тэатра — выстава эскізаў касцюмаў, макета і карцін, створаных падчас працы над пастаноўкай спектакля (рэжысёр — Валеры Маслюк).

1997 г. — Сцэнаграфія, касцюмы і паліграфія да спектакля А. Стрындберга «Фрэкен Юлія» ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа, Віцебск. У фае тэатра — выстава эскізаў, макета і карцін да спектакля (рэжысёр — Антон Грышкевіч).

1999 г. — Афармленне паліграфіі да спектакля Э. Іанэску «Крэслы». Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, Віцебск (рэжысёр — Антон Грышкевіч).

2007 г., студзень–красавік — Афармленне спектакля «Летний лондонский дождь» па Б. Шоў у Палескім драматычным тэатры, г. Пінск (рэжысёр — Алена Гаўрыловіч). Сцэнаграфія, касцюмы, паліграфія. Сезон 2007–2008 гг.

# Манументальныя працы (Mural Painting)

1983 г. — Зграфіта на фасадзе дзіцячай музычнай школы № 11, Мінск, Грушаўка.

1987 г. — Роспіс танцавальнай залі дзіцячага корпуса санаторыя «Беларусь», Друскінінкай, Літва.

1990 г. — Роспіс фае Рэспубліканскага каледжа мастацтваў, Мінск (дыпломная праца).

1992–1996 гг. — Рэстаўрацыя і аднаўленне фрэсак у Архікатэдральным касцёле, Магілёў.

1995–1998 гг. — Роспіс царквы св. Міколы Цудатворца ў мястэчку Бобр.

2002 г. — Роспіс «Гісторыя палявання на Беларусі» ў Сакалавіцкім лясніцтве (Крупскі раён Мінскай вобласці).

2003 г. — Вітраж алтарнай часткі капліцы св. Яна Хрысціцеля ў Мінску, у Серабранцы.

2004 г. — Роспіс аздараўленчага цэнтру «Афіна Палада» ў Мінску, вул. Арлоўская, 40.

2006 г. — Зграфіта — роспіс «Даўняе паляванне», м. Самахвалавічы, вул. Набярэжная, 5.

2008 г. — Мазаіка «Святы Прарок Ян Хрысціцель» на фасадзе капліцы Яна Хрысціцеля ў Серабранцы, Мінск.

2008 г.— Роспіс фітнэс-цэнтра «Твои секреты», Мінск, вул. Прытыцкага, 83.

2011 г. — Роспіс «Галгофа» і вітраж «Святая Цэцылія» ў тэхніцы «тыффані» ў касцёле Дзевы Марыі в. Вішнева (Валожынскі раён Мінскай вобласці).

2012 г. — Аднаўленне табернакулюма ў Камайскім касцёле.

2012 г. — Рэстаўрацыя царквы Архангела Міхаіла ў Сынкавічах.

# Перформансы

1989 г., 25 сакавіка — I перформанс «Святкаванне Вясны», Мінск. Атрымаў за яго па суду 2 гады ўмоўна з 5-гадовым паражэннем у правах (суддзя Чамрукоў).

1990 г., лістапад — Перформанс «Далоў ідала», Віцебск, плошча Свабоды.

1991 г., сакавік — Перформанс «Вясна, Вольнасць, Каханне», Віцебск, Успенская Горка.

1991 г., 20 жніўня — Перформанс «Сцяг над Ратушай», Віцебск. Ратуша горада.

1992 г., сакавік — Перформанс «Avec, abandon...», Мінск, Дом літаратара.

1995 г., 12 лістапада — Перформанс «Шляхам Святога Ясафата Кунцэвіча», Віцебск, Успенская Горка, рака Дзвіна.

1999 г., 21 ліпеня — Перформанс «Гной для Прэзідэнта», Мінск. Атрымаў за яго па суду 2 гады ўмоўна (суддзя —Хрыпач С. В.).

1999 г., 9 верасня — Перформанс «Ліпеньская раніца Джахара Дудаева», Мінск, Палац мастацтва.

2000 г., 4 красавіка — Перформанс «Новы Беларускі Партызан», Познань, (Польшча), галерэя «ARSENAL».

2000 г., 9 верасня — Перформанс «На Крапівенскім полі» пад Воршай.

2001 г., травень — «INTERAKCJA 2001», Петрыкаў-Трыбунальскі (Польшча). Перформанс «НЯМІГА–99».

2001 г., 25 сакавіка — «Перформанс Вясны», разам з паэтам Андрэем Хадановічам і спявачкай Таццянай Цыбульскай. Мінск, Чырвоны касцёл.

2002 г., 3 ліпеня — Перформанс «Solder of Fortune», Мінск, Плошча Незалежнасці.

2004 г., 9 верасня — Перформанс «Уваскрасаюць там, дзе ёсць магілы...» на Карлавым мосце ў Празе.

2005 г., 28 лістапада — Перформанс «Пушкін у Варшаве», Варшава, Цэнтр спатканняў на вул. Хлоднай, 25.

2007 г., 10 чэрвеня — Перформанс «Захаванне» ў Гродна ля Старой сінагогі.

2007 г., 6 ліпеня — Перформанс «Купалле ў Бабры», мястэчка Бобр.

2008 г., 27 сакавіка — Перформанс «90 год БНР» на Цэнтральным пляцы мястэчка Бобр. За гэта асуджаны Крупскім райсудом (суддзя Сіз А. М.) да штрафу.

2009 г., 25 сакавіка — «Пленэр Вольнасці» на Цэнтральным пляцы мястэчка Бобр. Упершыню за гэта не пакараны.

2009 г., 4 лістапада — Перформанс «Малітва за Свабоду». Осла (Нарвегія).

2011 г., 15 сакавіка — Перформанс «Сустрэча Новага Года на Беларусі», Варшаўскі ўніверсітэт, Варшава, Кракаўска Пшэдмесце, 26/28.

2011 г., 18 траўня — Перформанс «Апошні дзень Шэнгенскай візы», Вільня, вул. Пілес, 17.

2 верасня, 4 снежня 2012 г. — Перформанс «Памяці Р. Лапіцкага» г. Смаргонь.

# Кніжная графіка

1990 г. — Афармленне зборніка вершаў «Ёсьць» Міраславы Лукшы, Беласток, Польшча.

1996 г. — Афармленне зборніка вершаў Людмілы Сіманёнак «У люстэрку», Віцебск.

1999 г. — Афармленне кнігі Андрэя Мельнікава «Выжывае падлейшы».

1999 г. — Афармленне зборніка вершаў Славаміра Адамовіча «Плавільшчыкі Расы» (не здзейснена).

2003 г. — Афармленне кніжкі «Сатырыкон» пісьменніка Юрыя Станкевіча.

2004 г. — Афармленне зборніка вершаў «Птушкі і рыбы» паэткі Ларысы Раманавай.

2005 г. — Афармленне зборніка вершаў паэткі Леры Сом «Свабода слова зіма».

2012 г. — Афармленне зборніка паэзіі Сяргея Сыса «Стрэмка».

# Працы захоўваюцца

У гарадскіх карцінных галерэях Оршы, Віцебска і Полацка, Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі, Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску, музеі У. Караткевіча (Орша), Беларускім музеі ў Нью-Ёрку, Музеі сучаснага мастацтва г. Кальмар (Швецыя), Музеі-збраёўні замка Ліў (Польшча), у зборах Беларускага рыцарскага клубу (Мінск).

У прыватных зборах Беларусі, Польшчы, Латвіі, Літвы, Нямеччыны, ЗША, Фінляндыі, Расіі, Францыі, Нарвегіі, Швецыі, Бельгіі.

# Ганаровыя званні

Лаўрэат Другой нацыянальнай прэміі «Хартыя–97» у галіне абароны правоў чалавека ў намінацыі «За смеласць у творчасці», 1999 г.

Лаўрэат прэміі імя В. Быкава «За свабоду думкі» 2009 года Руху «За Свабоду».

У 2005–2007 гг. рэжысёрам Анджэем Фідыкам зняты 78-хвілінны дакументальны фільм пра жыццё і творчасць Алеся Пушкіна «Беларускі вальс». Паказаны па агульнанацыянальных тэлевізійных каналах Польшчы (2007 г.), Швецыі, Нарвегіі (2008 г.) і ЗША (2008 г.).

4 і 6 красавіка 2009 г. паказаны на міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў «MOVIES THAT MATTER», арганізаваным «Amnesty International» у г. Гаазе (Нідэрланды), куды і быў запрошаны сам мастак у якасці спецыяльнага госця. Гэты фільм быў намінаваны на прэмію «Emmi Awards» у 2009 годзе, увайшоў у чацвёрку фінальных фільмаў, але не атрымаў яе.



**Цуды вясновай зямлі**

Якія шэдэўры стварае мастак-сакавік!
Сівыя палотны грунтуючы марай-надзеяй,
Ён фарбы вясёлкі збірае на пэндзаля цвік
І ўводзіць у свет паэтычнай душой чарадзея.

У шэрых нябёсах малюе малінавы сон.
Запэцканы снег адсініяе шыкоўным адценнем.
Яго акварэлі змяняюць графічны сезон –
І зноў ажываюць пяшчотай паўтоны, паўцені.

Ён птушак гукае – каб радасцю дрэвы гулі.
Звініць ручаямі, купае праменчыкі сонца.
Спаўняе сімфонію "Цуды вясновай зямлі",
Злучаючы колеры, гукі і пахі бясконца.

На дзіўную музыку промні мазкамі кладзе,
Яскравым святлом саграваe жывыя малюнкі
І шчасце даруе... Вясна-прыгажуня ідзе!
Хто ў шапку не спіць, той збірае яе пацалункі...

**Таццяна Дзям'янава**

# Спіс літаратуры

1. Народжаны Палессем. Гаўрыіл Вашчанка. Наталля Шарангові. Мінск: «Мастацкая літаратура», 2008.

2. Іскры майго жыцця. Нінэль Шчасная. Мінск: Беларускі дом друку.

3. Культурология. Минск: «Тетрасистэмс», 2007. Под редакцией проф. С. В. Лапиной.

4. Жывапіс Беларусі XIV—XIX стагоддзя. Мінск: Беларусь, 1995.

5. 100 знаменитых картин. Сборник статей. Москва: Вече, 2007.

6. Канфесіі на Беларусі. «Рэлігія ў сучасным беларускім грамадстве» (У. М. Завальнюк, У.І. Навіцкі), 1998.

7. Великие художники. Рафаэль. Ярославль: «Директ — Медиа», 2009.

8. Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах. Мінск: «Беларуская энцыклапедыя», 2001–2004.

9. Люблю Беларусь. Павал Севярынец. Вільня: Інстытут Беларусістыкі, 2007.

10. Без палітыкі. А. Тамковіч. С.-Петербург: Невский простор, 2011.

11. Забыты вернісаж. Наталля Маліноўская-Франке: Гарадзенская бібліятэка: Гродна, 2012.

12. Апостал духоўнасці. Яўген Шунейка. // «Наша вера», № 1(19), 2002.

13. Зямля і неба Фердынанда Рушчыца. Яўген Шунейка. // Беларускі гістарычны часопіс, № 10, 2007.

14. Вялікае княства. Уладзімір Арлоў. Зміцер Герасімовіч. Kalligram, 2012.

15. Ганс Христиан Андерсен. Полное собрание сказок и историй в 3-х томах. Москва: Литература, Престиж бук, 2009–2010.

16. Б. Ямант — носьбіт традыцый Віленскай школы. Ян Катлоўскі // Лідскі Летапісец, № 3(55).

17. Пётра Васілеўскі. Прасьпект Пушкіна // «Дзеяслоў», № 4, 2003 год.

18. Ales Pushkin. *An Introduction.* Martin Schibli. December, 2009.

19. «Жыццё — ёсць няспынны мастацкі працэс». Гутарка Галіны Дубянецкай з Алесем Пушкіным // «Дзеяслоў», № 1 (32), 2008.

20. www.pushkin.by

21. Багуслаў Радзівіл. Аўтабіяграфія. Мінск: «Радыёла-плюс», 2009.

# Змест

## Героі партрэтаў і карцін



## Нашчадак вікінгаў

